


Альгерд Бахарэвіч

# малая мэдычная энцыкляпэдыя бахарэвіча

Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода

**Альгерд Бахарэвіч. Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. – 320 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*
Мастацкі рэдактар *Генадзь Мацур*

Рэдактары *Ян Максімюк*, *Сяргей Шупа*
Мастак *Генадзь Мацур*

«Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча» (ММЭБ) – антынавуковае выданьне для шырокага кола дактароў-самавучак. Адрозьненьне ММЭБ ад іншых энцыкляпэдыяў такога кшталту ў тым, што яна трактуе найважнейшыя мэдыка-біялягічныя, клінічныя і мэдыка-сацыяльныя праблемы з пазыцый чалавека, якому тэрмінова патрэбная мэдычная дапамога і які гэтую дапамогу катэгарычна адхіляе.

У кнізе выкарыстаныя ілюстрацыі з выданьняў: *Surgical Anatomy by Joseph Maclise, 1859; Anatomy of the Human Body by Henry Gray, 1918.*



ISBN 978-0-929849-40-9

# Зьмест

# Usie vyzdaraviejem

М-М-Э… – так неразьвітая гартань малпы, як пісаў нямецкі прыматоляг Фр. Энгельс, марудна, але няўхільна перастваралася шляхам мадуляцыі (дыялектыка прыроды!), каб дзяліць гукі на члены:

Бах! Арэві! Ча!

Губы размыкаюцца арганным выбухам, які запаўняе гатычныя скляпеньні нёба, пралятае верхнім рэгістрам і абрынаецца ў вільготныя альвэолы, каб прапішчаць і чмокнуць, як прыдушаны зьвярок: сьмерць.

Бахарэвіч ведае, дзе ў целе жыве душа.

З гэтымі ведамі ён мог бы працаваць прарокам, але ня любіць, калі б'юць камянямі, начальнікам турмы, але ўсе падапечныя разьбягуцца, вартаўніком на могілках, але хто ж прызначыць.

Таму ён займаецца тым, што лічыць, колькі дэманаў можа зьмясьціцца на вастрыі піксэля: літара – пёрка, радок – крыло, эсэ – адзінка лятальнасьці: эўтаназія.

Яго не цікавіць двухвымерны рэалізм здароўя. Мэдыцына для яго – пачуцьцё, хвароба – сутыкненьне арганізму з часам, цела – гісторыя тэксту.

Маркіз дэ Гарод, доктар лекарскіх навук, прапісваў сваім пацыентам вуаерызм замест традыцыйнага экзарцызму («Чытаньне пісаньня кнігі на сайце svaboda.org як шокавая тэрапія», Bacharevič Studies, 22.01.2010 18:03 – 08.10.2010 21:16). Многія выжылі.

Паказьнік імёнаў гэтай энцыкляпэдыі сам зьяўляецца энцыкляпэдыяй.

Няпоўнай, але дастатковай. Happy end ужо напісаны.

*Аляксандар Лукашук, Радыё Свабода*






# Сьмерць

Томас Ман у сваім эсэ «Трое магутных» з захапленьнем піша пра Бісмарка, параўноўваючы яго з Гарганцюа:

«…На вячэру ён звычайна праглынаў палову індычкі, выпіваў паўбутэлькі каньяку, запіваў усё гэта трыма бутэлькамі мінэральнай рэйнскай вады, а потым выкурваў пяць люлек тытуню…»

Наогул, палітыкаў рэдка параўноўваюць з Гарганцюа – часьцей з рознымі жывёламі, з часткамі цела ці, зрэдку, зь іншымі палітыкамі. Палова індычкі, паўбутэлькі каньяку, пяць люлек штовечар – цяперашні палітык на такой эстэцкай дыеце ў наш памяркоўны век ня меў бы ніякіх шанцаў. Так, палітыкі драбнеюць, і ня толькі ў Нямеччыне, і трэба сказаць, здрабнець – гэта найлепшае, што палітык можа зрабіць для грамадзтва. Але Бісмарк, самавіты бронзавы Бісмарк зь мячом, які ўзвышаецца паблізу ад гамбурс-

кага порту, усё яшчэ пераварваючы ўсіх сваіх індычак (стоячы больш улазіць) – ён быў іншага часу і іншае пароды. Гэткая ненасытнасьць не перашкодзіла жалезнаму канцлеру дажыць да васьмідзесяці трох гадоў і зрабіць такую кар’еру, што Ман без ваганьняў ставіць яго ў адзін шэраг зь Лютэрам і Гётэ. Бедная сьмерць – яна шукала канцлера на сялянскіх дварах і выганах Брандэнбургу, у казармах Прусіі, а ён гэтым часам спакойна круціў Эўропай у сваёй сталовай, і так паўстагодзьдзя.

Я ня Бісмарк і ня Томас Ман, я жыву ў век, калі спажываньне індычак, тытуню і каньяку лічыцца ледзьве не злачынствам, што разам, што паасобку; я «вялы й тоўсты, як шэксьпіраўскі Гамлет, што я магу?..» Толькі тое і магу, што сядзець на гэтым сайце, калітыпамрэш-кропка-ру, разам зь іншымі маладымі танатафобамі, услухоўвацца ў куваньне віртуальнай зязюлі і цешыцца салодкім страхам. Даведайся дату сваёй сьмерці! Зазірні ў канец кнігі, усё адно яе ўсе ўжо прачыталі. А пакуль што раніца, на сайце шэсьцьдзесят сем наведнікаў, увечары іх будзе значна больш, раніцай ніхто ня хоча думаць пра танатас, раніцай ахвотней думаецца пра эрас, пра баблос, пра півас, што там яшчэ абяцае гэты дзень? Дарэчы, цалкам магчыма, апошні. Я памру – кропка-ру. Памірай – кропка-бай. Мы ніяк ня можам прыступіць да справы, нешта замінае нам пачаць тэст – можа быць, рэкляма: эрасу, півасу, баблосу і іншых вечных каштоўнасьцяў.

Мусіць, калі б трыццаціпяцігадовы Бісмарк наведаў гэты сайт у надзеі пачуць запаветны адказ ад зязюлі, тая не напрарочыла б яму надта шмат. Нездаровая ежа, алькагалізм, курэньне, стрэсы… Адсутнасьць прышчэпак. Дактары – яшчэ дылетанты, марудная зара мэдыцыны. А ён узяў і пражыў восемдзесят тры гады – як пяць люлек запар выкурыў.

Цяперашні Палітык, які кіруе няхай не Эўропаю, але пэўнай яе часткай, – ён, вядома, ня Бісмарк, ня той маштаб, ня тыя дыеты. Але і яму не чужое нешта бісмаркаўскае: «Калі хочаце пабудаваць сацыялізм, вазьміце краіну, якую не шкада», сказаў неяк жалезны канцлер, – так і наш герой абачліва абраў нас дзеля сваіх экспэрымэнтаў, нас, ня вартых шкадаваньня, бо каму ёсьць справа да вялых і тоўстых?.. Мы зь ім не знаёмыя, але якое страшнае адкрыцьцё: ён, гэты Цяперашні Палітык, прадвызначае мой лёс, круціць ім у сваёй сталовай, як жалезны канцлер кіем перад вячэрай. Гэты Цяперашні Палітык – яшчэ тая пачвара, гэта дзякуючы яму «цёмныя часы» ніяк ня скончацца, і мы ўсё валяемся і валяемся ў ложку бясконцай зімовай раніцай, марна чакаючы на будзільнік; ён як той кракадзіл, які, апанаваны выключна спартовым азартам, праглынуў сонца – замест каньяку і індычкі, трэба думаць. Ён, вядома ж, некалі памрэ, як і я, напэўна, гэта адзінае, што нас яднае, і вось што цікава: паміж датамі нашых будучых сьмерцяў існуе залежнасьць, прыхаваная ўзаемасувязь, тонкая нітка, заўважная хіба таму, хто аб яе спатыкнецца. Таму калі

я, утаропіўшыся ў манітор, думаю пра дату маёй сьмерці, то непазьбежна цікаўлюся і ягонай.

Ваш целасклад? У Цяперашняга Палітыка ён цалкам звычайны, каржакаваты, мужыцкі. А я – я вялы й тоўсты, як шэксьпіраўскі… Так, мне падабаецца паўтараць гэтую фразу, яна геніяльна прыдумана. Лёгіка тэсту няхітрая: тоўстыя людзі больш схільныя да хваробаў і жывуць менш. Такім чынам, мінус колькінаццаць гадоў для мяне і трохі пунктаў для Яго. Ці курылі вашыя бацькі да вашага нараджэньня? Маці дакладна не, ні мая, ні ягоная, тут у нас нічыя. Вы жывяце ў горадзе з насельніцтвам больш за сто тысяч чалавек? Так, нашыя зь Ім гарады амаль аднолькавыя па гэтым паказьніку. Але я гараджанін у трэцім пакаленьні, а ён – лічы, вясковец, таму здаравейшы, на два пакаленьні здаравейшы, здароўе лёгка вымяраць у пакаленьнях гарадзкіх продкаў, як да гэтага не дадумаліся раней?

А вось колькі дзён на год вы бываеце за горадам? Мы там амаль не бываем, бо мы зь Ім занятыя людзі, у нас зь Ім справы, мы напружана слухаем нашых зязюляў, дзень пры дні, і ён, і я – хай магчымасьці нашага слыху несувымерныя.

Вы шчасьлівы чалавек?

Так, адказваю я. «Ашчасьліўлены», – падказвае мне Цяперашні Палітык. Не, кажу я. Проста шчасьлівы. Усім на злосьць.

Наколькі добрая экалёгія ў вашым горадзе?

О, мой горад паводле дасьледаваньняў мае ледзьве не найчысьцейшае паветра на кантынэнце, калі браць у разьлік вялікія прамысловыя



гарады, вядома ж. А ягоная шэрая сталіца – недзе ў хвасьце рэйтынгу. Так што тут я бяру ў яго рэванш. Выпадкова.

Якой вы занятыя працай: разумовай ці фізычнай?

Разумовай, на жаль. Я, можа, і хацеў бы займацца фізычнай, але мяне ня ўзялі па стане здароўя. Розум – гэта такая сабе інваліднасьць, разнавіднасьць самакалецтва.

А якая ў вас адукацыя? У мяне храновая адукацыя, якую назвалі вышэйшай хіба з-за паверху, на якім я здаваў выпускныя іспыты, з таго паверху была відаць уся плошча Леніна, і сам Ленін паказваў у мой бок пальцам, ці то выкрываючы мяне перад кімсьці, ці то абіраючы з шэрагу для нейкай аднаму яму вядомай місіі. Усё, што я ведаю, я вывучыў сам. А ў Яго іх ажно некалькі, гэтых вышэйшых адукацый, ён таксама інвалід. Лёгіка тэсту падказвае, што фізычная праца павінна дадаць гадоў жыцьця, а разумовая скідвае цябе ўніз з гэтай хісткай, стромай турнірнай табліцы. Вось я і лячу…

Дык вы шчасьлівы чалавек?

Так.

Вы робіце ранішнюю гімнастыку?

Раніцай я перш-наперш выкурваю люльку і потым доўга сяджу за кампутарам, наведваючы сумнеўныя сайты кшталту калітыздохнеш-кропка-бай. А Ён – ён вядомы спартсмэн, ён ня толькі сам робіць ранішнюю гімнастыку, усё жыцьцё яго падданых – гэта ранішняя паўночнакарэйская гімнастыка, асабліва ён любіць прымушаць

рабіць яе сваіх азызлых чыноўнікаў, адзін зь небаракаў нават нядаўна памёр праз гэткую непасільную нагрузку, хаця сьмерць і прызначыла яму толькі праз дваццаць гадоў. Ён любіць гульні; у прыватнасьці, Цяперашні Палітык любіць гуляць у Сьмерць – як дзеці гуляюць на Гэлоўін. Пастраляць, пасваволіць, пакорпацца ў пясочку з чужой лапаткай, хаваючы мёртвыя целы – забавы вечнага хлопчыка. Ён атрымлівае яшчэ дзесяць пунктаў, а я хвігу.

Дык вы шчасьлівы чалавек, кажаце? Не страляючы, ня робячы гімнастыку, не хаваючы нікога ў пясок? Са сваёй хвігай?

Так.

Вы рэгулярна праходзіце мэдагляды?

Ненавіджу дактароў і мэдагляды. Мяне палохае гэтая залежнасьць, у якую трапляе пацыент, гэты постмэдычны сындром, хваравітая ўвага да мармытаньня ўласнага арганізму.

Як чалавек, якога зацягалі па раённых і абласных судах, больш ужо ніколі ня зможа ачысьціцца ад юрыдычнага налёту, ад своеасаблівага канцылярскага шарму, так і за руплівым пацыентам заўжды будзе цягнуцца шлейф бальнічных водараў, цень брыдкага бальнічнага эгаізму, уласьцівага ўсім, хто наведвае дактароў. А Ён, несумненна, пацыент нумар адзін у краіне – як жа ж, як жа ж, скарб нацыі. Якой няма.

Вы маеце сям'ю?

Так, я маю. Гэта кепска ці добра для працягласьці жыцьця? Напэўна, гэта дае ў суме абсалютны нуль: бо ўсё добрае, што нясе сям'я,



нэўтралізуецца ёй жа падоранымі стрэсамі. А Ён ня мае гэтага нуля. Я радуюся ня факту, я радуюся за тых, хто мог стаць яго сям'ёй, але ня стаў.

Дык вы шчасьлівы чалавек?

Так.

Ну, дапусьцім. Які ў вас характар?

Спакойны. Вялы… Гамлетаўскі… Старамодны мэлянхалічны тэмпэрамэнт. Да Ягонай нардычнасьці мне так ці інакш далёка. Мой характар не прадугледжвае эмацыйнай разгрузкі, так што тут Ён выйграў. (Не пацiскаць руку, толькі не паціскаць руку, Ён ужо амаль труп, засталося няшмат.)

Ці былі ў вашым родзе доўгажыхары?

Не. Ніхто не дажыў да ўзросту Бісмарка. А ці былі ў вашым родзе спадчынныя хваробы? Пэўне ж, былі. Далей, далей, разьвязка блізка.

Вы ўжываеце алькаголь? Як часта? Які? Так, я п'ю амаль штодня, моцныя напоі, няшмат, роўна столькі, каб перажыць цёмныя часы, каб ня зьмерзнуць у іхным лютым холадзе, што, безумоўна, усяго толькі бессэнсоўнае апраўданьне, на якія алькаголікі заўжды такія майстры! Ён жа, са свайго боку, прызнаўся нядаўна ў тым, што дрэнна пераносіць алькаголь. Таму ён зноў выйграе. Сто пунктаў для Палітыка!

Вы курыце? Так, я куру, усьведамляючы ўсю заганнасьць гэтай справы і глыбіню свайго маральнага падзеньня, але халера на вас, цёмныя часы сапраўды вымагаюць сьвятла, хаця б гэтага мізэрнага, дрогкага блукаючага агеньчыка

ў цёплай люльцы. А вось Ён ня курыць, рэлігія не дазваляе.

Дык вы шчасьлівы чалавек?

Так.

…Шчасьлівы?

Так. Шчасьлівы ідыёт.

Як часта вы займаецеся сэксам?

Зараз палічу. Разоў пяць на тыдзень. Калі чатыры, калі і два. Бываюць і стэрыльныя тыдні. Што да яго, то не сумняваюся, што ў яго менш. Чаму вы так думаеце? Я ня думаю, я ведаю. Пры ўсёй непавазе да Фройда – у Яго ёсьць улада, добрая замена сэксу, улада, шыкоўная штучная вагіна, ад якой цяжка адмовіцца.

У вас добрая памяць?

У мяне была калісьці добрая памяць. Я мог запамінаць тэксты старонкамі, любая інфармацыя, што паступала ў мозак, магла быць адноўленая на першае патрабаваньне. Але моцныя алькагольныя напоі, курэньне і гады ўзялі сваё. А вось у яго занадта добрая памяць. Ці, лепш сказаць, злапамяць. Што карысьней мець – кепскую памяць ці добрую злапамяць – толькі наша зязюля ведае адказ.

Вас непакояць запоры?

Што?

Запоры.

Не.

Значыць, вы шчасьлівы чалавек?

Так.

Гэта канец тэсту. Засталося адзін раз клікнуць – і мы нарэшце даведаемся: калі ж? Мы ставімся



да гэтага надзвычай сур'ёзна, такія правілы. Дурное спаборніцтва, на якое нас выклікаюць цёмныя часы… Адчуваньне, што выйграць мусіць нехта трэці: ня я, ня Ён, а нехта, каму ніколі ня прыйдзе ў галаву ўдзельнічаць у такіх тэстах. Закуру – кропка-ру…

Мы глыбока ўдыхаем і клікаем, адвярнуўшыся ад манітора так, як заўзятары адварочваюцца ад поля падчас усё вырашальнага пэнальці. Паволі адплюшчваем вочы. «Каб даведацца адказ, адпраўце СМС на нумар…», – кажа нам абыякавая сьмерць аднекуль з Казахстану. Мы лаемся матам, мы гуглім і шукаем тэлефонны код Казахстану. Мы дасылаем чортаву СМС, адказу няма, суцэльнае ашуканства, і толькі ўначы, калі мы ўжо сьпім (мяркуючы па дэкарацыях, у нейкай катоўні), тэлефон раптам грае дзяржаўны гімн.

«Vi shchaslivyj chelovek?» – пытаецца сьмерць, сьвецячы нам у вочы сінім.

І тады, блытаючыся ў кнопках у гэтай непраглядынай цемры, мы, ціха лаючыся, зноў і зноў навобмацак набіраем:

«Т А К».






# Алькагалізм

Цягнік «Масква-Бэрлін» яшчэ не крануўся зь месца, ня ў змозе скінуць зь сябе моцнае, як абдымкі ўдава, прыцягненьне менскага чыгуначнага вакзала – а яны ўжо п’яныя. Яны займаюць два ці тры купэ ў прычэпленым вагоне, алькаголь пакідае на іхных абліччах грубыя, яркія сьляды: барвовыя плямы на тоўстых шыях, пісягі пад вачыма, пунсовыя насы сьвецяцца ў паўзмроку калідора – баявая афарбоўка воінаў, што едуць на чужыну ратаваць сьвятое аўтамабільнае ламачча ад разбэшчаных бюргераў-басурманаў. Іхныя галасы становяцца ўсё гучнейшымі і, калі цягнік нарэшце вырываецца з гораду і вырушвае на захад, заглушаюць перастук колаў: «бар-бар-бар» – чуецца ў вагоне, «бар-бар-бар», і чаго толькі няма ў гэтай няхітрай мове: тут і ўсе мінулыя і будучыя бары, дзе яны адзначаць свае гешэфты, тут і танныя бардэлі, якія яны таропка наведаюць перад вяртаньнем на радзіму, тут і іхныя пакі-

нутыя дома бабы, тут і сьмярдзючы дух іхнага амаль франтавога брацтва, які напоўніў увесь вагон, тут і Баранавічы, якія мы толькі што праехалі, і Bargeld, якім напханыя іхныя кішэні, і мы, бараны-пасажыры, якія маўчаць і ўдаюць, што ўсё ў парадку. Раньняя вясна, сэзон крыжовых паходаў за Одэр, цямнее яшчэ рана, купэ зачыняюцца, на падушкі нацягваюцца навалачкі, а яны – яны ходзяць па вагоне, грукаючы ў дзьверы і пагрозьліва пытаючыся: Каго любіш? Люблю Беларусь, адказваюць ім з-за дзьвярэй дрогкія, баязьлівыя галасы, люблю Беларусь, люблю. Ну глядзі, адказваюць яны, глядзі, любі, а калі перастанеш, мы табе нагадаем, што такое Беларусь: гэта п'яны шляфвагэн, што нясецца празь цемень і ляціць пад адхон, гэта наш цягнік, і ён едзе на фронт, а ты, дурань, дэзэртэр, уявіў сабе, што й праўда можаш уцячы на ім? На польскай мяжы некаторыя зь іх будуць ня ў стане дастаць з торбы пашпарт, а іншыя, навічкі, будуць ванітаваць у тамбуры. Паляк у мокрай фуражцы прабяжыць па калідоры, гідліва паўтараючы так, каб чулі ва ўсіх купэ: «Вагон піякув! Піяцкі вагон!» Ніхто яму не запярэчыць. «Што ж вы рабіць зь імі будзеце?» – пагардліва спытае ён правадніцу на разьвітаньне, і яна толькі паправіць споўзлую спадніцу і пасьміхнецца размазаным ротам. Зь цягніка ссадзяць усіх цыганоў, чачэнцаў, віетнамцаў і манголаў, застанемся толькі мы і яны: адной крыві, адной вокладкі пашпарта, цывільныя і салдаты, тыя, хто зачыняюць купэ і тыя, хто ў іх грукае. З адным з франтавікоў мы сутыкнемся ля прыбіральні:



калідор занадта вузкі для нас дваіх, мы будзем доўга глядзець адзін аднаму ў вочы, ажно пакуль ён не ўцягне сваё велічнае пуза і не прапусьціць мяне. Калі наш шляфвагэн адарвецца ад зямлі і ноч паглыне нас – што ты будзеш рабіць з намі, нашая нябесная праваднiца, перад кім ты будзеш прасіць за нас заступіцца, як ты зможаш забыць нас, калі марознай раніцай мы нарэшце выйдзем у памежным нямецкім гарадку?

Аляксандр Геніс згадвае ў адным са сваіх эсэ цікавы звычай, які быў распаўсюджаны ў старажытных германскіх плямёнаў. Самыя важныя рашэньні яны прымалі такім чынам: спачатку абмяркоўвалі ўсё цьвярозыя, а назаўтра – у стане алькагольнага ап'яненьня. Калі вынік заставаўся той самы, рашэньне ўхвалялі. Падыход даволі мудры: у тыя паганскія часы людзі разумелі, што так званая аб'ектыўная рэальнасьць – насамрэч толькі адна з многіх рэальнасьцяў, і законы, усталяваныя для адной, не абавязкова будуць дзейнічаць для іншай.

Напрыклад, паводзіны накачанага алькаголем ці наркотыкамі ворага цяжка прадказаць, калі ты глядзіш на яго цьвярозымі вачыма – вораг будзе кіравацца іншай лёгікай, ён апанаваны іншымі дэманамі і таму непераможны. Паспрабаваць стаць на яго месца значыць пазбавіць яго моцы. Асьляпіць сябе, аглушыць, пазбавіць сябе рацыянальнага розуму часам вельмі карысна – як вядома, у такія моманты ў чалавека абвастраюцца іншыя пачуцьці і ён можа спасьцігнуць нешта, што ў цьвярозым стане для яго недасяжна… Як

геніяльны шахматыст, п’яны здольны знайсьці разьвязаньне задачы там, дзе пасрэдны гулец ня бачыць нічога, апрача статычных фігурак. У п’янага іншы ўзровень магчымасьцяў, іншы болевы парог, іншае ўяўленьне пра табу, аслаблены інстынкт самазахаваньня… П’яны цьвярозаму не таварыш – хіба што абодва яны камуністы.

Алькаголь у вялікіх дозах дае чалавеку магчымасьць пагуляць з рэальнасьцямі, як дызайнэр гуляе з колерамі і шрыфтамі. Дабрыня і заспакоенасьць зьмяняецца агрэсіяй і тугой, шчасьце – чорнай роспаччу, усе гэтыя мілыя твары, якія хочацца расцалаваць, умомант могуць ператварыцца ў бязьлітасныя зьвярыныя пысы. Чалавецтва, якое ты так любіш пасьля пятай чаркі, пасьля дзясятай гоніцца за табой зь сякераю па вуліцах, што высьлізгваюць у цябе з-пад ног.

Каб даведацца сапраўдную сутнасьць чалавека, трэба зь ім выпіць, бо цьвярозы чалавек – гэта толькі адзін бок ягонай асобы. Колькі новага пра стаўленьне да сябе сваіх сяброў і знаёмцаў мы даведаліся падчас застольляў, колькі хлусьні і крывадушнасьці было выкрыта дзякуючы алькаголю! Чалавек заўжды шкадуе пра тое, што выпіў учора лішняга, ня толькі таму, што яму блага – ён падсьвядома шкадуе, што выпаў зь бясьпечнага і ілжывага сьвету безалькагольных умоўнасьцяў, у якім прынята нікому не казаць праўды.

Любая размова пра алькаголь і алькагалізм непазьбежна ўпіраецца ў паняцьце меры – і тут спыняецца, бо ўсе людзі розныя і аднолькавых нормаў для іх няма. «Ведай свой ліміт!» – кажа плякат у гамбурскім мэтро, сацыяльная рэкляма, зьвернутая да юных грамадзянаў. Яна не адгаворвае іх ужываць алькаголь, бо гэта бессэнсоўна, яна толькі заклікае быць памяркоўнымі і не пераступаць мяжу, за якой нявіннае піяцтва сканчаецца і пачынаецца алькагольная залежнасьць. Тых, хто ўжывае алькаголь, паважаюць, тымі, хто ня можа безь яго жыць, пагарджаюць; мяжа паміж першымі і другімі ёсьць мяжою прыстойнасьці.



У алькагалізму шмат імёнаў, і кожнае зь іх – псэўданім. Алькагалізм – гэта слабасьць: быць алькаголікам значыць застацца ў адной, выпадкова знойдзенай рэальнасьці, страціць здольнасьць вяртацца ў іншыя. Племя алькаголікаў – заведамыя аўтсайдэры, якія ўсе свае рашэньні прымаюць у адным тым самым стане і таму прайграюць. Алькагалізм – гэта пагібель: ён расьце ў табе, як нявінная кветачка, а вырасшы, пачынае есьці цябе жыўцом.

Алькагалізм патрабуе поўнага падпарадкаваньня, ён – як тыя істоты з фантастычнага раману Карсака «Уцёкі Зямлі», якія ўнушылі людзям, што яны нібыта працуюць на іх слугамі, грузчыкамі і прыбіральнікамі, а самі захапілі ўладу і ўпотай ласаваліся чалавечынай. Стывэн Кінг, алькаголік са стажам, апісвае ў сваёй аўтабіяграфічнай кнізе, як у часы творчага сталеньня алькаголь дзень за днём руйнаваў яго асобу, ледзь не пазбавіўшы лёгкага летняга чытва ўсю сярэднюю клясу плянэты; пісьменьнік стаў алькаголікам, сам гэтага практычна не заўважыўшы. Алькагалізм – канец

творчасьці, бо немагчыма пастаянна прасіць натхненьне голасам п’янага Шурыка: «Памэдленей, я запісую…»

Алькагалізм – гэта Беларусь. Ня піць тут нельга, хаця б для таго, каб не звар’яцець. Калі ты будзеш адмаўляцца, то суайчыньнікі пойдуць на ўсё, каб ты ўзяў чарку – у скрайнім выпадку падымуць з магіл тваіх продкаў і прывядуць іх да стала пад канвоем: пі, сабака, не абражай дзядоў! Алькагалізм – гэта спорт. Упартыя трэніроўкі ў маладосьці, якія адымаюць часу і здароўя больш, чым любая чалавечая дзейнасьць. Мэтаю ёсьць «прасьпіртавацца» – прывучыць свой арганізм засвойваць алькаголь у вялікіх колькасьцях.

Штотыднёвыя чэміпіянаты, «хто каго перап’е», прызы, турнірныя табліцы, справаздачы… Алькагалізм – гэта ініцыяцыя, быць дарослым – найперш значыць мець права набываць і ўжываць алькаголь. Алькагалізм – гэта флёра й фаўна твайго роднага горада, бо менавіта там пад акном растуць гэтыя сінія чалавекападобныя стварэньні, двухногія, засохлыя, калючыя, учэпістыя, вецер з блізкай пустэльні штодня прыбівае іх да твайго пад’езда. Дзе, з кім і з чаго ты толькі ня піў… Аднойчы нават уначы ў цырульні. Алькаголь мае нешта агульнае з фрызурай: адным ён пасуе, а іншым – не, але ўсе плацяць за яго грошы, усе бачаць сябе ў яго люстэрку.

Алькагалізм – гэта незваротна: як не бывае былых кадэбістаў, так не бывае былых алькаголікаў. Алькагалізм – гэта славутасьць, гэта імідж, рэнамэ: «А скажы, ці праўда, што ў тваёй краіне



гарэлку п’юць так, як мы – піва?» – пытаецца, уздымаючы бялёсыя бровы, Б’ёрн, і ты кажаш, сам саромеючыся нечаканага дурнога гонару, які варушыцца ўнутры:

«Ну так, можна сказаць, праўда…». Адкуль ён, гэты недарэчны гонар, што прыехаў кантрабандаю ў прычэпленым вагоне на цягніку Масква-Бэрлін? Бялёсыя бровы апускаюцца, пад імі – неразуменьне, захапленьне, павага, агіда і страх. Алькагалізм – гэта тое, што падзяліла Эўропу, Сьцяна, якую ніхто ня зможа парушыць. Алькагалізм – гэта Расея; тыя, хто здольны піць *вось так*, назаўжды застануцца для Б’ёрна расейцамі, жыві яны хоць у тройчы незалежнай ад Расеі дзяржаве і гавары на якой заўгодна мове. О, гэтыя назвы тутэйшых гарэлак: «Puschkin», «Jelzin», «Gorbatschov», «Arapov», «Kaliskaya», «Rodina», «Taranof», «Samodurov», гэтыя крыкі з рускай лазьні, рубаха-парень режет правдуматку!.. Алькаголь – гэта паліва, якое яшчэ трымае нас на нагах, у той час як мы стагодзьдзе за стагодзьдзем ніяк ня можам вызначыцца са сваім Самым Важным Рашэньнем.




# Апноэ

Прынята лічыць, што апноэ – гэта стан чалавечага арганізму, які характарызуецца кароткачасовым (ад 10–20 сэкундаў да некалькіх хвілінаў) спыненьнем дыханьня. Звычайна апноэ находзіць на нас, калі мы сьпім. Апноэ здараецца нават у здаровых людзей, а ў хворых можа доўжыцца да 3 хвілінаў, адбывацца па дзесяць разоў за гадзіну і наогул займаць да 60 адсоткаў часу сну.

Натуральна, усё гэта казкі. Сёньня кожны адукаваны чалавек ведае, што Апноэ – гэта злы дух, які пасяляецца ў нашых кватэрах і крадзе па начах у зморaных людзей подых. Паводле дасьледаваньняў, дух Апноэ сьляпы і глухі, ён арыентуецца па чалавечым храпе – адчуўшы ў пакоі вібрацыю, ён проста ідзе на храп, нібы драпежнік, які адчуў пах ахвяры. Вучоныя паспрабавалі вызначыць, які выгляд мае Апноэ: хутчэй за ўсё, гэта жанчына ў цёмных акулярах, зь вялікім мехам за плячыма, куды Апноэ складвае скрадзеныя ўдыхі і выдыхі, яна носіць белвестаўскі абутак на высокіх абцасах

– шмат хто з пацярпелых ад Апноэ бажыўся, што, прачнуўшыся раптам уначы, чуў стукат крокаў, але кожны, вядома ж, падумаў на суседзяў. Часта тым, хто пакутуе на Апноэ, даводзіцца мяняць у кватэры падлогу – абцасы праклятага духа псуюць лямінат, пакідаюць вышчарбіны на паркеце і дзіркі ў лінолеуме.

Дзень толькі пачаўся, а вы ўжо стаміліся… Дух Апноэ падступны, ён шкодзіць спакваля, паступова. Чалавек можа не здагадвацца, што адбываецца зь ім уначы, і зьдзіўляцца ўдзень сваёй раптоўнай санлівасьці, млявасьці, зьніжэньню канцэнтрацыі, нізкай працаздольнасьці. Ён будзе пазяхаць з ранку да вечара і сам не заўважыць, як з пэрспэктыўнага супрацоўніка, якога ня грэх штомесяц прэміраваць, ператворыцца ў беспрацоўнага з рэпутацыяй вечнага ёлупня і абэлтуха. Але гэта яшчэ ня самае страшнае.

Такое абакрадзенае дыханьне ўначы наўпрост вядзе да сардэчна-судзінных захворваньняў, бо арганізм, які штоночы адчувае кіслародны голад, неўзабаве больш ня можа функцыянаваць нармальна. Дух Апноэ забівае чалавека за некалькі гадоў, а дактары потым толькі разьвядуць рукамі і абвінавацяць ва ўсім няправільны лад жыцьця ды кепскую спадчыннасьць.

Ці ёсьць у чалавека, якога кожную ноч наведвае Апноэ, нейкае выйсьце? Можна, напрыклад, лячыцца ад храпу.

А можна наступіць на горла сваёй жаўруковай песьні і стаць «савой». Далей абыдземся без двукосьсяў.



Быць савой у дзяржаве жаўрукоў ня проста цяжка. Пакуты савы ў краіне, дзе ўсё заточана і наладжана пад радасных раньніх пташак, нікому не цікавыя. Тым ня менш лятэнтных соваў у Беларусі відавочна ня менш, чым прыхільнікаў эўраінтэграцыі. Совы ў Беларусі, ды і ў іншых краінах, зазнаюць сапраўдную дыскрымінацыю. Уначы, калі сава дасягае піку сваёй актыўнасьці, калі яе арганізм гатовы працаваць з найбольшай самааддачай, саву прымушаюць заплюшчваць яе падазрона вялікія вочы і засынаць, памаліўшыся перад сном добрым жаўрукам, якія так удала арганізавалі сьвет.

Раніцай, пад гукі бадзёрага жаўруковага гімну («Мы, жаўрукі, мірныя птушкі, з ранішняй песьняй ляцім да кармушкі…» ), соннай, са сьвінцовай галавой саве трэба ляцець на працу, трэба шукаць сабе харч, трэба ўладкоўваць асабістае жыцьцё і ціскацца ў перапоўненым мэтро. Удзень, калі беднай саве нясьцерпна хочацца падрамаць недзе на схаванай ад чужых вачэй галінцы, яна, сава, павінна скакаць навідавоку, дэманструючы ляяльнасьць і адданасьць традыцыям, і ўдзячна ўсьміхацца поўным сілаў жаўрукам, якія пасылаюць саву на самыя цяжкія заданьні. А ўвечары, калі саве хочацца сказаць жаўруку, што так жыць ёй няўсьцерп, жаўрук кажа, што ён стаміўся, што ягоны працоўны дзень скончыўся, прыёму няма і прызначае ёй на заўтра, на дванаццаць дня.

Такі падзел абумоўлены фізіялягічна. Сава не вінаватая ў тым, што яна сава. У савы дэпрэсія. У савы катастрафічна зьніжаецца самаацэнка.

Сава ніколі не дасягне такіх вышыняў, як жаўрук. Саву лічаць гультайкай бяз музычнага слыху і пачуцьця рытму. У савы адзін шлях: ПТВ, завод, мікрараён на ўскраіне. А захочаш бегчы – няма куды… Калі сава ўсё ж будзе трымацца сваёй савінай сутнасьці, калі захоча «людзьмі звацца», то яе запішуць у багему, якую жаўрукі так ня любяць, бо багема ня сьпіць начамі, пяе свае «ніпанятные» савіныя песьні на «ніпанятнам языку», п'е зуброўку і тупае наверсе, не даючы жаўрукам спаць.

Шкада, што ў Беларусі няма сіесты. Сіеста не зашкодзіла б жаўрукам і хаця б трохі дапамагла совам.

Затое да соваў не прыходзіць Апноэ.

Дзіўная рэч – сон. У сьне мы атрымліваем зашыфраваныя паведамленьні зь іншае рэальнасьці – яшчэ невядома, якая зь іх сапраўдная. У сьне ажывае нашае калектыўнае несьвядомае, расейцам сьняцца татара-манголы, а нам – Францішак Скарына ў Празе, з кніжкамі. У сьне да нас прыходзіць ня толькі Апноэ, але і іншыя добрыя істоты. Напрыклад, да аднаго з нас, Якава, у сьне калісьці прыйшоў сам Пан Бог са складной лесьвіцай і сказаў, што тут, маўляў, табе і жыць, і нашчадкам тваім, і назваў чалавек тое месца Бэт-Эль, што значыць «дом божы»… І хіба не за ягоныя дзіўныя сны браты вырашылі правучыць Іосіфа?

У старажытнай Грэцыі і старажытным Рыме людзі спалі ў храмах на шкурах бараноў, каб атрымаць у сьне прадказаньне аракула. У Джэймса



Фрэйзэра можна знайсьці цікавую гісторыю пра тое, як нехта Пандар з Тэсаліі вырашыў паспаць у храме, каб пазбавіцца загадкавых чырвоных літар, што зьявіліся на ягоным ілбе. У сьне да Пандара прыйшоў бог, абвязаў яму лоб шалікам і сказаў зьняць, калі той прачнецца. Раніцай Пандар зьняў шалік, і чырвоныя літары засталіся на тканіне. Пандар пайшоў дамоў, пакінуўшы шалік у храме. Па дарозе ён паслаў у храм свайго слугу, каб той прынёс богу ахвяраваньне за такі цуд. Але слуга, лоб якога таксама меў на сабе літары, вырашыў забраць грошы сабе. Ён лёг спаць, спадзеючыся, што бог і яму дапаможа. Бог прыйшоў у сьне і спытаў, ці не прынёс слуга нейкіх грошай. «Не,» – сказаў слуга. Тады бог сказаў слугу, каб той абвязаў сабе лоб шалікам Пандара. Раніцай слуга зьняў шалік: на ягоным ілбе цяпер былі і літары яго гаспадара, і яго ўласныя…

Нічога дзіўнага, што сон здаўна прыцягваў да сябе літаратараў – людзей-соваў, якія любяць працаваць уначы. Сусьветная літаратура – адзін бясконцы соньнік. Сон – файная мэтафара, хаця сон як прыём даўно стаў банальным і ўжываецца ў апошні час хіба што ў камэрцыйнай літаратуры. Няма, відаць, ніводнага пісьменьніка або паэта, хто не скарыстаўся б з вобразу сну, хто б не паспрабаваў пранікнуць у яго таямніцу: камусьці ўдавалася гэта лепш, у кагосьці атрымліваліся хіба што «сны Веры Паўлаўны». Не абышло пакланеньне сну і беларускую літаратуру: «Сон на кургане», напрыклад, даўно стаў клясыкай.

Але ніхто так грунтоўна не пісаў пра сон, як

Зыгмунд Фройд, які меў звычку садзіцца з вудаю каля каламутнай рэчкі чалавечых сноў і пачкамі выцягваць адтуль сымбалі для пацьверджаньня сваіх сумнеўных тэорый. Пазьней, калі Фройд памёр, у яго нарэшце зьявіўся сапраўдны вораг – Уладзімір Набокаў, геній і эстэт, які кпіў зь вялікага аўстрыйца пры кожнай нагодзе. Набокаў называў Фройда «махляром у кацялку», «спадаром зь венскім парасонам», а ягонае вучэньне – «прыкладваньнем грэцкіх мітаў да дзетародных органаў».

Сон, сон, сон: у сьне мы даведваемся праўду пра сябе і іншых, выдаем таямніцы, у сьне мы дзелімся дыханьнем з тымі, каго любім, у сьне мы безабаронныя, у сьне каханыя называюць нас чужымі імёнамі, у сьне мы назапашваем сілы для таго, каб потым змарнаваць іх на змаганьне з мроямі, у сьне, у сьне…

З гадамі добры сон становіцца ўсё важнейшым: калі мне было дваццаць гадоў, я мог ня спаць некалькі начэй запар, піць, курыць, пісаць, вандраваць, кахаць, ненавідзець, і цудоўна пачуваўся. А цяпер да мяне ўначы прыходзіць Апноэ, дух, якога ўжо ніколі ня выгнаць, і зьбірае сваю даніну.

Сьвет, наладжаны пад тых, хто выспаўся, прымушае жыць па ягоных правілах. Прымушае ставіцца да сну з павагай, жадаць яго, лічыцца зь ім, слухацца ягоных вестуноў, баяцца, што сон ня прыйдзе. Адно з самых вычварных катаваньняў – калі чалавеку не даюць спаць. У некаторых мовах «сон» і «сьмерць» абазначаюцца адным словам.



Спаць могуць ня толькі людзі, жывёлы, расьліны, трактары пад сьнегам, журналісты на планёрцы, салдаты на пасту, мэдсёстры на дзяжурстве…

Спаць могуць цэлыя народы, і калі розум якога-небудзь народу засынае, вакол яго, як вядома, пачынаюць пладзіцца пачвары. Вырастае калючае кустоўе да неба, праз якое да таго зачараванага замка, дзе сьпіць народ, нікому не прабіцца – усё як у вядомай казцы. Народу сьніцца, што ён квітнее, а яго даўно ўжо няма, там, дзе ён жыў калісьці, цяпер калючыя непраходныя кусты, і бог жыхарам замка ня сьніцца, а сьніцца сонечны дзень сурка, 3 ліпеня, і Апноэ складвае подыхі тых заснулых людзей у свой бяздонны мех, і ніхто не назаве гэтае месца Бэт-Эль, а назаве хіба што «западнорусскімі губерніямі» і напіша народу гэта нязводнымі чырвонымі літарамі на ілбе. І ніколі нічога ня зьменіцца, колькі б ні лёталі над кустамі вясёлыя жаўрукі, колькі б ні глядзелі з калючага гальля маркотныя совы. І можна цалаваць у тым зачараваным замку каго заўгодна, ад прынцэсы да кухаркі, любы з разбуджаных жыхароў прамармыча адно: «Што, блядзь, ня сьпіцца? Выхадны, трэцяя гадзіна ночы…» , павернецца на другі бок і зноў захрапе.





# Апэндыцыт

Трохі шкада навукоўцаў далёкай будучыні, тых, чые продкі выжывуць пасьля таго, як выбухне Сонца і ўвесь сьвет выправіцца да чортавай мацеры. Дасьледуючы анатомію зямлянаў дваццаць першага стагодзьдзя, яны сутыкнуцца зь няпростай праблемай: частка іхных адкапаных пад тоўстым слоем попелу паддосьледных будуць мець у сваім нутры падобны на чарвяка адростак сьляпое кішкі, а ў іншых той адростак будзе выдалены.

Як успрымуць такі дзіўны факт дасьледчыкі, якія вэрсіі ў іх зьявяцца на гэты конт? Магчыма, яны палічаць адсутнасьць апэндыкса знакам прыналежнасьці да нейкае прывілеяванае касты? Ці да пэўнай рэлігіі – кшталту лысіны будысцкага манаха? А можа, ім падасца найбольш верагодным, што выдаленьне апэндыкса было адмысловым пакараньнем, да якога прысуджалі за ерась і іншадумства? Хто ведае…

Апэндыкс – адзін з самых загадкавых нашых органаў. Засакрэчаны аб'ект са страчаным кодам доступу. Ніхто дакладна ня ведае, навошта ён чалавеку і з чым яго ядуць. Між тым, ён маршыруе з намі праз пыл і туман эвалюцыі ўжо каля васьмідзесяці мільёнаў гадоў і пакуль не зьбіраецца пакінуць чалавека ў спакоі, разьвітацца і сысьці з дыстанцыі.

Разгубленасьць, зь якой вучоныя ўжо некалькі стагодзьдзяў пазіраюць на апэндыкс, прывяла ўрэшце да таго, што яго пачалі разглядаць як рудымэнт, кшталту мужчынскіх смочак ці мышцаў вушэй, як непаразуменьне, як дзядоўнік, што выпадкова прычапіўся калісьці да арганізму і ніяк ня хоча адляпіцца, почасту даводзячы беднага гома сапіенса да пэрытаніту. Да майго сораму, і я доўгі час паддаваўся на гэтую прапаганду.

Найчасьцей апэндыкс запаляецца ў людзей у веку ад 10 да 30 гадоў. У мінулым стагодзьдзі стомленыя мэдыкі ў некаторых дужа разьвітых краінах вырашылі, што чым чакаць запаленьня апэндыкса, дык лепш выдаляць надакучлівы орган прэвэнтыўна, у дзяцінстве. Усё адно, маўляў, карысьці ад яго ніякай, адны праблемы, швы і занятыя койкамесцы. Gesagt, getan. Але пракляты апэндыкс паказаў, што яго яшчэ рана сьпісваць з рахункаў. Высьветлілася, што дзеці, якія прайшлі праз такую апэрацыю, адстаюць ад сваіх аднагодкаў, шчасьлівых уладальнікаў таямнічых адросткаў, у фізычным і псыхічным разьвіцьці.

Далей – болей: людзям без апэндыксаў, якія перанесьлі якую-кольвечы інфэкцыю, цяжка аднаўляць мікрафлёру кішэчніка. А яшчэ ў такіх людзей больш шанцаў захварэць на рак. Толькі ў апошнія гады сталі нарэшце баязьліва гаварыць пра тое, што, відаць, апэндыкс усё ж мае сваю функцыю, проста ён занадта сьціплы, каб крычаць пра гэта па ўсіх тэлеканалах. Магчыма, ён – інкубатар для бактэрыяў, якія спрыяюць страваваньню, магчыма, незаменны памочнік у справе абароны імунітэту, а магчыма, галоўная яго функцыя – усё ж эндакрынная. Але дакладна вядома, што апэндыкс – патрэбная рэч у гаспадарцы, зь яго бяруць матэрыял для рэканструкцыі пашкоджанай мочапалавой сыстэмы.

Appendix vermiformis зьвёў у магілу мільёны людзей, пакуль у 1735 годзе ў Лёндане хірург каралеўскага шпіталя ня выдастаў нож і ня выцягнуў той самы адростак у адзінаццацігадовага хлопчыка, які паміраў ад запаленьня. Хлопчык застаўся жывы. Хірургі задумаліся. Але толькі больш чым праз стагодзьдзе па гэтым выпадку немец Фіц канчаткова пераканаў сьвет, што найлепшым лячэньнем запаленьня апэндыкса «ёсьць ягонае поўнае выдаленьне унд зьнішчэньне!»

Цікава, што ў некаторых жывёлаў ніякага запаленьня апэндыкса быць ня можа, з прычыны поўнай адсутнасьці дадзенага органа. Гэта пацьвярджаецца і бяздоннымі крыніцамі вуснай народнай творчасьці. Падчас маёй фальклёрнай практыкі на пачатку дзевяностых адна бабулька з глухой вёскі Наябарскае на Крупшчыне распавяла мне рамантычную казку, у якой вялося пра гэты ад-




ростак. Бог паклікаў да сябе ўсіх жывых істотаў, каб раздаць ім апэндыксы. Прыйшлі малпа, трус, чалавек, пацук, конь, карова… Завіталі да Бога і котка з сабакам, сталі ў чаргу – аднак як толькі пабачылі адно аднаго, сталі, як між імі заведзена, сварыцца. Урэшце сабака пагнаўся за коткай і неўзабаве яны зьніклі ў лесе. А калі вярнуліся, нікога ўжо не было. З таго часу ў сабакаў і котак няма апэндыксаў.

Гэтая гісторыя не ўваходзіць пакуль ні ў водную хрэстаматыю, але ўвогуле апэндыкс заняў сваё месца ў сусьветнай літаратуры – вядома ж, адпаведнае сваёй прыроднай сьціпласьці.



Напрыклад, пра апэндыкс няма згадак у Бібліі і «Новай зямлі», затое ёсьць у кнізе рэкордаў Гінэса. Там зарэгістраваны апэндыкс даўжынёю 23 з паловай сантымэтры – і гэта пры сярэдняй даўжыні гэтага органа ўсяго 10 см. Прапаную беларусам, якія любяць мерацца чэлесамі і ўзроўнем патрыятызму, перайсьці на апэндыксы. Можа, хаця б тады Беларусь праславіцца нечым у сьвеце.





# Атручэньне

Аднойчы я палову дня патраціў на тое, каб дабрацца зь менскай Sierra Branca ў менскія ж Шабаны. Амаль дванаццаць гадзін я прабіраўся да роднае хаты скрозь цагляныя таросы і чэзлыя хмызы Ленінскага, а потым Заводзкага раёну, нібы Робэрт Піры да запаветнага полюсу. Прабіраўся на жоўтых сабаках, кожнага зь якіх нібы на зьдзек звалі Ікарам.

Так, гэта было атручэньне. Ня ведаю, што яны мне падсыпалі. І спытаць не было з каго: і гаспадары, і госьці даўно разьехаліся па справах, ампутаваўшы мне перад разьвітаньнем падушку і выкінуўшы мяне, беспадушачнага інваліда, вонкі, у злы і неспрыяльны для вэртыкальных істотаў сьвет. Ужо на шляху да аўтобуснага прыпынку я адчуў, што мае шанцы пакінуць тутэйшыя берагі памяншаюцца з кожным крокам, я марудна ішоў, і ўсё, што я бачыў, адразу ж падсьвядома ацэньвалася мной на прадмет таго, ці можа яно захінуць сабой чалавека, якога

зараз званітуе: трансфарматарная будка, кіёск «Белсаюздруку», паліналая такса, міліцыянэр, слуп, агароджа школьнага двара… Sierra Branca багатая на розныя ласункі, і адзін зь іх мучыў мяне цяпер, прымяраючы на сябе маё цела, нібы цесны пінжак з сэканд-хэнду.

Самае страшнае для атручанага – праспаць той момант, калі можна проста сунуць два пальцы ў рот і вызваліцца ад ўсяго непатрэбнага. Празь некалькі гадзін атрута пранікне ў кроў, тая пацісьне плячыма і паволі пацячэ далей, несучы сваю багатую даніну: тваё жаданьне ўжо ня ўлічваецца, ты становішся закладнікам арганізму, дурнога і фанатычнага, як і ўсё тэрарысты; як і ўсе тэрарысты, ён ставіць абсалютна невыканальныя ўмовы: зараз жа апынуцца ў гарызантальным стане, заплюшчыць вочы і адключыцца. Я праспаў і цяпер мог засоўваць у рот хоць усе пальцы на руках і нагах – марна.

Мне, аднак, было дваццаць чатыры. Я лічыў сябе здольным на подзьвіг. Я няцьвёрда ступаў па выпаленай сонцам зямлі і думаў пра тое, што паміж Sierra Branca і маім ложкам, урэшце, ня так шмат сьветлавых год, як здаецца.

На шчасьце, існаваў аўтобус, на якім ад Sierra Branca можна было безь перасадак за сорак хвілінаў даехаць да самых Шабаноў. Першы такі Ікар я, натуральна, прапусьціў, бо ягонае зьяўленьне выклікала ў мяне жах – ён быў перапоўнены. Няма большае жудасьці, чым ехаць атручанаму, улетку, у перапоўненым аўтобусе. Езьдзіць у перапоўненым аўтобусе – гэта спорт



для бедных. Глядыятарскія баі крыважэрных сардынак. Паветра, як у школьнай разьдзявалцы. Асабістай прасторы менш, чым у труне. Але ня ехаць нікуды было яшчэ жахлівей.

Другі Ікар, трэці… І ўсе пад завязку. У чацьверты я ўлез і трохі званітаваў на тратуар перад тым, як за мной у аўтобус ускочылі яшчэ некалькі чалавек і дзьверы нарэшце зачыніліся. Гэта дало мне невялікі пярэдых. Я нават змог агледзецца вакол.

Чалавек я даволі паважнага росту, і таму я стаяў, узвышаючыся над астатнімі пасажырамі, і разглядваў іхныя лысіны, цемянныя ўпадзіны і плямы на кепках. Яны бачылі, што са мною адбылося, і ўсе як адзін з агідай адвярнуліся. Трымаючыся за поручань, я адчуваў сябе нібы чорны паўднёваафрыканец, які сеў у аўтобус «White only» у часы апартэіду.

У сіняватых лысінах і высакародных цемях адчувалася гнеўнае асуджэньне. Мне было сорамна. Я разумеў, што мяне зараз званітуе, і званітуе проста на іхныя галовы. Стрымліваючы хвалю, якая рвалася з майго нутра, і адчуваючы ў роце смак будучай ганьбы, я сьцяў зубы і вырашыў выйсьці на наступным прыпынку. Але нічога не атрымалася. На прыпынку нас, вязьняў «дзявяткі», стала яшчэ больш. Ніхто ня выйшаў адсюль, сюды толькі пускалі, злосна падціскаючы азадкі. Аўтобус быў поўны мясцовых жыхароў, якія ехалі на заробкі ў раён МАЗу. Я гучна адрыгнуў. Жанчына пада мной нешта прамовіла, але я не разумеў ні слова на мове Sierra Branca.

Нечалавечым намаганьнем я здолеў прымусіць сябе праехаць яшчэ два ці тры прыпынкі і ўрэшце мяне вынесла з аўтобусу каля ўнівэрмагу «Беларусь». Там я ўпаў на траву і даў волю ванітам. З вачэй паліліся сьлёзы, буйныя і чыстыя, як у прафэсійнай плакальніцы. Ня ведаю, колькі я праседзеў там, на траве, на кукішках, у прыватных Лукішках свайго атручэньня. А потым зноў залез у аўтобус.

У ім мне адразу ж пагоршала. І ўжо на наступным прыпынку я выскачыў і кінуўся да сьцяны найбліжэйшага дома. Там, пад мэмарыяльнай дошкай паэту Куляшову, мяне зноў званітавала. І гэтым разам працэс быў хутчэй катаваньнем, чым катарсісам. Зь мяне выходзіла жоўць.

У жоўты дзень, у жоўтым горадзе, каля жоўтага дома, у акне якога жаўцелі кветкі, з жоўтым шумам жоўтых аўтобусаў за сьпінай, я выв'яргаў зь сябе жоўць, зеленаватую, зь белай пенай… Я, з жоўтым тварам хворага на ліхаманку. Трапічную ліхаманку Sierra Branca.

І зноў аўтобус, і зноў прыпынак… Адплёўваючыся, я сядзеў на лаўцы ў нейкім кустоўі. Кажуць, Сідхартха Гаўтама, ён жа Буда, памёр ад харчовага атручэньня. Не зусім памёр, вядома ж, а дасягнуў парынірваны – стану, калі яму ўжо ня трэба было далей перараджацца. Буда памёр у позе, у якой сядзеў і я: нахіліўшыся ўправа і прытрымліваючы рукой галаву. Пакуты вядуць да прасьвятленьня. Усе пакуты вядуць толькі да прасьвятленьня. Да сьвятла.

Сьвятло ўспыхвала на паверхні лужынаў, на



вітрынах, на вокнах аўтобусаў, на шкле разьбітых бутэлек, на гузіках міліцыянта… Ён пагрозьліва параіў мне ісьці адсюль, зь ягонага ўчастку, ён не хацеў праблем. І я пакорліва пабрыў у бок Шабаноў, памячаючы чужы раён сваёй жоўцю, як цяжка паранены кот.

Існуе псэўданавуковы спосаб высьветліць, чым жа ты атруціўся. Трэба па чарзе ўяўляць сабе ежу і напоі, якія спажыў. Калі дойдзеш да таго, што шукаеш, у нутрох запішчыць, загарыцца зялёная лямпачка, шлюзы адкрыюцца і цябе званітуе. Я пачаў перабіраць: усё пішчыць, усё зялёнае, усё жоўтае, усё колеру небясьпекі… Каб ачуняць, трэба ставіць сабе пытаньні.

Адзін прыпынак, другі... Колькі ў чалавеку жоўці! А колькі сьлёз! А якое цудоўнае слова – ваніты; а якая гэта цудоўная мэтафара! Яны прыйшлі ў літаратуру ня так даўно, раней літаратура збольшага ня мела ні малой, ні вялікай патрэбы, не псавала паветра – і не ванітавала. Ванітаваць магло толькі ад яе. А потым вырасьлі Les fleurs du mal. І паплыў «П’яны карабель» Рэмбо:

«Салодкая на смак, як дзецям кіслы яблык,
Сьціраючы сьляды ванітаў і віна,
Зялёная вада так вымыла караблік,
Што больш ні якара ня меў я, ні стырна»

(*пераклад Андрэя Хадановіча*)

І Готфрыд Бэн. І «Млосьць» Сартра. І безьліч іншых аўтараў і твораў. У беларускай літаратуры ваніты таксама паступова займаюць пачэснае месца.

Генэрацыя пісьменьнікаў, якія прыйшлі ў літаратуру ў канцы васьмідзясятых і ў дзевяностыя, далі нарэшце званітаваць сваім героям. Найноўшая літаратура не адстае. Напрыклад, Сяргей Календа напісаў «Помнік атручаным людзям», зборнік прозы, які адкрываецца апавяданьнем «Ваніты». Ваніты – паратунак ад атручэньня. Цікава, у колькіх беларускамоўных кнігах людзей ванітуе? А колькі было такіх кніг дваццаць гадоў таму? А колькі пасажыраў улазіць у адзін куплены калісьці ў Нямецкай Дэмакратычнай Рэспубліцы патрыманы «Ікарус» вугорскае вытворчасьці?.. Вось гэтая жанчына, якую так прыціскаюць да мяне зводнікі-пасажыры – хто яна? Швачка? Прачка? На дудзе ігрworld? Цікава, ці здольная яна кагосьці атруціць?

Звычайна атручэньнямі займаюцца жанчыны. Напэўна таму, што на працягу стагодзьдзяў іхнай стыхіяй была кухня. Месца, дзе адбываецца таемства стварэньня ежы. Ежы, куды можна чаго-небудзь дадаць. Якой-небудзь прыпраўкі бяз смаку і паху. Лепш ня думаць пра ежу. Каб ачуняць і не запэцкаць салён, трэба думаць пра што-небудзь прыгожае. Напрыклад, пра Мары Бэснар. Прыгожа гучыць, амаль як Мэрылін Манро.

Мары Бэснар называлі «людэнскай удавой». Гэтая француженка ў трыццатых-саракавых гадах атруціла з дапамогай мыш'яку сваіх мужа і сьвёкра і яшчэ адзінаццаць чалавек. Яна клала ім мыш'як у суп, потым у лекі і цёплае пітво, якое прапісваў наіўны тоўсты доктар.



Ахвяры паміралі хутка, і кожны перад сьмерцю падазраваў Мары. І тым ня менш пасьля доўгага, шматгадовага судовага разбору мадам Бэснар адпусьцілі на волю. Бо, эксгумаваўшы трупы ўсіх ахвяраў, экспэрты сутыкнуліся зь нязвыклай праблемай. Мыш'як у трупах быў у вялікай колькасьці, ускосныя доказы таксама паказвалі на Мары, але падчас працэсу высьветлілася, што мыш'як можа зьяўляцца ў зямлі могілак і, адпаведна, у трупах сам, у выніку таемных працэсаў браджэньня глебы. І давесьці, што мыш'як у ахвярах Бэснар паходзіў з рук «людэнскай удавы», стала немагчыма. Хаця ў яе вінаватасьці не сумняваўся амаль ніхто…

Дзякуй табе, Мары, непрыгожая, як мыш (па сьведчаньнях сучасьнікаў), і нясмачная, нібы мышаціна. Думкі пра твае паскудзтвы дапамаглі мне тады выжыць. Атруціўшы трынаццаць чалавек, ты так і скончыла свой жыцьцёвы шлях на волі. І што з таго, што ў Людэне на твой дом паказваюць, жагнаючыся. Я такі даехаў тады да Шабаноў. Уяўляючы, як ты жыла там, дзе мыш'яком дагэтуль труцяць пацукоў. Як ты мясіла нагамі вінаград і як ты апраналася ў царкву. Як ты плаціла ў маршрутцы. Як хадзіла ў кінатэатар «Салют» і вышывала крыжыкам. І як аднойчы на кухні табе прыйшла ў галаву адна ідэя…






# Батулізм

Надоечы «Наша ніва» парадавала канібальска-лінгвістычнай гісторыяй, што адбылася ў Башкірыі. На прылаўках тамтэйшых крамаў зьявілася каўбаса пад назваю «Вараныя дзеці». Высьветлілася, што вытворцы проста забыліся на адно слова ў назьве прадукту: замест «Балалар осон ашерелген» («Вараная для дзяцей») напісалі «Балалар ашерелген» – вось і атрымаўся дэлікатэс для людажэраў.

Ці магчыма такое ў Беларусі, дзе патрыятычным загадам Міністэрства аховы здароўя ўжываньне башкірскай мовы на этыкетках строга забаронена? Якое там, уздыхне айчынны канібал, каторы ўжо год вымушаны ў пошуках маладое чалавечыны езьдзіць на ўсход, у нялюбую Расею, у няблізкі сьвет. На Радзіме з ласункаў такога кшталту знойдзеш хіба толькі сардэлькі «Вэтэранскія», што выпускаюцца да ўгодкаў Перамогі і імгненна зьнікаюць з продажу, варта адгрымець сьвяточнаму салюту – рыхтык Папялушка з

балю. Дый яны – суцэльны падман: вэтэраняціны ў іх – адзін адсотак, астатняе – абрыдлая сьвініна, крухмал ды кансэрванты. І ніхто ня ведае, якой якасьці тая вэтэраняціна, дзе яе рабілі. Ці прайшла яна папярэдні кантроль – мэдычны, дэгустацыйны, радыелягічны, ідэалягічны?..

Нездарма прыватызацыя ідзе ў Беларусі так марудна. Прычына гэтага – каўбаса. «Народ не дурны, – кажа наш старажытны эпас «Рухна-МАЗ», – каўбасу абы-дзе не купляе». Аддаўшы яе вытворчасьць якім-небудзь прыватнікам, краіна рызыкуе заразіцца спорамі батулізму.

Нават калі адкінуць канібальскі аспэкт праблемы, недзяржаўная каўбаса – гэта самы небясьпечны харчовы прадукт. Паядаючы яе, а таксама піражкі, сардэлькі і іншыя недзяржаўныя паўфабрыкаты, мы штодня гуляем са сьмерцю. Сапраўды, у чалавека больш шанцаў памерці ад жаноцкіх рук прыватнай сасіскі, чым ад ножкі атрутнага грыба. Нездарма слова «батулізм» паходзіць ад лацінскага «botulus«, што значыць ня што іншае, як «каўбаса».

Менавіта рытуальныя паяданьні каўбасы, якія мелі месца ў Эўропе напрыканцы XVIII стагодзьдзя і часта канчаліся масавым атручэньнем, паклалі пачатак вывучэньню гэтай страшнай хваробы і пошуку надзейных сродкаў яе лячэньня. І вось неяк гадоў праз сто ў адным бэльгійскім мястэчку больш за трыццаць музыкаў, якіх запрасілі граць на пахаваньні, ад пуза наеліся гаспадарскай хатняй вэнджаніны. Трое памерлі, дзесяць тыдзень праваляліся ў ложку



са страшным атручэньнем. Здарэньнем заняліся навукоўцы. Так каўбаса стала хроснай маці безыменнай дагэтуль споры.

Цікава, што ў Расеі зь яе вечнымі «асобай стацыяй» і «няобшчым аршынам» дасьледчыкі батулізму пайшлі іншым шляхам. Там сувязі злачыннай бактэрыі з каўбасой неяк не адчулі, абвінаваціўшы ва ўсім рыбу – таму батулізм у Расеі часоў Аляксандра называлі іхтыізмам. Аднак, улічваючы пазьнейшую прыказку «найлепшая рыба – гэта каўбаса», народжаную на тых самых абшарах, можна казаць пра тое, што расейцы ня надта памыліліся. Палачка батулатаксыну любіць рыбу ня менш за мяне і селіцца ў ёй з гэткай самай ахвотай, як расейцы ў Карлавых Варах.

Дзякуючы свайму параўнальна нізкаму кошту і наладжанай у XX стагодзьдзі масавай фабрычнай вытворчасьці каўбаса паступова ператварылася ў самы надзейны эквівалент шчасьця, у чароўную сому з раману Гакслі – што праўда, адзін грам тут не дапаможа, трэба хаця б паўкілё.

Хрыбет, на якім трымаюцца мары кожнай сярэдняй клясы ў любой краіне, падобны да каўбасы сярэдніх памераў, куды напханыя пальцам немудрагелістыя жыцьцёвыя стандарты, абавязак палітыка – пэрыядычна пагладжваць гэтую каўбасу і падпіхваць туды патрошкі, калі хрыбеціна пачынае абвісаць. Пры празьмерным ужываньні каўбасы і рэгулярных разважаньнях пра яе яна здольная паступова замяніць сабой чалавечы мозг.

Часам здаецца, што этымалёгія слова «ба-

тулізм» усё ж мае нейкае дачыненьне ня толькі да каўбасы, але і да бутэлькі. Разьвіцьцё каўбасы і алькагольных напояў ва ўсе часы ішло ня проста паралельным курсам – яны цудоўна ўзаемадапаўнялі адно аднаго. Магчыма, сьпіртовыя напоі, якія ўжываюць перад або пасьля паяданьня каўбасы і рыбы, былі ад пачатку прыдуманыя чалавекам як супрацьядзьдзе. Вядома, што рызыка падхапіць батулізм ніжэйшая ў тых, хто выпіў перад гэтым якога добрага шнапсу. Разьмежаваньне адбылося пазьней – алькаголь страціў сваё прафіляктычнае значэньне і часта замяняе каўбасу ў сыстэме традыцыйных народных каштоўнасьцяў.

Калі б я складаў уласны настальгічны слоўнік дзіцячых словаў, то батулізм абавязкова бы ў ім прысутнічаў. Пэўне, мне ўжо ніколі не забыцца на плякат у паліклініцы майго маленства, на якім дрыготкімі рукамі мэдсёстраў было напісана каляровымі алоўкамі:

«Внимание: ботулизм!» – пад гэтым надпісам былі мілыя жукападобныя бактэрыі, а яшчэ нейкія нямытыя яблыкі, непаслухмяныя, лянівыя дзеці, сумнае гарадзкое сонейка… Цяпер на ягоным месцы вісіць такі самы плякат, але ўжо на тэму СНІДу. Новы час, новыя героі. Каўбаса памерла, хай жыве каўбаса. Напэўна, з таго часу слова «батулізм» выклікае ў мяне лёгкую, нястрашную млосьць – як у дзіцячым чаканьні ўколу або аналізу крыві зь вены. Крыві, зь якой таксама робяць яе, каўбасу.

Дарэчы, бізантыйскі імпэратар Леў Шосты забараніў у свой час сваім падданым ужываньне



крывяной каўбасы. Нездарма яго клікалі Ільвом Мудрым – імпэратар, напэўна, штосьці разумеў ня толькі ў палітыцы, але і ў батулізьме. Цалкам верагодна, думка забараніць крывянку прыйшла імпэратару пасьля таго, як ён сам пакаштаваў няякасны прадукт – інакш адкуль такі клопат пра грамадзянаў?

Прыгадваецца апавяданьне Адама Глобуса «Алькаголік». Не, з крывянкай там усё ў парадку.

«Сьвежая, цёплай крывёю пахне... Смачная, а гаўном сьмярдзіць...»

Нейкім душэўным, чыста беларускім батулізмам там прасякнутае самое паветра, у якім жывуць героі, «сям'я патомных пралетараў». Дзе пануе ўбоства і спустошанасьць – там замест крыві крывяная каўбаса, якая напрыканцы апавяданьня зноў абарочваецца крывёю – чалавечай.

У беларускай літаратуры ёсьць яшчэ апавяданьне Юрыя Станкевіча «Вельмі смачная рыба фугу», якое, можа, і не зусім пра батулізм, але экспэрымэнт, які сьвядома ставіць на сабе герой, цалкам сюрэабатулістычны. Японска-беларуская рулетка.

Ёсьць каўбасы – на смак, як пажаваныя кнігі. Ёсьць кнігі – як заражаная батулатаксынам каўбаса. Такіх кніг большасьць. Ад іх можна памерці – ад іхнае ружовае напышлівасьці, ад іхнай ільсьнянай прадажнасьці, ад іхнай таннасьці, фабрычнасьці, паўфабрыкатнасьці, каўбаснасьці, напханасьці рознымі банальнасьцямі. Кніга пад вокладкай – як рыба фугу пад накрыўкай. Май пад рукой сыроватку – ці хаця б сурвэтку.





# Гармоны

Апошнім часам стала модна ўсё сьпіхваць на свавольства гармонаў. Калі верыць навукоўцам – якія, як вядома, толькі й шукаюць, чым бы яшчэ такім прынізіць чалавека – гармоны абумоўліваюць практычна ўсё, чым мы так доўга і нудна ганарыліся, усё, што мы лічылі сваім недатыкальным запасам. Напрыклад, эмоцыі, якія нібыта так яскрава вылучалі нас зь мясамалочнага асяродзьдзя, ды розныя там пачуцьці. Тысячагодзьдзямі апяваныя бардамі, скальдамі, членамі саюзу пісьменьнікаў і іншымі кабольдамі каханьне, вернасьць, сяброўства, гнеў, самаахвярнасьць аказаліся, як высьветлілася, усяго толькі п’янымі гарманальнымі выбрыкамі. З часоў адкрыцьця гэтых дзіўных рэчываў слова «чалавек» перастала гучаць горда, горда стала гучаць слова «гармон». Зрэшты, песьнярам заўжды было ўсё адно, каго апяваць; гармон – новы герой новага часу: «гарманальны ўсплёск», «выкід гармонаў», «шаленства гармонаў», «гарманальны фон», гар-

моны «граюць», гармоны «прымушаюць», гармоны «адказваюць» – што гэта, як не мэтафары новае паэзіі? Гарманальны дысбалянс прыйшоў на зьмену адвечнай гарапашнасьці і дэкадансу.

Што ж, і гарманальныя прыхамаці здольныя прынесьці чуламу чалавеку не абы-якую эстэтычную асалоду. Немагчыма, напрыклад, не ацаніць прыгажосьць уяўнага ўзору, сплеценага ў нашым арганізму сьціплым гармонам аксытацынам. Аксытацын, апрача таго, што выдзяляецца падчас аргазму, яшчэ і адказвае за давер паміж людзьмі, і менавіта ягоны недахоп прыводзіць часам да таго, што нехта камусьці lupus est. Адпаведна, і лішак аксытацыну ні да чаго добрага не прыводзіць: ён відавочна супрацьпаказаны палітыкам, бізнэсмэнам, пэнсіянэрам і чытачам малых мэдычных энцыкляпэдый. Давер – файная штука, калі яго ў меру. Дык вось: чарговы ахвочы бясплатна зьезьдзіць на каляды ў Швэцыю навуковец высьветліў, што аксытацын – гэта той самы гармон, які выдзяляецца ў арганізму маці падчас груднога кармленьня. Цудоўна! Але можна сфармуляваць і груба: такім чынам, давяраючы камусьці, мы падсьвядома хочам пасмактаць яго цыцку, няважна, жанчына гэта ці вусаты прэзыдэнт РБ.

Працягваючы прэзыдэнцкую тэму, нельга абысьці ўвагай даволі рэдкі гармон пад назваю «электын», без асаблівай шуміхі адкрыты сёлета эльзаскім адмыслоўцам Мішэлем Люгенбольдам. Рэзкі выкід электыну ў арганізмах некаторых людзей мае выразна цыклічны характар. Раз на пяць гадоў у краінах, дзе нямашака ані вольных



выбараў, ані канстытуцыі, ані вольных мэдыяў, міжволі апанаваныя электынам асобы вырашаюць раптам балятавацца на пост главы дзяржавы. Падступны электын – а зусім не адсутнасьць розуму, як можа падацца на першы погляд – прымушае іх публічна і нястомна запэўніваць іншых грамадзянаў у сваёй абавязковай перамозе, электын сьвярбіць у іхных пятках, гонячы іх то на ўсход, то на захад, электын водзіць іхнай рукой, калі яны малююць мапы будучых уладаньняў. Гэты гармон вымагае ад чалавека навязьлівай публічнасьці і клоўнскай самаўпэўненасьці. Людзі зь лішкам электыну з задавальненьнем бяруць удзел у вясёлым кастынгу, які арганізуецца для іх дзяржавай: каго, каго возьме начальнік на сваю здымачную пляцоўку, каб падчас выбараў лепш адцяніць свае вусатыя вартасьці? Каму дазволіць пакруціцца дзянёк побач з уласнай пэрсонай? Каго згадае пагардлівым барскім словам ў чарговай інаўгурацыйнай прамове, калі гармон супакоіцца і зьнізіцца да бясьпечнага ўзроўню? Іхны электын – твой галаўны боль: за кагосьці ж з гэтых апанаваных усё адно давядзецца прагаласаваць.

Такой бяды з тым электынам. Існуюць гармоны, нечаканае віраваньне якіх прыводзіць да значна горшых наступстваў – як для самога чалавечага арганізма, так і для грамадзтва. Некалькі год таму калегамі Мішэля Люгенбольда быў бліскуча выкрыты літаратурын, сонны, збольшага, гармон, які абуджаецца ў выніку падаўленьня іншых, пераважна полавых гармонаў і прымушае здаровых,

разважлівых і законапаслухмяных падаткаплацельшчыкаў лічыць сябе паэтамі і пісьменьнікамі. Колькі дамоў і палацаў не дабудавана, колькі дзяцей недавучана ў школах, рабфаках і інстытутах, колькі чалавечага фаршу недалічылася войска з-за таго, што ў жылах такіх людзей грае літаратурын… Гэты гармон дражніць іх, дае ілжывае адчуваньне прыналежнасьці да мастацкай багемы – ім і да галавы не прыходзіць, што шлях сапраўднае багемы вядзе або да Бога, або ў Багемію, або ў багадзельню. Да праайцоў, у эміграцыю ці ў жабракі… Літаратурын усё зьмешвае ў іхных галовах: Волга для іх усё яшчэ ўпадае ў Касьпійскае мора, хаця ні таго, ні другога ў Беларусі даўно ўжо няма; яны пішуць выключна ў вольны час і дужа сумуюць па часах БССР, страчанай паліклініцы, Беллітфондзе, Іслачы, Дому літаратара, расейскіх падрадкоўніках, вялікіх накладах і, вядома ж, працоўнай кніжцы, гэтаму opus magnum замучанага гармонамі белапухнатарускага літаратара.

Гармоны можна зрабіць адказнымі за ўсё. Цікава, які гармон прымушае мяне, колішняга піянэра-палітінфарматара, аматара кніжак, кукурузных палачак і крыжаванак, выраслага ў амаль цалкам расейскамоўнай сям'і на менскай ускраіне, ужо дваццаць год гаварыць, пісаць, думаць, сьніць па-беларуску – без асаблівай надзеі на разуменьне, а яшчэ зь беларускамоўнай жонкай выхоўваць па-беларуску сваю дачку, таксама без асаблівай надзеі на тое, што калісьці яе родная, без двукосься і хітрыкаў перапісу, мова стане



моваю мэтраполіі? Такія рэчы не патлумачыш ні верай, ні патрыятызмам, ні фанатызмам – бо я далёкі і ад першага, і ад другога, і ад трэцяга, а вось нейкімі залішнімі гармонамі, якіх ня маюць іншыя, – імі можна…

Гэта няпраўда, што гармоны – нешта цяжкаўлоўнае, што яны, як і грошы, ня пахнуць. Аксытацын пахне малаком. А чым пахне гармон страху? Калісьці мне давялося ўпершыню ў жыцьці перасячы заходнюю беларускую мяжу – я паехаў па літаратурных справах у Бэрлін і Ляйпцыг. Нагадаю: дагэтуль я яшчэ ніколі ня быў за былой савецкай мяжою. Нягледзячы на тое, што да паездкі я рыхтаваўся зь дзяцінства, культурны шок атрымаўся занадта моцны. На другі дзень, едучы на перакладчыцкі сэмінар да Ванзэе, я заўважыў, што ад мяне ідзе нейкі дзіўны пах. Не, гэта быў не смурод (хто ж прызнаецца?), гэты пах быў абсалютна новы, даволі рэзкі і ні з чым не параўнальны. Ніякія сродкі не дапамагалі, пах быў невынішчальны, я вельмі востра адчуваў яго, паціху зьяжджаючы з глуздоў.

На пяты дзень побыту ў Нямеччыне пах раптам зьнік і болей ужо ніколі не вяртаўся. Што гэта было? Арганізм рэагаваў такім чынам на нязвыклае асяродзьдзе: ваду, ежу, паветра? Не, фізычна адчуваў я сябе няблага. Насамрэч гэта быў пах майго страху, маёй разгубленасьці, майго баязьлівага і прагнага першаадкрывальніцтва. У той час, як я, пахрустваючы мапай, блукаў па Шарлётэнбургу ў пошуках набокаўскага дому і тлумачыў літоўскай перакладчыцы, чаму



мяне клічуць Альгірдас Бахаравічус, маё цела геройчна спраўлялася з наймагутнейшай за ўсё жыцьцё гарманальнай атакай. Дзякуй яму, яно не падвяло.

Напэўна, таму так дзіўна часам пахнуць падлеткі – істоты, якія штодня перажываюць гарманальныя выбухі.

Што цікава: нічога падобнага дагэтуль са мной не было ні ў Вільні, ні ў Крыме, ні ў Маскве, ні ў астраханскім стэпе, куды я езьдзіў у маладосьці. Інакш усё можна было б патлумачыць цяжкасьцю адаптацыі. Няўжо былая савецкая прастора ўсё яшчэ дыктуе гармонам народжаных у СССР, як



сябе паводзіць? За каго галасаваць, каму верыць, што думаць і пісаць, і як пахнуць там, дзе цябе не чакаюць, каб выдаць сваё паходжаньне? Гармоны яднаюць нас мацней за мінулае.

Я ўяўляю сабе літаратуру будучага, сумесь невыкараняльнага постмадэрну і непазьбежнай халоднай навуковасьці. Шэдэўр усіх часоў і народаў – аналіз гарманальнага стану якіх-небудзь новых Рамэа і Джульеты ў самы трагічны момант. Табліцы для параўнаньня, лічбы, пахі…

Калісьці нашыя гармоны будуць сьведчыць за нас на судзе.






# Дысьлексія

Дысьлексія – прыгожае слова: абцякальнае, вільготнае, бліскучае… Як сьвежае мяса русалкі. Калі б мне было няўцям, што яно значыць, я напісаў бы гістарычны раман і назваў бы так адну з гераіняў. «Дысьлексія Гелікарнаская сядзела ў засені курчастых дрэваў і ела авечы сыр. Пад яе празрыстай тунікай выразна, як дзьве сьпелыя аліўкі…» і г.д.

Але я не пішу гістарычных раманаў. Таму гаворка пойдзе пра іншую гераіню, пра восьмы цуд сьвету – статую Дысьлексіі Альбарутэнскай у Менску. Яна такая агромністая, што паміж яе расстаўленых ушыркі ног можа праехаць БелАЗ, а на грудзях штогод у траўні ладзіцца сьвята беларускага пісьменства і друку. Культ гэтай багіні перажывае ў краіне новы росквіт.

Дысьлексія – гэта, як вядома… Падсумоўваючы ўсё, што пра яе вядома, скажам так: у шырокім сэньсе дысьлексіяй называюць частковую ці поўную нядзольнасьць чалавека да чытаньня

і зьвязаныя з гэтым праблемы з маўленьнем і пісьмом. Гэта ні ў якім выпадку не хвароба, гэта асаблівасьць псыхічнага разьвіцьця, якой пры пэўных умовах можна нават ганарыцца. Дысьлексія сустракаецца ў людзей любога ўзросту, і калі ў дзяцей яна паддаецца карэкцыі, то з дарослымі ўсё значна складаней.

Паводле маіх назіраньняў, найбольш схільныя да дысьлексіі тры катэгорыі беларускіх грамадзянаў: міліцыянты, старшыні райвыканкамаў і літаратурныя крытыкі.

Уменьне пісаць, чытаць і выказваць свае думкі, натуральна, не належыць да найпершых абавязкаў міліцыянта. Некалькі год таму ўвесь айчынны інтэрнэт быў уражаны немудрагелістым відэаролікам: юны ахоўнік правапарадку, тыповы стрыжаны дысьлектык, у адказ на пытаньне карэспандэнткі, якімі якасьцямі, на яго думку, павінен валодаць сапраўдны міліцыянэр, памэкаў-пакрэкаў і здолеў назваць толькі дабрыню. Тут не паспрачаешся – дабрыня, як сьпявалася ў адным савецкім мульціку, «всех доверчівей і строже».

Ня ведаю, ці мусіць чалавек у форме быць даверлівым, але строгасьці беларускім міліцыянэрам ніколі не бракавала. Ён заўжды па-бацькоўску строгі, гэты герой, гэты чалавек з чароўным дручком: у бязьлітасных вулічных баях з пэнсіянэркамі, студэнткамі і зубатымі журналісткамі; на тэлеэкране, калі ён, вечна насуплены, зь няўклюдным канцылярытам наперавес роспачна блукае ў трох словах, бы ў трох соснах; у ліставаньні з разбэшчанымі свабодай грамадзянамі. Грамадзяне ня скардзяцца, дысьлексія беларускіх міліцыянтаў дорыць людзям радасьць, што ня так ужо й мала ў наш жорсткі век. Нават звычайная аб'ява на дзьвярох правінцыйнага РУУС мае ўсе шанцы стаць гімнам Вялікай Альбарутэнскай Дысьлексіі або хохмаю тыдня для байнэту.



Такое ўражаньне, што ня толькі беларускія, але і расейскія Лексыка, Сынтаксіс, Граматыка, Артаграфія – гэта мянушкі чальцоў небясьпечнай міжнароднай банды, зь якой міліцыя ўжо даўно вядзе зацятую, але беспасьпяховую барацьбу. Цікава: прымусовая падпіска міліцыянтаў на газэту «На страже» – гэта наступства дысьлексіі ці сродак барацьбы зь ёй?

Што да старшыняў райвыканкамаў, то відавочна, што дысьлексія – неабходная ўмова для кожнага кандыдата на гэты высокі пост. Я быў знаёмы зь некалькімі менскімі старшынямі: ніводзін з іх ня быў здольны сфармуляваць нават простую думку, ні вусна, ні пісьмова, ні моваю жэстаў.

Чытаць яны ня ўмелі, хаця й спрабавалі – замілавальнае гэта відовішча, калі старшыня райвыканкаму спрабуе чытаць уголас газэту, асабліва па-беларуску: шоргат, пыхценьне, з чалавека ліецца пот, вочы сьлязяцца, лоб перасякае пакутная складка: па сваёй інтымнасьці і напружанасьці гэты працэс можна параўнаць хіба з наведваньнем прыбіральні. Мае знаёмыя старшыні райвыканкамаў былі сьмелыя, хаця і недалёкія людзі, некаторыя нават зрэдзьчас на-

важваліся на публічныя выступы. Кожная такая прамова нагадвала суцэльны абырвалг. Калі старшыня райвыканкаму заблытваецца ў словах (а гэта звычайна адбываецца адразу пасьля прывітальнае фразы), ён пачынае хапаць ротам паветра. «Дарагія вецераны! Ў ліцэ нашава іспальніцельнава каміцета нашава раёна… пазвольце меня паблагадарыць у вашам ліцэ…»

Вядома ж, кіраваньне цэлым раёнам вымагае ад старшыні значна менш высілкаў, чым кіраваньне дзеясловамі, а схіленьне падначаленых у патрэбныя позы – нашмат прыямнейшы занятак за скланеньне нейкіх там назоўнікаў. Калі пра старшыню нешта пішуць у прэсе – хай сабе нават хвалебную оду для дзяржаўнай газэты – ён заўжды патрабуе прынесьці гатовы матэрыял на вычытку: ці няма там крамолы або памылкі. Але дысьлектыку, як бы ён ні блішчаў акулярамі, непадуладнае мастацтва чытаньня. Старшыня ніколі не чытае сам, за яго чытае сакратарка або іншая якая «вумная жэншчына» з прыёмнай. Старшыня толькі расьпісваецца, суворым выканаўчым росчыркам, бо так ніхто ніколі не даведаецца, колькі памылак ён зрабіў ва ўласным прозьвішчы.

А вось літаратурныя крытыкі свае прозьвішчы напісаць могуць, і не адзін раз. Доўгія гады трэніровак не мінулі дарма. Крытыкі на Беларусі ёсьць разумныя і яркія, але і дысьлектыкаў сярод іх хапае, адно другому ўсё ж не замінае. Крытык-дысьлектык даўно ўсьвядоміў, што чытаньне кніжак – нудны і зь дзяцінства ненавісны занятак



– гэта такі элемэнт ягонай працы, безь якога лёгка можна абысьціся.

Зацікавіўшыся нейкаю кнігай, крытыкі-дысьлектыкі робяць так: зьбіраюць чуткі пра асабістае жыцьцё аўтара (з кім сьпіць, на што хварэе і за якія грошы жыве – гэта няцяжка і звычайна дае нагоду для не абы-якіх філязофскіх развагаў), разглядваюць, як дзеці, вокладку, прыгадваюць пару-тройку завучаных калісьці на філфаку ці журфаку клясычных цытатаў – і крытычны артыкул гатовы.

Засталося запісаць яго і надрукаваць, і вось тут дысьлектыка чакае самая вялікая праблема. Да аналізу дысьлектык ня здольны і сфармуляваць што-кольвечы ён таксама ня можа. Таму нікому не патрэбная ягоная крамзаніна. Бо ён піша пра кнігі, якіх не чытаў. З такім жа посьпехам ён мог бы прымаляваць асадкай рожкі на партрэце аўтара. Каму гэта трэба? – хіба што такому самаму крытыку-дысьлектыку, яны любяць параўноваць сваю дысьлексію з чужой, у каго няздарнейшая і валасацейшая. І тады паміж дысьлектыкамі пачынаецца грызьня, якую ў холдынгу ЛіМ называюць «літаратурным працэсам». Дзякуй Богу, сапраўднай літаратуры проста не застаецца тут месца.

Безумоўна, вышэйзгаданымі грамадзянамі сьпіс Вялікіх Беларускіх Дысьлектыкаў не абмяжоўваецца – сюды можна было б дадаць процьму народу: ад акадэмікаў і член-карэспандэнтаў да камэнтатараў на форуме «Нашай нівы» і іншага

паспалітага інтэрнэтнага люду, для якога любы тэкст, даўжэйшы за тры словы – «многабукф»…

Усе гэтыя людзі вучыліся ў школе, а некаторыя – яшчэ і ва ўнівэрсытэтах. Дысьлексія не перашкодзіла ім атрымаць адукацыю, пасаду і рэгулярны заробак, а часам і ўладу. Дысьлексія наогул не ўплывае на інтэлект.

Тым ня менш у школе дзеці-дысьлектыкі звычайна сутыкаюцца з пагардаю і непрыманьнем, як з боку вучняў, так і з боку аднаклясьнікаў. Іх называюць адсталымі, бо яны не падобныя да іншых. У дысьлектыкаў свае рахункі да чалавецтва…

Кожны з нас у дзяцінстве перажывае гэтую своеасаблівую ініцыяцыю – вучыцца пісаць, чытаць, правільна гаварыць. Па сваёй значнасьці яе можна параўнаць хіба з хрышчэньнем. Навучыўшыся ўсяму гэтаму, чалавек атрымлівае будучыню і мінуўшчыну. Як пісаў Геніс, «будучае зьявілася адначасова з пісьмовасьцю». Уменьне пісаць, чытаць і асэнсоўваць прачытанае адразу ж перакідвае нас у зусім іншую, чым раней, сыстэму каардынатаў, яно ставіць нас пасярэдзіне вялізнага цыфэрбляту Часу, і мы скачам над імклівымі стрэлкамі. Аднак ці ўдасканальвае нас такая фізкультура?

Дысьлексія – разнавіднасьць альтэрнатыўнай адоранасьці. Паводле апошніх дасьледаваньняў, дысьлектыкі проста не ўспрымаюць двухвымернасьці, у якой існуе напісаны тэкст, яны жывуць у трох- , чатырохвымерным сьвеце, у іх іншыя апорныя кропкі для арыентацыі ў прасторы. Ці не нагадвае абавязковая карэкцыя дысьлексіі колішняе змаганьне зь ляўшамі і іншымі «няправільнымі» індывідамі, бессэнсоўную падгонку чалавека пад нейкую сумнеўную норму?



Дзяржавы, абвяшчаючы ў пэўны момант сваёй гісторыі курс на татальную пісьменнасьць грамадзянаў, адначасова руйнавалі ўсе здабыткі народнай непісьмовай культуры, створаныя ў, так бы мовіць, дысьлексічны пэрыяд, калі ў народнай сьвядомасьці не існавалі ні літары, ні радкі, калі ёй кіраваў толькі чысты дух творчасьці, калі чалавек яшчэ не пісаў і не чытаў, але быў значна больш чулы да прыгажосьці.

Такім чынам, маючы праблемы з чытаньнем і пісьмом, дысьлектыкі могуць значна пераўзыходзіць астатніх людзей у іншых сфэрах. У кожным дысьлектыку, магчыма, дрэмле і пахропвае геній. Нездарма на Беларусі так шмат дысьлектыкаў: патрыёты ўжо даўно ўнушаюць нам, што наша белакрылая Радзіма – богаабраны край, рэзэрвацыя мэсіяў, вундэркіндаў і іншых кіндэрсюрпрызаў. Нядаўна высьветлілася, што дысьлектыкамі і беларусамі ў душы былі Айнштайн, Дыснэй, Ганс-Хрыстыян Андэрсэн, Кузьма Шварц і Джордж Буш-малодшы. Цалкам верагодна, што калі б некаторыя міліцыянты заняліся мультыплікацыяй, старшыні райвыканкамаў пачалі прыдумляць казкі, літаратурныя крытыкі задумаліся пра адноснасьць сьвету, а блогеры памяняліся месцамі з акадэмікамі, навокал было б крышку больш гармоніі, а старонка наша родная дысьлектычна квітнела б усім на зайздрасьць.





# Жоўць

Калісьці мэдыкі і іхныя ахвяры-пацыенты верылі, што характар чалавека залежыць ад канцэнтрацыі жоўці ў ягоным арганізьме. Пра злоснага, вечна раздражнёнага, агрэсіўнага чалавека казалі, што ён перапоўнены жоўцю, што разьлітая жоўць у ім кіпіць, што яна не знаходзіць сабе выхаду і атручвае душу і сэрца. У чымсьці яны, вядома, мелі рацыю: хворы жоўцевы пухір нікому не дадае дабрыні і спагадлівасьці.

Увогуле, я цудоўна разумею людзей мінулага, усіх гэтых дактароў зь іхнымі гаючымі п’яўкамі і замардаваных імі хворых: вобраз горкай, едкай жоўці, якую выдзяляе пячонка і якая трапляе ў кроў і потым, разьядаючы ўсё жывое на сваім шляху, псуе нашыя гуморы і выклікае мізантропію – гэта цудоўны, просты і выразны вобраз, які ўсё тлумачыць. Ня тое што сучасныя тэорыі, такія складаныя, заблытаныя і ў кожным разе не даступныя тым, хто не вучыўся ў мэдінстытуце,

ня ўмее неразборліва пісаць на лаціне бледнасінім стрыжнем і ніколі ня рэзаў прылюдна жабак і нябожчыкаў.

Старыя кнігі так апісваюць твар чалавека, які пакутуе ад частых разліваў уласнае жоўці: «Нясьвежы, азызлы, з жаўтаватай скурай, з рэзкімі складкамі… рысы твару сьцягнутыя да цэнтру… спаласаваны тыповымі прамымі маршчынамі… вочы сядзяць глыбока, нібы падсьвечаныя зь сярэдзіны (г.зв. «воўчы позірк»)».

На вокладцы савецкай школьнай хрэстаматыі па беларускай літаратуры з партрэтамі заслужаных пісьменьнікаў (якім мы чамусьці любілі падмалёўваць гітлераўскія вусікі і гімлераўскія акуляры) я пабачыў калісьці дакладна такі твар. Гэта быў Кандрат Крапіва, які злосна і саркастычна глядзеў на нашую сакаліную сям'ю. «Бараны!» – нібыта казаў ён нам. – «Недаробкі! Відаць, што галава слабая! Паселі тут, дэбілы! Дурней дурнога! Што з вас вырасьце! Вось бы я вас адхвастаў па голых задніцах!» Дзякуючы свайму жоўцева-злоснаму твару Крапіва быў адзіным клясыкам, якога ў школе пазнавалі на партрэтах. Некаторыя мае аднаклясьніцы яго баяліся, ён сьніўся ім уначы. Ці быў тут сэксуальны падтэкст, ня ведаю.

Часам кожнага з нас апаноўвае ўласная жоўць – і тады іронія ператвараецца ў зласьлівасьць, жарт – у абразу, Атраховіч – у Крапіву. Калі жоўць вызначае характар – то чым тады ёсьць той драпежны мэдычны зонд, які пранікае ў нашае нутро за мурамі шпіталя, з мэтаю вызначыць канцэнтрацыю ў нас жоўці і яе якасьць? Ці ня ёсьць ён у нейкім сэнсе псыхааналітычнаю прыладаю, а сама лякарня – Жоўтым домам?



Напэўна, было б добра праводзіць такі аналіз кожнаму, перад тым, як прымаць яго на якуюкольвечы працу. Мяркую, мала хто хацеў бы, каб чалавек, схільны да шаленства жоўці, вучыў ягоных дзяцей у школе, лячыў яму зубы або быў тамадой на вясельлі ці, барані божа, супругам. Праўда, ёсьць і тыя, хто ўмее штучна выклікаць павышанае жоўцевыдзяленьне і зарабляе на гэтым грошы – такія людзі называюцца сатырыкамі. Сатырык – слова з XX стагодзьдзя; прафэсія гэтая, і праўда, ужо амаль адмерлая: на Захадзе іх у чыстым выглядзе не існуе, а ў нас занадта часта прафэсійныя сатырыкі – гэта найбольш схільныя да прыстасаванства людзі (вельмі выгодныя дзяржаве, бо займаюцца «канструктыўнай крытыкай» рознай дробязі).

Аднак увогуле жоўць, калі яна натуральная, а ня штучная – адна з найважнейшых вадкасьцяў, якія цякуць-вірують у арганізьме беднага літаратара. Жоўць – атрамант літаратуры, найлепшыя старонкі найцудоўнейшых кніг напісаныя жоўтым па белым, жоўцю па белі.

Гнеў – занадта прасталінейны, абурэньне – празьмерна дыдактычнае і маралізатарскае, іранічнасьць – бяскрыўдная, кпіны намякаюць на нейкія асабістыя рахункі і часам дапамагаюць тэксту дасягнуць хіба жаўцізны, але ніяк ня жоўцевай злоснасьці. Не, літаратуры патрэбная жоўць – сапраўдная, унівэрсальная, едкая




і горкая, толькі яна здольная сваёй гаркатой і зьедлівасьцю закрануць за жывое там, дзе жывога ўжо, здавалася, не засталося, толькі яна ў стане па-сапраўднаму пакрыўдзіць і, калі трэба, абразіць: чытача, грамадзтва, паліцыю, дзяржаву, дурняў, пашлякоў, няздараў. Жоўць ратуе ад абыякавасьці і прымушае ўключыцца даўно абясточаныя разнастайным псэўдамастацтвам чалавечыя адчуваньні.



Палын, шыпшына, віно – вось што прымушае жоўць у нашым арганізьме рухацца жвавей.

Мой знаёмы азэрбайджанскі паэт Мірза наракае на сваіх суайчыньнікаў: «Сядзяць у чайханах, гарбату п’юць! Гарбатай ня зробіш рэвалюцыі. Рэвалюцыю робіць віно!» Бо віно гоніць жоўць, а жоўць здольная раздражніць, занепакоіць, пакрыўдзіць, апячы.

Як хочацца часам мець бясконцыя запасы жоўці, каб яе хапіла на ўсё тое, што ненавідзіш. Як часта, чытаючы разбаўленую жоўць іншых, адчуваеш да іх пагарду. Чым было б мастацтва бяз жоўці?

Стэрылізаваным малачком, надзіманым дручком, прыгожанькім дранько-майсючком.





# Залежнасьць

Добра ведаючы характар свайго мужа, фраў Ашэнвольк пачала падрыхтоўку да задуманай ёй апэрацыі адразу пасьля калядаў. Такім чынам, на пачатку студзеня яна ўпершыню сказала, што яму няблага было б абнавіць гардэроб; напрыканцы месяца яна, скарыстаўшыся нейкаю нагодай, паўтарыла гэта гучней, і па тым, як выцягнуўся яго вечна незадаволены твар, было відаць, што яе пачулі; у лютым яна падсунула яму нейкі каталёг і потым да самага надыходу вясны знаходзіла па ўсёй кватэры старонкі таго каталёгу ў выглядзе папяровых самалёцікаў. У сакавіку яна прызналася, што гер Ашэнвольк, хоча ён ці не, атрымае неўзабаве новую кашулю.

«Але навошта?» – шчыра зьдзівіўся гер Ашэнвольк. – «Я маю дастаткова кашуляў! Зялёная, сіняя ў палоску, шэрая з кішэнямі…»

І ён пачаў загінаць пальцы.

«Гэта старыя кашулі,» – сказала жонка, усьцешаная тым, што яны могуць нарэшце пагаварыць

начыстую. – «Ты ўжо пяць гадоў ходзіш у тых самых кашулях, якія мы купілі перад вясельлем Эмі! І забараняеш мне купіць табе новыя!»

У яе вачах стаялі сьлёзы. Гер Ашэнвольк адчыніў шафу і сумленна разглядзеў кожную кашулю на сьвятло. «Ніводнай дзіркі, ніводнае плямы!» – сказаў ён задаволена, дастаў нешта з кішэні і праз імгненьне міма носа фраў Ашэнвольк праляцеў чарговы самалёт з глянцавай паперы.

Фраў Ашэнвольк не здавалася. У красавіку яна паведаміла, што бачыла цудоўныя і недарагія кашулі ў адной вялікай краме ў цэнтры гораду.

«Уяўляю сабе, што гэта за кашулі!» – горка ўсьміхнуўся гер Ашэнвольк і наліў сабе выпіць. – «Ды хіба там бывае нармальнае адзеньне? Усялякае бліскучае ашмоцьце для пажылых разьведзеных трансвэстытаў!»

Дзень для пакупкі быў выбраны пагодны і сонечны. Гер Ашэнвольк з агідаю глядзеў на манэкены, якія стаялі за шклом невялікімі групамі і, мяркуючы па іхных абліччах, замышлялі нешта нядобрае. Аднаму такому бамбізу без шкарпэтак прадавачка нацягвала туфлі, і было нешта зьдзеклівае ў вачох гэтага марцыпанавага хлопца. Нават сонечныя зайчыкі на шкле падаваліся геру Ашэнвольку адмысловым рэклямным трукам. Гер Ашэнвольк запаволіў хаду, паспрабаваў уявіць сябе ў новай кашулі і яго перасмыкнула.

«Перастань крыўляцца! Паглядзі лепш на гэты цуд,» – пацягнула яго за рукаў жонка.

Іх якраз абганяла дзяўчына, уся абвешаная



пярэстымі поліэтыленавымі пакетамі самых розных памераў – па іх можна было прасачыць, якія модныя крамы яна сёньня ўжо наведала. Пад пахаю ў дзяўчыны была заціснутая скрынка з абуткам, на якой чырванеў пацалунак вялікай травеньскай зьніжкі. Было дзіўна, як гэта дзяўчына ня падае з такімі высокімі абцасамі. Тым ня менш, яна бегла і хутка зьнікла за рогам.

«Як ты мяркуеш, зь якой яна краіны?» – спытала фраў Ашэнвольк.

«Ня ведаю,» – змрочна прабурчаў яе муж і зноў зь нянавісьцю стаў разглядваць вітрыны.

«А я думаю, яна з Расеі!» – пераканана заявіла фраў Ашэнвольк.

Гер Ашэнвольк паморшчыўся.

«Неабавязкова,» – сказаў ён неахвотна і пакруціў верхні гузік. – «Па-першае, з такім самым посьпехам яна можа быць з Мэксыкі. Па-другое, Расея даўно распалася на маленькія краіны, на пятнаццаць маленькіх краінаў, здаецца…»

«Ня можа быць!» – жахнулася фраў Ашэнвольк. – «Бедныя расейцы! Заўжды ў іх нешта здараецца. Неяк гэта прайшло міма мяне».

«Так, на пятнаццаць,» – з задавальненьнем сказаў гер Ашэнвольк і пачаў загінаць пальцы, ён гэта любіў. – «На ўласна Расею, на Малдову, на Казахстан… Расея, Малдова, Казахстан… »

Жонка цярпліва чакала, але гер Ашэнвольк ніяк ня мог прыгадаць, якія там яшчэ краіны, і вельмі зьбянтэжыўся. На шчасьце, яны ўжо дайшлі да крамы і ён, прапусьціўшы жонку наперад, з асьцярогаю ступіў усярэдзіну.

Так, ён і праўда даўно ужо ня быў у вялікіх модных крамах, таму пачуваўся крыху разгубленым. Скасавурыўся на жонку – тая ўвайшла сюды, як у храм: адначасова прасьвятленьне на твары і дзелавітасьць, трэба ж заняць найлепшае месца, каб слухаць казаньне. Агледзеў астатніх пакупнікоў, з тымі ўсё было яшчэ горш. Кожны ўваходзіў сюды, як у храм, але многія – як у храм, пабудаваны ў іхны гонар. Падступная, юрлівая, саладжавая, ня надта гучная, ня надта ціхая музыка лілася з кішэняў разьвешанага паўсюль адзеньня. Прадавачкі ўсьміхаліся геру Ашэнвольку, як самаму дарагому госьцю, станікі расшпільваліся ад аднаго толькі погляду, пінжакі, убачыўшы яго, нячутна запляскалі, і ён паказаў ім язык. Асьвятленьне нагадала геру Ашэнвольку адну даволі прыемную гісторыю зь ягонага юнацтва, калі не было яшчэ ніякай фраў Ашэнвольк, а былі німфы і наяды, такія даступныя, заўжды гатовыя зрабіць зьніжку…

Людзей у краме было багата. Фраў Ашэнвольк рухам садоўніка сабрала зь вешалак пяць ці шэсьць кашуляў і павяла мужа да прымерачных кабінак. Ім давялося пачакаць, пакуль якая-небудзь вызваліцца – колькі хвілінаў яны стаялі разам з засяроджанымі пакупнікамі абодвух палоў. Людзі выходзілі з кабінак успатнелыя, зьнясіленыя, але шчасьлівыя, бы займаліся там невядома чым, некаторыя заходзілі ў кабінкі ўдваіх і нават утраіх, асабліва школьніцы.

«Чаму не на занятках?» – калі б гыркнуць так, тут бы адразу стала вальней дыхаць. Усе глядзелі ўніз, на ногі тых, хто ўжо прымерваў рэчы, гер Ашэнвольк таксама паглядзеў туды, прыемнае відовішча: голыя ступакі зь не зусім чыстымі пяткамі, шкарпэткі з надпісам «Панядзелак», парваныя панчохі, раз – і на падлогу падае нечая спадніца. «Ну вось!» – сказала фраў Ашэнвольк, калі яе муж упершыню адсунуў фіранку. «Табе вельмі пасуе! І ты… ты зусім не падобны на пажылога разьведзенага трансвэстыта!»



«Так, у ёй я падобны на шчасьлівага трансвэстыта!» – пагадзіўся гер Ашэнвольк і зноў схаваўся ў кабінцы. Ну вось, на нейкую хвіліну ён быў адзін. Ды ўсё адно яму здавалася, што нехта за ім назірае.

Фраў Ашэнвольк пачула за фіранкаю звыклую лаянку і зморана ўзьняла вочы ўгару. Яе муж высунуў з-за фіранкі кіслы твар і тут зусім побач, недзе справа ў адной з кабінак нехта дзіка, пранізьліва залямантаваў.

Гэта быў такі крык, ад якога хацелася зараз жа схавацца кудысьці, закапацца з галавою ў пінжакі, станікі, нагавіцы і паліто. Усе, хто стаяў разам з сужонствам Ашэнволькаў, заціснулі вушы, тое самае зрабілі і гер Ашэнвольк з жонкаю, і толькі дзьве школьніцы ў навушніках, якія чакалі сваёй чаргі, як нічога ніякага жавалі нешта, уперыўшыся вачыма долу.

Гер Ашэнвольк асьцярожна адняў рукі ад вушэй. Крык працягваўся, але быў ужо трохі цішэйшы. Фраў Ашэнвольк таксама ачуняла і цяпер спалохана глядзела на мужа. Крычалі зусім блізка, за пару мэтраў ад іх. Гер Ашэнвольк

пастаяў крыху, прыслухоўваючыся, а потым падышоў да адной з кабінак і рэзка адсунуў фіранку. І праўда, там, утаропіўшыся ў люстэрка, стаяла і лямантавала дзяўчына, вельмі падобная да той, якую яны бачылі, падыходзячы да крамы. Прынамсі, пакеты, якімі была заваленая кабінка, наводзілі на такую думку. Была тут і скрыначка з абуткам, купленым непадалёку зь вялікай травеньскай зьніжкай, былі і пакеты зь лягатыпам крамы, дзе яны цяпер знаходзіліся. Гер Ашэнвольк дакрануўся да пляча дзяўчыны, тая здрыганулася, але працягвала крычаць – што праўда, усё цішэй і цішэй, але рот яна не закрывала. Твар дзяўчыны быў перакрыўлены жахам, яна неадрыўна глядзела ў люстэрка. Гер Ашэнвольк узяў дзяўчыну за плечы і вывеў з кабінкі.

«Я таксама спачатку трэніруюся перад люстэркам, калі зьбіраюся да стаматоляга», – сказаў гер Ашэнвольк мякка. – «Але вы, здаецца, нешта пераблыталі».

Каля кабінкі сабраўся натоўп. Добры голас Ашэнволька падзейнічаў на дзяўчыну супакойліва. Яе крык перайшоў ва ўсхліпы, а потым яна хутка-хутка загаварыла пра нешта, на зусім незразумелай мове.

«У яе гістэрыка!» – сказала фраў Ашэнвольк. – «Беднае дзяўчо!»

«Трэба даведацца, адкуль яна,» – сказаў гер Ашэнвольк, зьвяртаючыся да ўсіх прысутных. – «Будзеце сьведкамі» – і ён сунуў руку ў сумачку дзяўчыны. Праз імгненьне ў яго руках быў яе пашпарт.



«Republic of Belarus,» – гучна прачытаў гер Ашэнвольк. – «Цікава, дзе гэта?»

«Бэлярус, Бэлярус…» – пакатала незнаёмае слова ў роце фраў Ашэнвольк. – «Не, не магу ніяк запомніць. Дарагі, давай яна будзе з Малдовы, добра? Малдову я ўжо запомніла».

«Хтосьці тут размаўляе па-малдоўску?» – зьвярнуўся да замерлай грамады гер Ашэнвольк. Фраў Ашэнвольк глядзела на яго з захапленьнем – які ён ініцыятыўны, разважлівы, строгі, кемлівы, у гэтай незашпіленай на грудзёх кашулі яе муж выглядаў проста богам. Добра, што яна прывяла яго сюды.

«Мяркую, што ёй трэба даць заспакаяльнага», – сказала рабая дама ў белай тэнісцы.

«Я патэлефаную і даведаюся, ці няма ў нас малдоўскага консульства», – важка прамовіў сівы спадар у трансвэстыцкай кашулі.

«Мы ўжо выклікалі доктара», – дадала, нібы выбачаючыся, адна з прадавачак, якія прыбеглі сюды, пачуўшы крык.

І тады дзяўчына залямантавала зноў. «У яе стрэс», – сказала дама ў белай тэнісцы і высмаркалася.

«Яна хворая, так? » – спытала гера Ашэнволька адна з школьніц, навушнікі якой былі жоўтыя ад вушной серы. – «О, ку-у-уль!»

«Яна шопаголік, тыповы шопаголік», – сказаў гер Ашэнвольк, моршчачыся ад няспыннага крыку. – «Шопагалізм – гэта такая залежнасьць. Я, здаецца, ведаю, як яе суняць хаця б на трохі».

Ён схадзіў і прынёс нейкі каталёг, сунуў

дзяўчыне пад нос. Тая крычала не змаўкаючы ва ўсю сілу сваіх малдоўскіх лёгкіх, але потым зацікавілася, і з рычаньнем стала гартаць старонкі.

«Вось,» – пасьміхнуўся гер Ашэнвольк. – «У шопаголікаў гэта бывае…»

«Колькі шмотак яна набрала!» – сказала школьніца з зайздрасьцю. – «Шопагалічка хрэнава!»

«Я чытала цэлы раман пра шопаголікаў…» – сказала дама ў тэнісцы. – «Як жа завуць тую пісьменьніцу? Кіншаса? Марэла? Ня памятаю. Але думаю, каб напісаць такі раман, трэба самой…»

«Гэта ўсё ад недахопу сэратаніну ў крыві», – сказаў спадар у нетрадыцыйнай кашулі. – «Малдаванкам не хапае гармону шчасьця».

«У іх там проста надта холадна,» – сказала адна з прадавачак.

«Лухта,» – сказаў гер Ашэнвольк, паварочваючыся да жонкі, але той чамусьці нідзе не было відаць. – «Прычыны ўсіх залежнасьцяў трэба шукаць у дзяцінстве. Яе мала любілі, мала гладзілі па галаве. Мала лашчылі… Зь пяці год – ніякіх абдыманьняў-цалаваньняў. Баяліся разбэсьціць. Бацькі, я маю на ўвазе. Мама і тата разумелі гэта – і пачуваліся вінаватымі… Гэтаму дзяўчу трэба была пяшчота. Трошачкі пяшчоты і чакалядны мафін па панядзелках».

«Во-во», – сказала школьніца. – «Але нашто ёй столькі шмотак? Яны ж ужо ўвосень выйдуць з моды!»

«Шопаголікам важны ня толькі вынік, ім важны таксама працэс», – пакачаў галавой гер Ашэнвольк. – «Але найперш факт, падзея – гэта



ўзьвялічвае іх ва ўласных вачах. Факт пакупкі… Факт валоданьня… Валоданьне ў пэўнай ступені штучная замена ласкі. Дарэчы, вы ня бачылі маю жонку?»

«Дзе доктар?» – спытала дама ў тэнісцы, зірнуўшы на гадзіньнік.

«Мы праглядзелі відэазапіс», – цяжка дыхаючы, прыбегла другая прадавачка. – «Яна была не адна… Гэтая малдаванка ўвайшла ў краму зь сяброўкай. Магчыма, гэта мае нейкае значэньне?»

«Не адна…» – задумаўся гер Ашэнвольк, пазіраючы на дзяўчыну, якая з хрыплымі выкрыкамі гартала каталёг. Ён увайшоў у кабінку і стаў разглядваць люстэрка, потым стаў корпацца ў рэчах малдаванкі. «Не адна…» – паўтарыў ён, «Не адна…» – прасьпяваў ён, «Не адна…» – сказаў ён, разглядваючы этыкеткі на купленых дзяўчынай рэчах і на тых, якія яна толькі зьбіралася мераць.

«Здаецца, доктар не спатрэбіцца», – прамовіў гер Ашэнвольк і ўсьміхнуўся. Ён прыўзьняў малдаванку пад пахі, паставіў яе перад сабой і, сур'ёзна гледзячы ёй у вочы, сказаў:

«Вам гэта не пасуе, чуеце?»

Вочы малдаванкі расшырыліся.

«Вы зараз жа здымеце гэтую рэч. Гэта ня вашая рэч. Вы здымеце чужую рэч і пашукаеце штосьці, што будзе пасаваць ВАМ. Тое, што пасуе аднаму чалавеку, не абавязкова пасуе іншаму».

Малдаванка раптам зашаптала нешта, горача, мокра. Дама ў тэнісцы скептычна слухала гера



Ашэнвoлька, абмахваючыся ўласнай пантофляй.

«Вы ня будзеце ёй так зайздросьціць,» – працягваў гер Ашэнвольк, зазіраючы малдаванцы проста ў зрэнкі, – «Вы, урэшце, маеце зусім іншы памер, ня той, які пазначаны на гэтым цэтліку, ці ня так? Вы зараз жа пойдзеце і здымеце тое, што вам ня трэба!»

Ён падштурхнуў малдаванку да кабінкі і захінуў за ёй фіранку. Крык, які пачуўся адтуль, стаў проста невыносны, але ўсе, заціснуўшы вушы, зь цікавасьцю глядзелі ўніз, на падлогу кабінкі, на белыя ногі ў туфлях на высокім абцасе, якія няўпэўнена тапталіся па дыване. Пэўны час нічога не адбывалася…

«Глядзіце, глядзіце на ногі, іх чатыры!» – закрычала дама ў тэнісцы. – «А каб цябе халера!..»

«Ды не, іх шэсьць!» – перакрыкваючы малдаванку, выгукнуў спадар у моднай кашулі.

Гер Ашэнвольк прысеў на кукішкі перад кабінкай і пачаў загінаць пальцы.






# Зубы

Часам я даволі выразна ўяўляю сабе, як са мной здараецца няшчасьце і я паміраю – не ў мэтафарычным сэнсе, а так, як гэта робяць нармальныя людзі зь менскай прапіскай, паводле Энгельса – «раскладаючыся і нічога не пакінуўшы пасьля сябе, апрача хімічных складнікаў, якія ўтвараюць субстанцыю цела».

Гэта адбываецца не ў вялікім горадзе, ня ў ложку і не пад назіраньнем дактароў – не, месцам здарэньня становіцца змрочны, брудны вакзальчык дзесьці ў Ніжняй Бажэніі, у мястэчку з насельніцтвам пяць тысяч душ – карацей, там, дзе мяне ніхто ня ведае і ведаць ня хоча. Але ім давядзецца са мной пазнаёміцца, зласьліва думаю я, на дадзены момант – мудрагелістая камбінацыя неапазнавальных абгарэлых костак. Прынамсі, аднаму зь іх.

«Бедны Ёрык!» – скрушна кажа малады судмэдэкспэрт, маючы на ўвазе зусім не мяне, а свайго малога сына, у якога трэці дзень як рэжуцца зубкі.

Сёньня яму не выпадае пагуляць зь Ёрыкам, сёньня намазваць дэнтыноксам дзясны малому Ёрыку будзе ягоная жонка, а ён, судмэдэкспэрт, будзе заняты мной, дарослым мужыком, які пакінуў пасьля сябе цэлую кучу хімічных складнікаў – да таго ж замежнікам, аўслэндэрам, які хацеў трошачкі раўс і таму паехаў танным цягнікам зь перасадкай у Ніжняй Бажэніі, замест таго каб ляцець самалётам зь перасадкай у Мюнхэне. Пашпарт аўслэндэр абачліва забыў дома, і таму судмэдэкспэрту давядзецца папрацаваць – магчыма, дамоў ён вернецца толькі на досьвітку, калі Ёрык, скрычаўшыся, нарэшце засьне.

Судмэдэкспэрт, так бы мовіць, павінен «вырваць у трупа яго тайну». А труп дык і рады: па-першае, нарэшце перасталі балець зубы, якія мучылі яго, колькі ён сябе памятае; па-другое, тайна – ня зуб, балюча ня будзе, і ня будзе гэтай праклятай замарозкі, падобнай да нейкай сызыфавай аблаткі, якую ўвек не пракаўтнуць; па-трэцяе, цяпер можна трымаць язык за зубамі і ніхто не назаве цябе за гэта мізантропам; па-чацьвертае, у яго зуб на людзей і таму ён усё-ткі крышку мізантроп, ці, дакладней, мізантруп; па-пятае, нарэшце нехта зацікавіўся ім усур'ёз, не патрабуючы ўвагі ў адказ… Ён зуб дае, гэты труп, што да канца ягоную тайну судмэдэкспэрту не раскусіць. Хаця ў судмэдэкспэрта добрыя, белыя зубы, здаровыя зубы маладога драпежніка.

Судмэдэкспэрт замыкае дзьверы, дастае з шафы бутэльку прызапашанага для такіх выпадкаў піва «Abram«, адкаркоўвае яе і прыладжвае



лямпу. Гэта не зашкодзіць – трохі піва перад такой адказнай справаю, як допыт чалавечых зубоў. Зрэшты, супакойвае сябе судмэдэкспэрт, які тут допыт: хутчэй я проста мушу выдаць яму пашпарт, гэтаму небараку. Мая справа на сёньня – як мага больш поўная ідэнтыфікацыя асобы. Выгляд костак, што ляжаць перад ім, судмэдэкспэрта чамусьці злуе: абгарэламу трупу відавочна ўтульна пад лямпаю. Як і ўсе чарапы, якія маюць менскую прапіску, гэты нібыта ўсьміхаецца. Адкуль бацьку беднага Ёрыка ведаць, што ён сам цяпер уяўляецца загібламу стаматолягам – і ўпершыню ў пацыента няма ніякага страху перад крэслам, і катавальнымі інструмэнтамі, і бормашынай. Ніякага панічнага жаху, і можна бясконца доўга прыслухоўвацца да цягнікоў, якія праносяцца туды-сюды празь Ніжнюю Бажэнію: раўс!!! – енчыць адзін, вількомэн! – лямантуе сустрэчны. Нехта кажа: чалавек загінуў, нехта кажа: вакзал згарэў. У кагосьці рэжуцца зубы, а камусьці іх рэжуць. У рот сыплецца касьцяны парашок. Сплюньце.

Празь нейкі час у руках судмэдэкспэрта зубы загіблага пачынаюць нарэшце даваць першыя паказаньні. Зубы наогул могуць шмат пра нас распавесьці. Асабліва кепскія зубы, гнілыя зубы, штучныя зубы аўслэндэраў.

Напрыклад, пра тое, што іхнаму ўладальніку было ад трыццаці да трыццаці пяці гадоў. Пра гэта кажа ступень сьціраньня зубоў верхняй сківіцы: бугаркі на іклах, малых карэнных і другіх вялікіх карэнных амаль зусім сьцёртыя,

на разцах і першых вялікіх карэнных сьціраньне ўжо закранула дэнтын. Там, дзе ён яшчэ застаўся. Рот, як плямбаваны нямецкі вагон. Караімскія калёніі карыесу. Любіў салодкае: асабліва любіў валяцца на канапе ў вольны час і паглынаць цукеркі. Паміж трыццацьцю і трыццацьцю пяцьцю ўпадабаў украінскую «Шалену бджілку». А паміж нулём і шаснаццацьцю аддаваў перавагу арахісавым цукеркам, цьвёрдым, як алмаз, якія ў роце цудадзейным чынам пачыналі зьмяняць структуру, выпускаючы празь некалькі хвілінаў у сьліну сьляпое немаўля смаку. Увогуле, смак з самага пачатку быў для яго найважнейшы, смак і – потым – густ. Зубы таксама чысьціў заўжды толькі дзеля смаку – не дзеля чысьціні, не калупаўся ўнікліва – што толку калупацца ў руінах, дзе затаіліся прывіды болю: ня там правядзеш выпадкова шчоткаю – і гамон, разбудзіш зьверабяссонную ноч і будзеш біцца галавой аб сьцяну і глытаць замест цукерак пігулкі (праўда, гадоў у дваццаць і ў парацэтамоле ён пачаў знаходзіць свой смак, прахалодна-горкі, пякучы, смак для сапраўдных гурманаў).

Зубы балелі невыносна, невыносна. Неяк, едучы ў аўтобусе, закрычаў бацькам: «Дайце мне мыш'яку!» – бо добра запомніў іхныя тлумачэньні: лекар кладзе ў зуб мыш'як, каб забіць нэрв. Нэрв быў ягоным ворагам, нэрв уяўляўся яму зламысным атавізмам, які невядома хто ўжывіў яму ў зуб, проста каб памучыць лішні раз. У старэйшых клясах школы, апанаваны фаталізмам, ён пахмурна стаў фармуляваць для сябе злавесныя



«зубныя законы»: «У чалавека насамрэч адзін зуб – той, які цяпер баліць» (правільна, бо калі зубы не баляць, іх не заўважаеш), «Зубы дадзены чалавеку, каб ён расплачваўся за грэх трупаедзтва» (хаця сам еў мяса, жор да апошняй хвіліны, бо чым быў той апошні вакзальны дзёнэр, як ня мёртвым мясам? І мяса завязала ў зруйнаваных зубах).

Зубачысткай не карыстаўся. Аднойчы паспрабаваў – рот напоўніўся крывёй, драўляная іголка адразу ж прапарола хворыя дзясны. Рана пачаў губляць зубы, у сківіцу яму ўставілі мэталічны штыфт, на які надзяваўся матава-шэры зуб, ягоны любімы зуб – бо гэта быў зуб, які ніколі не забаліць. Аднак насіць яго вечна было немагчыма – празь некалькі гадоў ён падаў са штыфта, і тады рот лепш было наогул не раскрываць: штыфт пагрозьліва тырчаў са сківіцы, палохаючы нават саміх дантыстаў – жалезны зуб, квінтэсэнцыя пакуты.

Штучны зуб, які выпаў, клаўся ў пушачку ад запалак, і з гэтай пушачкай ён ехаў на іншы канец горада, да знаёмага пратэзіста. Пратэзіст моўчкі чысьціў зуб і прыляпляў на месца. Са штучным зубам трэба было абыходзіцца надзвычай асьцярожна: ня есьці пярэднімі зубамі – гэта быў закон, амаль такі ж супрацьнатуральны, як законы доктара Мора для зьвералюдзей.

Ён, дарэчы, належаў да тых, хто ўжо нарадзіўся з зубамі: бываюць такія індывіды, якія пакідаюць матчына ўлоньне, ужо маючы на дзяснах шалупінкі дэнтыну. У старажытнасьці такіх немаў-

лят забівалі, бо лічылі іх вампірамі. Добра, што ён нарадзіўся ў часы росквіту стаматалягічнай навукі, калі вампіраў не забіваюць, а запісваюць на прыём да дантыста.

Часам дантыст зьяўляўся сам, нібы д’ябал: прыкладам, у школе, дзе для яго і ягонай пякельнай машыны аддавалі лябаранцкі пакой побач з кабінэтам хіміі. Доктарка ўсімі сваімі манерамі, сваёй квадратнай патыліцай, сваімі валасатымі рукамі і цяжкімі ботамі нагадвала эсэсаўца, які прыехаў у канцлягер ставіць вопыты над людзьмі. Вядома ж, пабачыўшы доктарку, ён ня даў рады пераступіць парог лябаранцкага пакоя, ён проста ўцёк адтуль, і ніхто ня здолеў прымусіць яго вярнуцца. Зь яго сьмяяліся: сцыкун. Гэта цяпер кажуць: фобія, атрыманая ў выніку дзіцячае псыхічнае траўмы, а ён усё адно чуе: сцыкун. За ўсё сваё школьнае дзяцінства сцыкун уцякаў толькі зь піянэрскіх лягераў і стаматалягічных кабінэтаў. Больш ніадкуль.

У тым узросьце, калі дзеці губляюць веру ў казкі, ён часта задумваўся пра тое, якія тры жаданьні ён загадаў бы, калі б сустрэў сапраўднага чараўніка. Першыя два былі ідэалягічна вытрыманыя: каб быў мір ва ўсім сьвеце і каб бацькі ніколі не памерлі. Аднак трэцяе зьзяла непрыхаваным эгаізмам: прачнуцца аднойчы раніцай, маючы зубы, якія ніколі не забаляць. Што ж, калі б ён дажыў да сарака, магчыма, яно б і спраўдзілася, гэтае жаданьне.

Жыць з такімі зубамі азначала заўжды мець кепскі настрой. Штохвіліны адчувальная хісткасьць у роце адлюстроўвалася на ягоных думках, на стаўленьні да жыцьця, на мове: размаўляў нейкімі рванымі фразамі, адказваў коратка і блытана, быў няздольны гаварыць доўга, фармуляваць дакладна, ня ўмеў аргумэнтаваць… Калі іншыя гаварылі, ягоны язык быў заняты зусім іншымі справамі: вылізваў руіны свайго рота, прыемна раздражняючыся ад паколваньня аб вострыя выступы дэфармаваных зубоў, вучыўся любіць гэтую цёмную, сырую пячору, у якой насамрэч жыў розум гэтага чалавека. Ад яго, здавалася, пастаянна чулася гудзеньне: гэта лётала па ягонай ротавай поласьці «шалена бджілка» болю, неўміручая звар’яцелая пчолка. Ён адкрыў для сябе, як яе можна ўтаймаваць – алькаголем, вядома ж. Кілішак за кілішкам – дурная пчала кружляла ўсё марудней, пакуль ня падала ўрэшце яму на язык. Або ён быў п’яны, або ў яго балелі зубы – тэрцыюм нон датур. Як ён мог пры гэтым яшчэ і вучыцца, працаваць, кахаць – пра гэта зубы, на жаль, маўчаць.

На гэтым судмэдэкспэрт пакуль што канчае працу. Раніца. Ён тэлефануе дамоў. Ёрык сьпіць. Ноч прайшла спакойна. Кожны з нас мае ў сваім календары тры дні, якія ніколі не надыдуць: дзень уласнае сьмерці, дзень выкананьня ўсіх жаданьняў і дзень, на які мы запісаныя да стаматоляга.



# Інтым-шоп

Менск, бадай, адзіная з эўрапейскіх сталіц, у якой няма ніводнага сэкс-шопу. Ажно сорамна становіцца за родны горад. Між тым, цалкам відавочна, што патрэба ў гэткіх крамах ня меншая, чым у аптэках, і адназначна большая, чым у помніках Пушкіну. Прадукцыя, якую прапануюць крамы такога кшталту, умацоўвае сям’ю, спрыяе захаваньню сэксуальнага здароўя, дапамагае пазьбегчы небясьпечных для грамадзтва псыхічных і фізычных адхіленьняў і – што, відаць, самае важнае – абуджае фантазію і ўзбагачае сьвет нашых адчуваньняў…

Прыкладна так, трошкі блюзьнерачы, але па вялікім рахунку абсалютна сур’ёзна я выказаўся неяк у сваім блогу, а потым і ў «адмысловай» інтэрнэт-суполцы raspusta_by. Некаторыя абазнаныя чытачы адразу ж уступіліся за гонар сталіцы і запярэчылі: ёсьць у Менску сэкс-шопы, ёсьць! Называліся замаскаваны пад сэканд-хэнд па-

койчык недзе на Экспабеле, ды яшчэ закуточак на Ждановічах, ды яшчэ недалёка ад інстытуту культуры быў сэкс-шоп, але не пасьпеў адкрыцца, як яго зачынілі. І гэта ня лічачы пары-тройкі віртуальных крамаў, якія забясьпечваюць ананімнасьць пакупкі і дастаўку тавару на дом – стоячы ў перадпакоі, галодны малады кур'ер папросіць дарасьпісацца і будзе доўга ўключаць замоўленую прыладу, блытаючыся ў кнопках і анатамічных тэрмінах (потым высьветліцца, што батарэйкі ў камплект не ўваходзяць).

Так гэта ці не, але сапраўднае інтым-крамы, дзе ўсё можна было б памацаць і панюхаць і якая годна прэзэнтавала б сэкс-індустрыю на фоне іншых індустрый: трактарабудаўнічай, віна-гарэлачнай і піянэрагадоўчай, за гады незалежнасьці ў Менску так і не зьявілася. На маёй памяці было некалькі спробаў наблізіць такім чынам Менск да заходніх гарадзкіх стандартаў, але кожны раз мясцоваму сэкс-шопу ўдавалася праіснаваць усяго некалькі месяцаў. Такое адчуваньне, што ўлады (ад якіх, у выніку, залежыць лёс любой прыватнай крамы) вядуць зь менчукамі тонкую сэксуальную гульню, любоўна дражнячы іх, то падпускаючы бліжэй, то аддаляючы ад магчымасьці мець нармалёвую інтым-краму. Любы сэксапатоляг скажа, што такая гульня ў дражнілкі, безумоўна, добрая для прэлюдыі, але павінна некалі скончыцца паўнавартасным сэксам.

Асартымэнт такое (дый любое крамы) мусіць зацьвердзіць выканкамаўскі чыноўнік, якому почасту здаецца, што, даючы дазвол на продаж



нявіннага вібратара, ён санкцыянуе пабудову дзевяціпавярховага бардэля побач зь сярэдняй школай. А сам гэты чыноўнік – не абавязкова такі просты, якім здаецца ў прыёмныя гадзіны: ня выключана, што кожную ноч ён бачыць салодкія сны пра тое, як эякулюе на папярэдне зьвязаную і ўкрыжаваную загадчыцу аддзелу моладзі. Даволі нявінная, калі разабрацца, мара, пры ўмове ўзаемнай згоды, ва ўсялякім выпадку нічога супрацьнатуральнага. Ды толькі немагчымасьць яе спраўдзіць ці хаця б чымсьці кампэнсаваць робіць чыноўніка злоснай, панылай істотай, якая схільная забараніць усё, што слабейшае за яе, і якая хто ведае да чаго можа дайсьці ў пошуках рэалізацыі сваіх патаемных жаданьняў – да згвалтаваньня, забойства, калецтва, замарачэньня розуму... Сэкс-шопу зь лялькамі для патрэбаў дадзенага індывіда паблізу няма.

Недалёка ад нашага чыноўніка адышла і грамадзкасьць. Чамусьці пад ёй маюцца на ўвазе які-небудзь бацюшка Агамэмнан, ці суседка Міліца Ільлінішна, ці загадчыца РАНА, ці вэтэраны, але ніяк не патэнцыйныя пакупнікі сэкс-тавараў. Дый хіба не магла б знайсьці ў сэкс-шопе нешта на свой густ і гэтая кампанія? Анальныя шарыкі для Агамэмнана, шматфункцыянальны вібратар для Міліцы Ільлінішны, бізун і шыкоўныя лакіраваныя кайданкі для загадчыцы, якаснае нямецкае порна – калі не для вэтэранаў, дык для іх унукаў.

А ці трэба нам яно, запытаецца Міліца Ільлінішна, астыўшы? (сытуацыя амаль нерэальная,

людзі яе загартоўкі – неверагодныя hot things і так проста не астываюць).

Адсутнасьць сапраўдных сэкс-шопаў – прыкмета несвабоды. Несвабоды ня толькі сэксуальнай, але і асабістай, палітычнай, эканамічнай, культурнай, якой заўгодна. Чалавек, пазбаўлены права выбару, падобны да зьняволенага – колькі б ён ні крычаў пра тое, што ўсім задаволены. Словы пра ўмацаваньне сям'і і сэксуальнае здароўе былі сказаныя ня проста так. Замест змрочнай, нэўратычнай і банальнай, а часам папросту вымушанай сужэнскай здрады – расквечаныя яркімі эмоцыямі мастурбацыйныя радасьці, гарантаваная гігіена заміж выкарыстаньня ў якасьці сэксуальных цацак непрыдатных для гэтага прадметаў, душэўная раўнавага дзякуючы выкіду энэргіі і задаволеньню самых далікатных жаданьняў, накіроўваньне сэксуальнай агрэсіі ў бясьпечнае рэчышча, адноўлены шал даўно згаслых пачуцьцяў, абуджэньне фантазіі, шырэйшая гама эмоцый, патэнцыял для творчасьці, прыемнае (і карыснае) спазнаньне сябе ды іншых, адкрыцьцё сваіх прыхаваных магчымасьцяў, шчыльнейшае збліжэньне з тымі, каго кахаеш. У гарадах, дзе можна зь лёгкасьцю адшукаць сэкс-шоп, жыць бясьпечней і весялей, бо там менш крывадушнікаў, кожны трэці зь якіх хварэе на нейкую сэксуальную манію, там наогул ніхто не зацыкліваецца на сэксе, бо ён успрымаецца як нешта натуральнае, а ня як таропкі грэх пад коўдраю дабрадзейнасьці.

Толькі свабодны чалавек наведае сэкс-шоп без



пачуцьця віны, старанна прышчаплянага яму чыноўнікамі, Міліцамі і айцамі Агамэмнамі. Напэўна, нездарма першаадкрывальніцай у гэтай галіне была нямецкая лётчыца Бэата Узэ. Яшчэ ў дзяцінстве яна марыла лятаць і нават аднойчы, прачытаўшы гісторыю пра Ікара, змайстравала сабе крылы ды пырхнула з даху бацькоўскага дома – і цудам засталася жывая. Неба вабіла Бэатэ як сымбаль свабоды. У маладосьці яна атрымала лётчыцкую ліцэнзію, ваявала ў складзе Люфтвафэ, а ў 1962 годзе адчыніла першы ў сьвеце сэкс-шоп – у Фленсбургу, стаўшы адным з тых першых камянёў, якія вырвала з бруку і шпурнула ў твар замерламу ў місіянэрскай позе грамадзтву вялікая сэксуальная рэвалюцыя. Спачатку яе краму спрабавалі зачыніць, а саму Бэатэ абвінавачвалі ў амаральнасьці, падрыве асноваў грамадзтва і разбэшчваньні моладзі. Але часы даўно зьмяніліся, перад сьмерцю яна атрымала дзяржаўны ордэн, крыж «За заслугі».

Заслугі Бэатэ былі, па сутнасьці, у тым, што яна пасьпяхова і не здаючыся працягвала сваю «амаральную» дзейнасьць па «падрыве асноваў і разбэшчваньні». Часы зьмяніліся, грамадзтва здолела прызнаць, што яно мае сэкс і што яно хоча мець добры сэкс – мужны ўчынак. Сэкс-шоп стаў гэткім жа звыклым атрыбутам гораду, як кіёск або сьветлафор – але ня ў Менску.

Вядома ж, тыя прылады, якія прапануе асартымэнт нармальнага сэкс-шопу, ніколі не заменяць жывога чалавека – а такія страхі даволі распаўсюджаныя, чалавецтва ўсё глыбей грузьне ў вір-

туальным сьвеце, на паверхні толькі і засталіся, што полавыя органы і кончыкі пальцаў. Гадоў дзесяць таму я напісаў для часопісу «Всемирная литература» рэцэнзію на раман польскага аўтара Ежы Сасноўскага «Апокрыф Аглаі». У кнізе распавядалася пра польскага піяніста, які бяз памяці закахаўся ў дзяўчыну па імені Ліля… Відавочна, што іх нічога ня зьвязвала так моцна, як сэкс, сэкс безаглядны, амаль няспынны, піяніст кінуў дзеля сэксу зь Ліляю ўсё, кар'еру, бацькоў, мары, пляны; урэшце высьветлілася, што Ліля – ня што іншае, як робат Аглая, якім кіруюць на адлегласьці, праз жанчын-апэратараў, савецкія спэцслужбы – іх мэтаю было высьветліць ступень псыхафізычнай залежнасьці чалавека ад сэксуальных імпульсаў.

Можа быць, усё наадварот, можа, тавары, што прадаюцца ў сэкс-шопах, – гэта матэрыял для стварэньня кожнаму з нас сваёй уласнай Аглаі, якая з часам цалкам заменіць чалавеку жывыя стасункі з жывымі людзьмі, якая зробіць чалавека лянівым стварэньнем, напаўэлоем, напаўморлакам, якое будзе баяцца кантакту з сабе падобнымі і шукаць ва ўсім лёгкага і бясьпечнага эрзацу? Ня ведаю – у мяне, калі я ўваходжу ў прыцемкі інтым-шопу, такога адчуваньня няма. Бо я ведаю, што прыйшоў у краму, а ня ў храм.

Такія крамы «клубнічнага» накірунку – не раскоша і не легкадумнасьць. Ня трэба думаць, што нікога не хвалюе, у якіх кварталах яны знаходзяцца. Гамбург у гэтым сэнсе – узорны горад, большасьць сэкс-шопаў тут сканцэнтраваная паблізу ад порту, у раёне Санкт-Паўлі, на сусьветнавядомай вуліцы Рэпэрбан, гэтым праспэкце Граху, гэтай Алеі Поўнай Свабоды, гэтай авэню Забаваў і Гульлівага Настрою. Ня хочаш – не глядзі, а захочаш – завітвай! Іншыя ўстановы такога кшталту ёсьць адно каля вакзалу – чамусьці ў большасьці наведаных мной гарадоў піп- і стрып-шоў, а таксама інтым-шопы туляцца да вакзалаў. У большасьці, але ня ў горадзе-героі М.

Калі ўлада раптам пераменіцца і на слупах будуць вісець балёнікі іншых колераў, непазьбежна паўстане пытаньне, куды падзець шматлікія новапаўсталыя менскія сэкс-шопы. Здаецца, ня трэба сьпяшацца пераймяноўваць сталічныя вуліцы – можна пакінуць некалькі з самымі сэксуальнымі назвамі, на якія так багаты родны Менск: Галадзеда, Мясьнікова, Амбулаторная, Лажынская, Наклонная, Вясёлкавая, 1-ы, 2-і Сыліконавыя завулкі і завулак Казарменны, Чайлыткі, Энэргетычная, Ногіна, Румянцава… Чым ня назвы для менскіх рэпэрбанаў?




# Ірыдадыягностыка

У адным з раньніх апавяданьняў пра Шэрлака Холмса – калі не памыляюся, у «Эцюдзе ў барвовых танах» – доктар Уотсан уважліва ўзіраецца ў вочы свайго незвычайнага сябра і спрабуе прынамсі такім чынам зразумець у рэшце рэшт, што ён за чалавек. «…Я западозрыў бы яго ў схільнасьці да наркотыкаў,» – разгублена піша доктар, – «калі б толькі разьмеранасьць і цнатлівасьць ягонага жыцьця не абвяргалі падобных думак».

Падаецца, што такія назіраньні доктара цалкам выдаюць на наіўную спробу ірыдадыягностыкі – вызначэньня хваробаў чалавека па ягоных вачах. Дакладней, па іхных райках. Дыплямаваны мэдык, доктар Уотсан, вядома ж, быў у той час ужо знаёмы з нашумелымі дасьледаваньнямі свайго вугорскага калегі Ігнаца Пэцкелі. Гадоў за дваццаць да таго, як доктар Уотсан засяліўся ў дзіўную, прапахлую хімікаліямі кватэру на Бэйкер-стрыт, Пэцкелі апублікаваў свае пакуль

яшчэ даволі асьцярожныя меркаваньні наконт суаднесенасьці плямаў на райку вока са станам унутраных органаў.

Як гэта заўжды бывае, «адкрыцьцё» Пэцкелі адразу ж узялі на ўзбраеньне тысячы энтузіястаў ва ўсёй Эўропе – тых, хто гадамі дрэмле ў пачакальні жыцьця, але пры слове «панацэя» ускоквае і нясецца з усіх ног на пэрон, гатовы ўбіцца ў любы цягнік, куды б ён ні ішоў. Пэцкелі фактычна заснаваў сучасную ірыдадыягностыку, пра якую дагэтуль невядома, як да яе ставіцца: як да ілжэнавукі ці як да цудоўнага дэтэктара хлусьні, здольнага раскусіць падступнасьць схаваных у нашым нутры хваробаў. Самыя сумленныя з ірыдадыягностаў няспынна падкрэсьліваюць, што іхная праца мае найперш прафіляктычную каштоўнасьць і ні ў якім разе не адмяняе «нармальную» дыягностыку, а закліканая толькі дапамагаць беднай, панылай традыцыйнай мэдыцыне, для якой раёк – усяго толькі раёк.

Уотсан, дарэчы, памыліўся. Холмс сапраўды ня толькі курыў (жах які, праўда?), але і прымаў какаін і морфій. Здаецца, сёньня вялікага сышчыка больш папракалі б першым, чым другім – заўзятым курцам уваход у Залю славы цяпер забаронены, бо на погляд швэйцара яны занадта сьмярдзяць.

Вугорскі доктар Пэцкэлі быў ня першы ў гісторыі чалавецтва, хто зьвярнуў увагу на містычную сувязь райка з унутранымі органамі. Яшчэ ў старажытнасьці той, хто хацеў купіць авечку, зазіраў спачатку ёй у спалоханыя вочы, разглядваў раёк і прыкідваў: забясьпечыць яна гаспадару доўгатэрміновы кісламалочны і трыкатажны рай ці заўтра падохне. Вось і людзям спрабуюць цяпер гэтаксама глядзець у вочы, сьвецяць лямпаю, прыкідваюць нешта… Можа, хочуць набыць? Цікава, колькі за нас дадуць ірыдадыягносты?



Сярод «энтузіястаў» ходзяць чуткі, што падчас раскопак у Гізе калісьці адшукалі нейкія медныя пласьцінкі з адбіткам райкоў самога Тутанхамуна. Ірыдадыягносты, натуральна, не маглі абмінуць іх увагаю: райкі Тутанхамуна сьведчаць пра тое, кажуць яны, што здароўе ў фараона было надзвычай слабое, нічога дзіўнага, што ён памёр такім маладым, так і не падарыўшы сваім падданым ні кісламалочнага, ні трыкатажнага, ні якога іншага раю.

Вучоныя ломяць галовы, скуль жа ўзяліся гэтыя па-майстэрску выкананыя пласьцінкі. Мне здаецца, усё было проста: зорнае неба, подых блізкага Нілу, іншаплянэтны карабель, які пры пасадцы трохі папсаваў Сфінкса, а ў тым караблі – васьмігаловыя, хвастатыя ірыдадыягносты. Лябараторыя, выкапаная пад пірамідай, жрацы, якія ніяк ня могуць ідэнтыфікаваць нябесных бостваў, абачлівасьць галоўнага прышэльца, які вырашыў не прысьпешваць ход падзей і абставіць усё такім чынам, быццам адбіткі зрабілі самі эгіпцяне, але пераацаніў магчымасьці тубыльцаў…

Нават колер вачэй, паводле ірыдадыягностыкі, можа паказваць на стан здароўя. Напрыклад, мне з маім зялёным не пашанцавала – нездаровы колер. Блакітнавокія, шэравокія, чарнавокія могуць

пакуль спаць спакойна – калі на райку ў іх няма такіх сабе нявінных плямак, якія могуць азначаць што заўгодна, але ніколі нічога добрага.

Такая ірыдадыягостыка чымсьці нагадвае соньнік: белая дужка каля райка – да атэрасклерозу, колцы – да захворваньня сардэчна-судзіннай сыстэмы, рыхласьць райка – да слабога імунітэту. Занадта сьветлыя вочы могуць быць прычынай пастаянных стрэсаў, што кепска ўплывае на мозг і сэрца, занадта цёмныя прыводзяць да таго, што іх уладальнік атрымлівае мала сонечнага сьвятла, а гэта вядзе да дэпрэсіі, да хуткай стамляльнасьці і беспрычыннай злосьці. Па райку нават можна вызначыць, ёсьць у чалавека гельмінты або не. Дык мала таго – можна вызначыць узрост, прафэсію, хобі кожнага гельмінта, вывучыць іхныя слабыя бакі, і тады ўсё абавязкова скончыцца паразаю паразытаў.

Апрача гельмінтаў, ірыдадыягностыка даволі лёгка выкрывае хваробы хрыбта, яечнікаў, прастаты, а вось дыябэт, астма, рэўматызм ёй амаль недаступныя. Відаць, той, хто ствараў чалавечы род, ня здолеў прадугледзець магчымасьць іхнага ўзьнікненьня, такіх хваробаў, магчыма, проста не існавала ў мінулым, і таму да вачэй проста не падвялі адмысловы кабэль.

А можа, яго проста не хапіла. Кажуць, ірыдадыягностыка бясьсільная і перад пухлінамі – і гэта, сарамліва прызнаюць яе прыхільнікі, наш галоўны недахоп, бо куды ж у цяперашні гламурны час бяз пухлін. Але мы працуем і над гэтым. Па дадзеным ірыдадыягностаў, толькі



дзесяць адсоткаў дасьледаваных імі людзей – здаровыя, шэсьцьдзесят – у групе рызыкі, трыццаць – хранічна хворыя. І гэта калі даць веры вачам – а што скажа тады традыцыйная кампутарная і іншая дыягностыка?

Аднак калі прамаўляюць райкі, тамографы зазвычай маўчаць.






# Кантрацэпцыя

Часам бывае карысна і цікава пачытаць жоўтую прэсу. «Bild», напрыклад, ці «Комсомольскую правду в Белоруси».

«Завхоз школы убил дворника шкафом».

«Леди ГаГа делает трусы из писем своих фанатов».

«Грибы захватили власть над муравьями ещё 48 миллионов лет назад».

Гісторыі, што хаваюцца пад загалоўкамі такога кшталту, ня толькі абуджаюць брудныя фантазіі, але часта наводзяць і на не абы-які роздум. Жыцьцё ў жоўтым сьвеце вясёлае і дынамічнае, як на Дзікім Захадзе, ніякай аднастайнасьці, ніякай шэрасьці, адна зыркая жаўцізна, кожны мае шанец стаць героем: калі не галоўным, дык прынамсі трапіць на другі плян – як сьведка, як бабулька на лавачцы ля пад’езду. Нуднае тут забаронена, кожны абавязаны мець сваю фішку, хаця б пасьмяротную.

Прыкладам, калі тут нараджаюць дзяцей, то з гэтымі дзецьмі не здараецца нічога добрага: іх ці забіваюць, ці гвалцяць, ці даюць ім імя «Адольф Гітлер», ці іхны тата сьвяткуе свой соты дзень нараджэньня; у найлепшым выпадку яны падаюць зь дзявятага паверху ці іхная мама здымаецца ў парнафільмах. Сьмерць, сьмех і сьмецьце тут заўжды ходзяць разам, як міліцэйскі патруль, і сочаць за тым, каб у жоўты сьвет не пракралася якая банальшчына.

Асабіста мне да спадобы гісторыя аднаго адстаўнога маёра, які ўсё жыцьцё адчуваў таемнае пакліканьне да стаматалёгіі. Выйшаўшы ў адстаўку, ён нарэшце вырашыў зьдзейсьніць свае мары. Узброіўшыся патрыманай бормашынай, клеем «Момент», купленымі на рынку шчыпцамі, дротам і дзіцячым плястылінам, ён узяўся лячыць зубы суседзям. Хатняя практыка існавала занядоўга – пакуль адзін з пацыентаў маёра не падаў у суд…

Страшна падумаць, што ўчыніў бы маёр, калі б адчуваў пакліканьне да хірургіі – або заняўся б, скажам, гінэкалёгіяй ці ўралёгіяй, ці надумаў бы даваць парады па кантрацэпцыі. З другога боку – жаўцізна гэтай гісторыі небясспрэчная.

Той маёр-дантыст меў у сваім распараджэньні, апрача няхітрых «стаматалягічных» прыладаў, тры рэчы, безь якіх мэдыцына ніколі ня стала б мэдыцынай: няведаньне, жарсьць і веру. Зь іх усё пачыналася, менавіта яны і толькі яны былі ў руках чалавека, калі той пачынаў лячыць сабе



падобных і сур’ёзна задумаўся пра тое, як не даваць ім пладзіцца і памнажацца.

Людзі нараджаюцца ня толькі жывымі, яны нараджаюцца перадусім ацалелымі. Каб чалавек зьявіўся на сьвет, першапачаткова яму трэба пазьбегнуць кантрацэпцыі. Чалавецтва складаецца з ацалелых, людзі – гэта тыя, каго не забіла кантрацэпцыя. А ацалелым заўжды прыемна даведацца пра прылады і звычкі сьмерці, якая іх абмінула. Яны любяць вяртацца туды, дзе былі на валасок ад гібелі. Сьмерць і сэкс – усё гэта зь лішкам забясьпечвае нам жоўтая прэса. Ці – зь ня меншым посьпехам – кароткая гісторыя кантрацэптываў, казка пра тое, як мы змагаліся зь няведаньнем, верай і жарсьцю.

Варта, відаць, не засяроджвацца на незаслужана пакрыўджаным біблейскім Анане (які ўсяго толькі і рабіў, што, займаючыся з жанчынамі любошчамі, праліваў спэрму на зямлю – а застаўся ў гісторыі як нейкі Піянэр Мастурбацыі) і перайсьці адразу да старажытнага Кітаю, дзе жанчыны, каб пазьбегнуць апладненьня, глыталі кавалачкі разагрэтай у алеі ртуці – і гэта было даволі пасьпяховым сродкам, бо, як вядома, ртуць таксычная і нічога добрага праз яе з жывымі арганізмамі не адбываецца. Зрэшты, гэта, як бачым, не перашкодзіла кітайцам стаць самай шматлікай нацыяй на плянэце. У старажытным Эгіпце галоўны мэтад кантрацэпцыі выглядаў ня так радыкальна: перад полавым актам жанчына ўводзіла ў похву сумесь кракадзілавага лайна і мёду: і вырашальную ролю тут адыгрывала лайно

– з-за сваёй высокай кіслотнасьці. Увогуле, лайно кракадзіла можна лічыць першым спэрміцыдам у гісторыі чалавецтва – прынамсі, першым, чыё існаваньне зафіксаванае пісьмова.

Саран з Эфэсу, грэцкі гінэколяг, які практыкаваў у Рыме недзе ў II–III стагодзьдзі, раіў жанчынам пасьля любошчаў кашляць, смаркацца і скакаць на месцы, каб запабегчы цяжарнасьці. Іншыя грэцкія дактары рэкамэндавалі засоўваць у похву палавінку граната – той самы спосаб, але з кавалкам цытрыны, даволі шырока выкарыстоўваўся ў Эўропе ажно да эпохі Асьветніцтва: натуральна, у мясьцінах, дзе ў цытрынах не было недахопу. У Пэрсіі з тымі самымі мэтамі кабеты выкарыстоўвалі губку, прамочаную алькаголем, ёдам, карболам і хінінам. Арабскія намады, якія даўно высьветлілі, што камень, пакладзены ва ўлоньне вярблюдзіцы, замінае ёй прыносіць прыплод, карысталіся гэтым досьведам і ў дачыненьні да жанчын: у якасьці ўнутрыматачных кантрацэптываў ім прапаноўваліся шкляныя шарыкі, пэрліны, чорнае дрэва, кавалачкі жалеза, конскі волас і іншыя правобразы будучых дыяфрагмаўкаўпачкоў з лятэксу.

Ня ведаю, як дзе, а ў Нямеччыне бацькам кандома называюць італьянца Габрыэле Фалёпіё (нават у прозьвішчы чуецца нешта-нейкае гэткае). Сам тытул гучыць даволі недарэчна, бо доктар Кандом (або, паводле іншых крыніцаў, Контан) вынайшаў свой знакаміты кантрацэптыў толькі праз сто гадоў пасьля Фалёпіё. Доктар Фалёпіё, адкрывальнік ня толькі прэзэрватываў, але і



названых у ягоны гонар трубаў у жаночым арганізьме, выкладаў у Падуанскім унівэрсытэце – усяго праз некалькі дзясяткаў гадоў пасьля таго, як яго скончыў Скарына. Хто ведае, можа яны і былі знаёмыя. Адзін стаў друкаваць кніжкі, а другі выпрабаваў вынайдзеную ім прыладу на 1000 падуанцаў – вынікі былі ашаламляльныя. Прэзэрватыў Фалёпія меў 20 сантымэтраў даўжыні, быў зроблены з ільну і завязваўся ружовай стужачкай – паводле сьведчаньняў сучасьнікаў, «каб больш падабацца жанчынам». Фалёпіё рашуча пратэставаў супраць таго, каб вынайдзеную ім прыладу назвалі ў ягоны гонар, яму было дастаткова трубаў; ён, відавочна, памятаў гісторыю з Ананам і баяўся, як бы нашчадкі чаго не наблыталі – можа, таму ў часы доктара Кандома пра італьянца ніхто і ня ўспомніў.

Праўда, першапачаткова прэзэрватыў прызначаўся не дзеля кантрацэптыўных мэтаў, а выключна для абароны ад вэнэрычных хваробаў. Выкарыстаньне яго марудна ўваходзіла ў моду яшчэ і з-за нязручнасьці. Прылада Фалёпіё была яшчэ адносна гуманная – шмат хто быў вымушаны карыстацца тоўстымі, грубымі кандомамі з кішак жывёлаў, а таксама вырабамі з рыбіных пухіроў.

Ангельскі доктар Кандом, уласна, таксама дзейнічаў ня з мэтай ашчасьлівіць чалавецтва – ён атрымаў заданьне вынайсьці сродак, які мог бы абараніць караля ад пранцаў. Ён узяў авечую кішку, змазаў яе алеем – і вось у A Classical Dictionary of the Vulgar Tongue (Лёндан, 1785) ужо



зьяўляецца такі артыкул: «Кандом – высушаная кішка авечкі, якую надзяваюць мужчыны пры полавым акце, каб пазьбегнуць інфэкцыі». У тым самым стагодзьдзі, калі доктар Кандом грудзьмі стаў на абарону свайго караля, менш спрытныя ангельскія лекары пачалі першымі ў сьвеце праводзіць вазэктамію – бязьлітасна, груба і тым ня менш эфэктыўна.

Супрацьзачаткавым сродкам прэзэрватыў стаў толькі ў пачатку XX стагодзьдзя, калі мужчынская частка чалавецтва нарэшце разабралася з тым, як вырабляць якасную гуму для сваіх машын, жонак, палюбоўніц і прэзэрватываў. Парадаксальным чынам распаўсюд кантрацэптываў горача віталі фэміністкі, якія сталі іх першымі ахвярамі: прыкладам, у пачатку XX стагодзьдзя ў Нью-Ёрку ўлады зачынілі клініку, арганізаваную фэміністкай Маргарэт Сэнджэр, за амаральнасьць



– там знайшлі кандомы і розную падазроную літаратуру: інструкцыі па эксплюатацыі кантрацэптываў.

А неўзабаве пасьля другой сусьветнай вайны надышла эпоха татальнай аральнай ды бар’ернай кантрацэпцыі, што ўжо зусім ня так цікава… Ніхто ўжо не глытаў ртуць і не завязваў какетлівай ружовай стужачкай льняныя мяшэчкі. Чалавецтва канчаткова прыватызавала сэкс і бог выйшаў у адстаўку, каб нарэшце заняцца сваім пакліканьнем – хто ведае, якім.






# Клептаманія

Відавочна, што клептаманія ёсьць адным зь відаў мастацтва, хай сабе і даволі элітарным – сапраўднаму клептаману наўрад ці сьвецяць у старасьці званьне народнага артыста рэспублікі або якаясьці прэстыжная прэмія за высокія творчыя дасягненьні і ўнёсак у сусьветную культуру. Той пароль, які адкрывае клептаманіі шлях у забаронены палац творчасьці і вольнага духу, гучыць проста і выразна: жарсьць. Так, менавіта жарсьць лучыць клептамана з творцам і адрозьнівае яго ад банальнага злодзея…

Нават тыя прыкметы, па якіх адмыслоўцы прапануюць занепакоенаму грамадзтву вызначаць у сваіх шэрагах апантаных крадзяжом індывідаў, выдаюць у клептамане няпростую, трагічную асобу, ня менш творчую за мастака або паэта. Напрыклад, усе шанцы быць прызнаным хворым на клептаманію мае той, хто зьдзейсьніў два ці больш крадзяжы, не атрымаўшы ад гэтага ніякае матэрыяльнае выгоды, і мае позыў да паўтарэньня

такіх учынкаў. Як гэта нагадвае беднага беларускага літаратара, які напісаў два (ці больш) раманы, не атрымаўшы за гэта ні капейчыны, а часам нават наадварот, заплаціўшы за іхнае выданьне са сваёй кішэні – і які пры гэтым працягвае пісаць і плянуе далейшае выданьне сваіх опусаў!

Іншыя прыкметы клептаманіі і афіцыйна прызнаных творчых заняткаў таксама збольшага супадаюць. Вось стадыі, празь якія праходзіць клептаман падчас прыступу сваёй хваробы: пакутлівая цяга да крадзяжу, падобнае да сэксуальнага напружаньне перад ягоным ажыцьцяўленьнем – і касьмічная палёгка, разрадка пасьля злачыннага акту… Хіба не паўтараюць яны шлях мастака, які яму даводзіцца праходзіць у час працы над творам? Але нават пасьля пасьпяховага заканчэньня справы і ў мастака, і ў клептамана застаецца пачуцьцё незадаволенасьці, стымул да далейшай творчасьці. Ідэальных твораў, як і ідэальных крадзяжоў, не бывае.

Згрызоты сумленьня, потныя далонькі, самапрыніжэньне, рэзкае падзеньне самаацэнкі пасьля чарговага таемнага акту – усё гэта аб'ядноўвае клептамана ня толькі з падлеткам, які займаецца мастурбацыяй, але і са зьнясіленым музыкам, які падае на клявішы, бы ў талерку з салатай, і з жывапісцам, які б'ецца галавой аб ім самім пастаўленую недасяжную плянку, і зь пісьменьнікам, які скончыў кнігу, а атрымаў хвігу. Усе яны ведаюць, што будуць працягваць свае экзэрсісы, нягледзячы ні на што, і ніякія згрызоты не прымусяць іх кінуць мастацтва і перайсьці да мірнай стваральнай працы.



А яшчэ ў клептаманіі досыць шмат кропак перасячэньня з тэатрам. У сапраўдным клептамане суіснуюць разам у дзіўным хаўрусе рэжысэр і актор, рабочы сцэны і гардэробшчык. Клептаман мае прыродны талент да пераўвасабленьня – у законапаслухмянага, сумленнага пакупніка, у таго, хто не выклікае падазраньняў, у асобу з вачыма празрыстымі, як вада з экалягічна чыстай крыніцы. Клептаман умее зірнуць на сьвет вачыма ахоўніка, касіра, адміністратара, вачыма відэакамэры – і таму ён раствараецца ў натоўпе, ён становіцца нічым, і выйграе ўсё.

Як і найсапраўднейшы мастак, клептаман паўстае супраць бога, ён нават мае свой пэрсанальны запавет, адрасаваны, праўда, ягонаму няўдаламу двайніку – і, падобна мастаку, ён парушае запаветы з мэтай ня ўласнага абагачэньня, але з мэтаю пазнаньня, яго мэта высакародная, клептаманія ня пэцкае сябе подласьцю падлікаў, падлаю пляцяжу. Лёзунг «Крадзеж у імя крадзяжу» выглядае аніяк ня горш за «Мастацтва дзеля мастацтва».

Усё гэта даволі абстрактныя развагі, але вось іхнае нечаканае пацьверджаньне, якое дае нямецкая статыстыка: толькі невялікі адсотак крадзяжоў у крамах Нямеччыны зьдзяйсьняецца тымі, хто адчувае нястачу і жыве на мяжы беднасьці. Пераважная большасьць злодзеяў – тыя, хто мог сабе дазволіць набыць скрадзенае безь якіх-кольвечы сур'ёзных стратаў для ўласнага бюджэту. Яшчэ адзін доказ на карысьць таго, што

так званаму грамадзтву спажываньня не чужое нішто чалавечае, у тым ліку і мастацтва, вялікае мастацтва клептаманіі.

Гэтае самае грамадзтва, дарэчы, у асобе сваіх вучоных даўно адрынула сам тэрмін «клептаманія» – напэўна, празь ягоную непаліткарэктнасьць. І манаманію адрынула, тую, на якую хварэў герой апавяданьня По «Бэрэніка». Яно шмат што адрынула з увагі на палітэс, увёўшы замест гэтага новыя азначэньні для старых хваробаў. Вось жа, адно зь іх, даволі агульнае – «альтэрнатыўная адоранасьць». Чаму б не абвясьціць альтэрнатыўна адоранымі і клептаманаў?

Наогул, чаму яны крадуць? Чаму чалавек, якога мама (нават калі сама была клептаманка) у дзяцінстве так старанна вучыла ня браць чужое, усё адно бярэ і яму ад гэтага так хораша? У вас, фрайдыстаў-аматараў, заўжды на ўсё знаходзіцца тлумачэньне, вам слова.

Клептаманія, паводле вас, – замена заглушаных жаданьняў, часьцей за ўсё сэксуальных ці калясэксуальных. Нельга, а хочацца… Часам чалавеку хочацца таго, што грамадзтва з даўніх часоў занесла ў разрад катэгарычна забароненага, табуяванага. І для таго, каб задаволіць свае антыграмадзкія жаданьні, чалавек шукае нейкую больш-менш бяскрыўдную замену сваім чорным плянам – інцэсту, скажам, або забойству на сэксуальнай глебе, або брутальнаму садамазахізму, наогул – празе валодаць або падпарадкоўвацца. Шукае магчымасьці зрабіць нешта забароненае, за што яго не пагладзяць, вядома ж, па галоўцы, але і са статку не пагоняць. Дзякуй, спадары фрайдысты, вы любую творчасьць тлумачыце няспраўджаным жаданьнем каго-небудзь трахнуць. Да наступных сустрэч.



Іншыя называюць клептаманію праявай стыхійнай рэвалюцыйнасьці, пратэстам супраць грамадзтва. Ня маючы магчымасьці выключыцца з сыстэмы, арыентаванай на суцэльнае, штодзённае, няспыннае, абагоўленае спажываньне, індывід супрацiўляецца такім вось чынам, становячыся клептаманам, спрабуючы падтачыць сыстэму зь сярэдзіны, зрабіць яе бессэнсоўнай. Але сыстэме, здаецца, на гэта напляваць. Клептаманія ўключаная ў яе як абавязковы элемэнт, як непазьбежныя выдаткі на ўласную амартызацыю.

Гэтаксама, як таямніцы творчасьці часам намагаюцца патлумачыць, корпаючыся ў мазгах мастакоў, так і мастацтва клептаманіі некаторыя зводзяць да чыста фізіялягічных працэсаў. Маўляў, падчас акту крадзяжу ў арганізьме клептамана вызваляецца так званы гармон шчасьця – ён і кіруе ўсім, рабская залежнасьць ад яго і ёсьць галоўнай прычынай. Што ж, магчыма, фізіёлягі і маюць рацыю. Нездарма, відаць, гандлёвы цэнтар каля вуліцы, на якой я жыў калісьці ў Менску, мае назву «Шчасьце». Шчасьце там сапраўды ёсьць, я сам бачыў яго між розных бліскучых лахманоў, кшталту джынсаў са стразамі і майтак са страўсамі. Шчасьце мець, шчасьце мець што прадаць, шчасьце мець за што набыць. Шчасьце скрасьці і выкінуць.





# Комплекс непаўнавартасьці

Рознымі эпітэтамі ўзнагароджваюць літаратуру і літаратараў, і самы дзіўны зь іх – помесь зацёртага штампа і бліשчастага знака якасьці: слова «незакамплексаваны».

«Незакамплексаванымі» могуць быць як уласна творчасьць, так і сам пісьменьнік, ягоны чытач і нават герой. «Пыркала – самая незакамплексаваная аўтарка ўкраінскай літаратуры» – абвяшчае адно аўтарытэтнае інтэрнэт-выданьне. «Адчуваю, як на мяне ідзе хваля незакамплексаванай моладзі,» – няўклюдна скардзіцца пажылы грузінскі драматург. «Незакамплексаваным» назвалі нядаўна вядомага і паважанага мной беларускага паэта. «Незакамплексаваныя» кнігі Ўэлша, героі Бэгбэдэра, чытачы Сарокіна… Адпаведна, пра «незакамплексаваную» літаратуру пішуць толькі «незакамплексаваныя» крытыкі. «Незакамплексаваны» – так кажуць тады, калі пахваліць трэба, але ня ведаеш, як. Усё маладое, кідкае, агрэсіўнае, сэксуальнае, аголенае, рэвалю-

цыйнае, з кепскім пахам, усё, для чаго не існуе забароненых тэмаў – «незакамплексаванае».

Клясычнае, традыцыйнае, стрыманае, уніклівае, пераборлівае «незакамплексаваным» быць ня можа. Хаця б таму, што «незакамплексаванасьць» – гэта панятак з найноўшага часу, з эпохі росквіту навукова-папулярнага жанру, калі кухарка, якая калісьці высьветліла, што можа кіраваць дзяржавай, запісалася нарэшце ў бібліятэку. Нікому ня прыйдзе ў галаву назваць «незакамплексаванымі», напрыклад, Шэкспіра, По, Бальзака, Кафку. Затое невядомую мне Пыркала – калі ласка.

«Незакамплексаваны», «комплекс», «камплексаваць», «комплекс непаўнавартасьці» – гэтыя словы, узятыя зь лексыкону псыхолягаў, увайшлі ў мову нават далёкіх ад навукі людзей і, як гэта часта бывае, страцілі пры гэтым ладную частку сваёй навуковай шляхетнасьці, а разам зь ёй – і амаль увесь свой сэнс. Яны – словы-выскачкі, жалезабэтонныя самазванцы. Іхная псэўдафункцыянальнасьць уражвае сваім нахабствам. Безгустоўная і цяжкавымоўная мешаніна: не-за-кам-пле-кса-ваны. Безь яе цалкам можна абысьціся, бо «незакамплексаваны» ў простай і грэшнай мове значыць прыкладна тое самае, што «разьняволены». Але людзям – крытыкам і інжынэрам, таксістам і настаўнікам, вэтэрынарам і хатнім гаспадыням – слова «разьняволены» падаецца недастаткова навуковым, несалідным. Яны цьмяна здагадваюцца, што існуе нейкі таямнічы «комплекс». Што за ён, ніхто дакладна ня ведае. Нешта кшталту бародаўкі на носе. Бывае ў іншых, а ў цябе яго няма і быць ня можа. Прамаўляючы з пралетарскай запінкай гэтае «незакамплексаваны», яны нібыта пераводзяць размову на вышэйшы ўзровень, цягнучы туды яшчэ і сябе, любімых, – за валасы, як Мюнхгаўзэн.



Нам так хочацца выглядаць разумнейшымі, чым мы ёсьць. Разумнейшымі і мацнейшымі. Дзеля дасягненьня гэтай высакароднай мэты мы, *не камплексуючы*, гатовыя нацягаць у кучу навуковых тэрмінаў і забіваць імі тых, хто нас ня цэніць. Але паводле псыхалёгіі кожны з нас закамплексаваны, кожны пакутуе на комплекс непаўнавартасьці. Ад нараджэньня і да сьмерці нас мучыць непрызнаньне. І кожны ў душы марыць калі-небудзь «раскамплексавацца».

Зьяўленьню тэрміну «комплекс непаўнавартасьці» мы абавязаныя псыхолягу Альфрэду Адлеру. Аўстрыйскаму, якому ж яшчэ. Спачатку ён быў прыхільнікам і добрым знаёмым Фройда, нават уваходзіў у Венскае псыхааналітычнае таварыства. Потым вучэньне Фройда падалося яму прымітыўным і памылковым, ён заснаваў сваю школу – індывідуальнае псыхалёгіі (Фройд пасьля гэтага абазваў Адлера «параноікам», пан Зыгмунд вельмі любіў гэтае слова). Пачалося ўзыходжаньне Адлера да сусьветнае славы.

Калі Адлеру было тры гады, ён спаў у адным ложку са сваім малодшым братам і неяк раніцай таго брата знайшлі мёртвым. А калі доктару Адлеру было пяць, ён сам ледзь не памёр ад пнэўманіі. Дзяцінства, такім чынам, было для Адлера

зусім не ружовым. Менавіта Адлер, дасьледуючы псыхіку чалавека, прыйшоў да высновы, што, хутчэй за ўсё, кожнае дзіця мае комплекс непаўнавартасьці – гэта значыць, дзіця адчувае сябе слабым, безабаронным, самотным і нікчэмным у сьвеце высокіх, магутных і усёведных дарослых. І нават калі такое становішча не ўскладняецца абыякавасьцю і жорсткасьцю гэтых гігантаў, комплекс той усё адно існуе. З часам, калі дзіця падрастае, комплекс выцясьняецца ў несьвядомае, але ніколі ўжо не зьнікае.

Усё наступнае, дарослае жыцьцё чалавека, паводле Адлера, – гэта змаганьне з комплексам непаўнавартасьці, несьвядомае імкненьне да звышкампэнсацыі. Чалавек ці мае недахопы, ці прыпісвае іх сабе – неістотна, гэта так ці інакш нас гняце ў выглядзе таго самага комплексу. Усё, што чалавек зьдзяйсьняе, ён робіць для перамогі над комплексам: праца, кар’ера, усе чалавечыя камунікацыі, прага да ўлады, імкненьне да прызнаньня, панаваньня, творчасьць, вечны пошук свайго месца пад сонцам. У тых, хто чагосьці дасягае, разьвіваецца комплекс перавагі – адваротны бок комплексу непаўнавартасьці. Але можна і не дасягнуць нічога – можна проста ўяўляць сабе, што ты чагосьці дасягнуў, верыць у сваю пасьпяховасьць, для фармаваньня комплексу перавагі гэтага дастаткова. Сьверб можна суцішыць таксама, уявіўшы сябе ахвяраю – таксама пэўная кампэнсацыя.

Паколькі комплексу непаўнавартасьці пазбавіцца немагчыма, ён – наш спадарожнік да



самага канца, рухавік няспыннай актыўнасьці індывіда. Такая вось матывацыя чалавечага жыцьця… Такая вось «незакамплексаванасьць».

Цікава: куды б ні завяла нас пакручастая сьцежка псыхалёгіі, у канцы яе будзе стаяць Фройд, стваральнік псыхааналізу. Як Адлер, так і іншыя псыхолягі больш за ўсё не прымалі ў Фройду ягонага пансэксуалізму – імкненьню ўсё зьвесьці да падаўленых сэксуальных імпульсаў. Фройд падыгрываў сваім ворагам, называючы іх усіх «лятэнтнымі гомасэксуалістамі» і «параноікамі». Гісторыя ведае некалькі ўсплёскаў цікавасьці да псыхааналізу і нават моды на яго, апошні – да псыхааналізу постфрайдысцкага кшталту, як на мяне, дык даволі сумнеўнага вынаходніцтва. Пакутуючы на дэпрэсіі, на адзіноту, на праблемы з камунікацыяй, людзі трацілі неверагодныя грошы, спадзеючыся на новых збаўцаў, сваіх псыхааналітыкаў.

Здаецца, час псыхааналізу мінае. Асаблівага посьпеху ён не дасягнуў. Людзі, якія акрыялі пасьля праходжаньня курсу псыхааналізу, рэдка задумваюцца пра тое, што пазытыўны эфэкт лячэньня дасягнуты выключна з адной прычыны: у чалавека зьявіўся суразмоўца, які за грошы цікавіцца табою і гатовы цябе выслухаць. О, у час крызісу рэлігіі гэта, відаць, было самым істотным, найлепшай тэрапіяй – адшукаць чалавека, перад якім можна спавядацца, які ўмее слухаць і нават шчыра цікавіцца падрабязнасьцямі твайго няшчаснага жыцьця… Праўда, бярэ ён шмат, высновы ён робіць дзіўныя, гэты псы-

хааналітык, але за магчымасьць распавесьці пра сябе, паказаць сваю брудную бялізну ад пялюшак да станікаў можна пацярпець і раскашэліцца. Хай робіць свае высновы, якімі б яны ні былі, галоўнае – выгаварыцца, і тады палягчае.

Лепш за ўсіх высьмеяў псыхааналіз Набокаў, нязломны вораг усіх фрайдысцкіх, постфрайдысцкіх і нэафрайдысцкіх тэорый. У «Лаліце», рамане пра сапраўднае каханьне, пра «ускользающую красоту» перакананая прыхільніца псыхааналізу настаўніца Лаліты міс Прат так характарызуе галоўную гераіню ў размове зь яе айчымам:

«Яна ўсё яшчэ вагаецца, – сказала міс Прат, дэманструючы гэтае ваганьне адпаведным рухам карыцай усеяных рук, – паміж дзьвюма зонамі: анальнай і генітальнай. Але ў аснове сваёй яна, вядома ж, чароўная дзяўчынка».

«Прабачце, якімі зонамі?» – перапытвае агаломшаны Гумбэрт, пачвара, якой, заўважым, між тым і ў галаву не прыходзіць прымяняць такія «навуковыя тэрміны» у дачыненьні да дзіцяці.

Толькі некалькі фрагмэнтаў з набокаўскіх інтэрвію:

«У псыхааналізе ёсьць нешта бальшавіцкае: унутраная паліцыя… Фрайдысты небясьпечныя для мастацтва: сымбалі забіваюць пачуцьцёвую асалоду, індывідуальныя летуценьні…»

«Псыхааналіз – адна з найвялікшых зьяваў махлярскага і д’ябальскага абсурду, якая навязваецца легкавернай публіцы…»

«Хай легкаверныя і пашлякі думаюць, што ўсе беды лечацца штодзённым прыкладваньнем грэцкіх мітаў да дзетародных органаў…»

«Сумныя, нецікавыя сны аўстрыйскага маньяка са старым парасонам…»

«Фройд цікавы для мяне як камічны пісьменьнік…»

«Заклапочаны стары Фройд, які спрабуе адчыніць дзьверы кончыкам парасона…»

Зрэшты, фрайдызм псыхалёгіяй даўно пераадолены, хаця заслугі пана з парасонам перад навукай прызнаныя ўсімі. Фройд, здаецца, трапіў туды, куды яму і прарочыў дарогу Набокаў – праўда, не ў камічныя пісьменьнікі, але ўсё ж у «хутчэй літаратары, чым вучоныя». Псыхалёгія ўзяла з фрайдызму роўна столькі, колькі трэба – неахайна прабураную ім сьвідравіну ў падсьвядомае, і пачала абсталёўваць яе на свой густ і ў адпаведнасьці са сваімі патрэбамі. Мы, самі сабе псыхолягі, таксама бярэм з навуковага лексыкону тое, што здаецца нам карысным. Напрыклад, той самы «комплекс непаўнавартасьці». «Комплекс» гучыць сур’ёзна і горда. Ня тое што «анальная і генітальная зоны».

Літаратура – добры, хаця і рэдкаўжывальны сродак для таго, каб пераадольваць пракляты непераадольны комплекс. Згодна з Адлерам, і ён сам, і Шэксьпір, і Бальзак, і Фройд, і аўтар геніяльнай «Лаліты», і спадарыня Пыркала з грузінскім драматургам – усе яны, апрача іншых матываў да творчасьці, мелі яшчэ і гэты, бадай, галоўны – пошук праславутай звышкампэнсацыі. Праблема і парадокс у тым, што і сучасныя

псыхолягі, займаючыся комплексам непаўнавартасьці ў сваіх пацыентаў, робяць гэта з мэтай пацешыць сваё ўнутранае, ненасытнае, адкрытае Адлерам боства. Адсюль – недавер да псыхалёгіі ў шэрагах тых самых народных масаў, якія так любяць слова «незакамплексаваны». Псыхолягі – прадстаўнікі дужа ўмоўнай навукі. Можа, таму яны так непераканаўча і часьцей за ўсё сьмешна выглядаюць, скажам, на тэлеэкране?

Уявім сабе адно немудрагелістае тэлевізійнае ток-шоў.

Увогуле, псыхолягаў часта запрашаюць на такія размовы ў жывым этэры, дзе яны выконваюць ролю так званых экспэртаў – звычайна разам зь юрыстам, пісьменьнікам, чыноўнікам і яшчэ кімсьці, асобай бяз пэўнага занятку, але з васьмю клясамі адукацыі і багатым жыцьцёвым досьведам – умоўна назавем гэтую асобу «Бывалы». Тэма перадачы абазначаная, гледачы сарамліва патрымаліся за мікрафон вядучага і нагаварылі туды зь перапуду рознай жыцейска-дылетанцкай глупоты. Надыходзіць час экспэртаў.

Праўніку няма чаго баяцца: законы звычайна не пакідаюць месца для двухсэнсоўнасьці, і таму юрыст выкажацца суха, але жвавенька і па справе. Пісьменьнік у кожным разе навярзе чаго-небудзь, ад яго не чакаюць пэўнасьці, усё можна сьпісаць на творчую натуру, ён можа і наблытаць што-небудзь, і анэкдот распавесьці – ніхто не пакрыўдзіцца. Чыноўнік змрочна скажа пра нястомны клопат дзяржавы, няправільна паставіць націск у слове «наркаманія» і прывядзе пару-тройку зазубраных лічбаў. Бывалы ўжо даўно трасецца ад нецярпеньня і круціць вачыма, вядучы чамусьці заўжды сымпатызуе менавіта гэтаму герою, мо таму, што гэта чалавек з народу – для якога, уласна, усё і здымаецца, а мо таму, што Бывалы дзякуючы сваёй бываласьці роўны суме ўсіх астатніх гасьцей. Слова даецца Бываламу: «А вот са мной, помню, быў случай…» Студыя слухае, пакашліваючы. Пісьменьнік калупаецца ў носе, юрыст разглядвае пазногці, вядучы цынічна пасьміхаецца. Нарэшце мікрафон бярэ псыхоляг.



Тое, што ён гаворыць, адразу выклікае жаданьне яму запярэчыць. Не таму, што няправільна, а таму, што гаворыць ён на тэмы, у якіх кожны ўпотай лічыць сябе адмыслоўцам – ад Бывалага да бабулькі, якая сядзіць у верхнім радзе. Тое, што прамаўляе псыхоляг, гучыць проста банальна. Але ён не чыноўнік, яму не даруюць. У душы (якую, уласна, і дасьледуе паважаны экспэрт) кожнаму ўдзельніку дыскусіі хацелася б заткнуць рот гэтаму махляру і выгукнуць: «Лекару, вылечыся сам!» Псыхоляг нібыта перакладае і так усім зразумелыя рэчы на нейкую штучную мову. Ад яго чакалі большага; тое, што ён гаворыць, мог бы сказаць кожны – сваімі словамі.

Ён адчувае нядобрыя флюіды, якія ідуць ад мільёнаў тэлегледачоў. У паніцы ён хоча выказацца як мага больш даступна – і ад гэтага адчуваньне банальнасьці ўзмацняецца.

Псыхоляг спрабуе пачаць салідна – здалёк, але перадача няўхільна набліжаецца да заканчэньня. Вядучы нецярпліва перапыняе яго на паўслове.

Больш псыхолягу мікрафона не даюць. Так і сядзіць ён моўчкі ў сваім фатэлі да самага канца шоў, вясельны генэрал, беспасажніца, махляр, ахвяра тэлевізійнага фармату, байструк Зыгмунда Фройда.

Псыхоляг – экспэрт, якому ў бедных аграрных краінах (якія маскуюцца пад індустрыяльныя) схільныя давяраць найменш. Тут насельніцтва трымаецца за саху і за свае звыклыя татэмы. Астроляг выклікаў бы ў публікі значна большы давер і большую спагаду. Віна псыхоляга ў тым, што ён лезе да нас у душу, маючы такую самую. З тымі самымі комплексамі.

Хірург мае такія самыя ўнутраныя органы, як і мы, але гэта ўсё цялеснае, пругкае, цёплае, крывавае, сваё. Хірург мацае гэта рукамі, кранае скальпэлем. А чым можна памацаць душу? Душа – занадта тонкая матэрыя, мала хто верыць, што яе можна разрэзаць, дастаць зь яе пухліну і наноў зашыць. Чалавек створаны для таго, каб мучыцца душою, думаем мы, і псыхоляг тут бясьсільны. Дакладней, кожны з нас – сам сабе псыхоляг. Веды ў гэтай галіне залежаць ад досьведу, ад абазнанасьці ў людзях, дыплём – ды які там дыплём, пражытыя гады – вось нашая «корачка». Мы ўсе – Бывалыя.

У прафэсійным псыхолягу нас раздражняе многае, асабліва тое, што пад псыхолягам няма цьвёрдага грунту ў выглядзе нейкай агульнапрынятай тэорыі, пасад псыхоляга сатканы зь цёмных гіпотэзаў і празрыстага этэру эмпірыкі. Псыхалёгія – адносна маладая навука, незалежнасьць ад філязофіі яна атрымала нейкія паўтары-дзьве сотні гадоў таму. Што б ні спыталі ў псыхоляга, ён пачне адказ з таго, што існуюць розныя пункты гледжаньня на гэты конт, што, можа, і праўда, але выглядае сьмешна.



Людзі наогул перасталі давяраць навуцы. Аляксандар Геніс пісаў: «Сёньня складаецца больш гараскопаў, чым трыста гадоў таму; кожны трэці амэрыканец верыць у рэінкарнацыю, кожны чацьверты – у анёлаў, і ўсе сумняваюцца ў здольнасьці навукі стварыць пераканаўчую карціну сьвету».

Аналізуючы нашыя эмоцыі, учынкі, паводзіны, псыхоляг ускладняе задачы, разьвязваньне якіх здаецца нам відавочным. Псыхоляг ніколі не называе рэчы сваімі імёнамі – як тая расейская барыня, якая не смаркаецца, а «аблягчае нос», ён будзе прыдумляць гідкія эўфэмізмы, ён усё перакуліць дагары нагамі; ён ніколі не назаве баязьліўца баязьліўцам, а толькі «чалавекам, схільным да фобіі». Маньяк-злачынца для псыхоляга – «траўмаваны», забойца «дзейнічае ў стане афэкту», а жаночая сьцярвознасьць – нейкая «фрустрацыя». Уся гэтая лаціна гучыць як апраўданьне. Апраўданьне псыхоляга ў сваёй бездапаможнасьці і апраўданьне ім чалавечага зла, якое павінна быць пакарана. Дзякуючы псыхолягам самым жахлівым злачынцам пасьля мэдычнай экспэртызы часта захоўваюць жыцьцё. Ну, і ўрэшце мы, вядома ж, ня любім атаясамліваць сябе з аб’ектам псыхалягічнай навукі. Псыхоляг – для псыхаў, псыхоляг – гэта Навінкі, лічыць



большасьць людзей, а мы не такія, мы здаровыя, проста стомленыя.

Народ наогул рэдка прызнаецца ў тым, што мае комплексы. Гэта цяжка зрабіць і паасобку, і стоячы ў натоўпе. А комплексы жывуць: узяць хаця б комплекс этнічнае непаўнавартасьці. Страх напісаць у пашпарце сваё імя па-беларуску, страх застацца незалежнымі, страх аддаць дзіця ў беларускую клясу, страх пакрыўдзіць



старэйшага брата, страх перад нацыянальнымі сымбалямі, страх перад уласнай гісторыяй. Ці комплекс непаўнавартасьці клясавай: страх быць багатым, страх перад пасьпяховасьцю. Наогул: страх вытыркацца з натоўпу. Толькі гэтыя комплексы, у адрозьненьне ад адкрытага доктарам Адлерам, можна перамагчы. Галоўнае тут – не камплексаваць.

І не марудзіць. Бо раптам, нібыта зь ніадкуль, на арэну выйдзе чалавек, комплекс непаўнавартасьці якога стане ўсенародным комплексам, усенародным клопатам, усенародным болем: правінцыяльны расейскі адвакат, ці аўстрыйскі яфрэйтар-мастак, ад якога доктар Адлер калісьці абачліва ўцёк у Амэрыку, ці мардаты італьянскі журналіст-бабнік, ці хітры пэкінскі бібліятэкар… Ці – ахвяруем маштабам – хаця б сьціплы беларускі калгасьнік. І запатрабуе ад нас кампэнсацыі.





# Курэньне

Пакрысе становіцца зразумела, што абвешчаная ва ўсім сьвеце вайна супраць курэньня ня ёсьць насамрэч вайной за здароўе чалавецтва. Усё значна складаней: гэтае змаганьне – частка вялікай вайны дзьвюх культураў. Вайны нябачнай, але бязьлітаснай. Наколькі ж умоўная гэта фігура – уяўны «здаровы чалавек»... Наколькі нежывая, наколькі кардонная... І наколькі нахабна яна спрабуе дамінаваць над бедным жывым курцом. Надышоў час сказаць колькі словаў у абарону гнанай адусюль заганы.

З маленства да сьмерці мы толькі й чуем, хай бы й не палілі: курэньне робіць жыцьцё карацейшым. Гэтак кажа статыстыка, гэтак кажуць мэдыкі, а ўсьлед за імі паўтараюць усе, каму не лянота: ад школьных настаўніц і сьвятароў да зорак тэлеэкрану і міністраў. Над гэтым варта задумацца. Карацейшым адносна чаго? Хіба ўжо вызначана, колькі дакладна мусіць жыць чалавек?

Хіба ёсьць лічба, дасягнуць якой – норма, а не дасягнуць – гора і ганьба? Можна памерці ў сорак, ня палячы, а можна дажыць да ста і выкурваць у дзень па два пачкі, прыкладаў гэтаму колькі заўгодна. І ці трэба ўвогуле старацца пражыць як мага больш? Хіба працягласьць жыцьця ёсьць нейкай абсалютнай каштоўнасьцю?

Не. Значна важнейшай ёсьць якасьць жыцьця, а не ягоная працягласьць. Пра гэта – пра якасьць – статыстыка звычайна маўчыць. І нават яна пагодзіцца: істотна тое, што чалавек зрабіў цягам свайго жыцьця, а ня тое, колькі ён, небарака, пражыў. І ня трэба казаць, што якасьць залежыць ад колькасьці. Людзі не аднолькавыя, людзі розныя. Нехта за год пасьпее столькі, колькі іншы за дзесяць. Вось пытаньне, у адказ на якое статыстыка маўчыць, бо нямее: ці быў чалавек шчасьлівы, пражыўшы статыстычна ўхваленую колькасьць гадоў? Ці падабалася яму гэта наогул – жыць?

Адзін вялікі чалавек сказаў у свой дзень народзінаў мэдыкам: «Я штодня п'ю шмат чорнай кавы і куру і дажыў да сямідзесяці гадоў. Вы хочаце сказаць, што калі б я не курыў, то сёньня мне было б восемдзесят?..»

Курэньне разбурае арганізм, дорыць нам небясьпечныя хваробы, адмоўна ўзьдзейнічае на нашыя здольнасьці, зьніжае наш патэнцыял, замінаючы такім чынам самарэалізацыі.

Чаму ж у такім выпадку большасьць людзей, якіх варта паважаць за тое, што яны зрабілі – вучоных, мастакоў, пісьменьнікаў, філёзафаў, музыкаў (дый прагрэсіўных палітыкаў, прасьці



госпадзе) – чаму ж пераважная большасьць зь іх курыла? А некаторыя былі яшчэ й заўзятымі наркаманамі... «Яны пражылі і зрабілі менш, чым маглі б» – не аргумэнт. Калі б яны клапаціліся пра тое, колькі ім трэба пражыць – яны б ніколі ня зьдзейснілі таго, што зьдзейснілі.

Абразьліва і бязглузда ўяўляць курца чалавекам, які марнуе свае час і здароўе. Безьліч цікавага, геніяльнага, карыснага і разумнага было прыдумана ў момант, калі розныя марнатраўцы «проста сядзелі» з цыгарэтай, цыгараю або люлькаю, «смакталі» свае «соскі», пускалі дым...

Ніхто ня кажа пра станоўчыя бакі такой «дэманічнай« зьявы, як курэньне. А між тым яно, курэньне, супакойвае, яно расслабляе, і яно ж дапамагае засяродзіцца, здымае пэўныя псыхалягічныя бар'еры і дапамагае пераадольваць праславутыя комплексы (якія, хто ведае, маглі б адгукнуцца ў будучым сур'ёзнымі праблемамі і для самога курца, і для ягонага асяродзьдзя). Наколькі больш неабдуманых учынкаў было б зроблена ў сьвеце, калі б не курэньне!.. Да таго ж курэньне – гэта малая выспачка незалежнасьці ў сьвеце, дзе так цэніцца паслушэнства і ўменьне падпарадкоўвацца. Так, курэньне – залежнасьць, але не ад іншых, а ад сябе. Ад сваіх слабасьцяў, а не ад слабасьцяў незнаёмага табе чалавека, які чамусьці вырашыў, што мае права распараджацца тваёй асобай. Людзі, якія паляць, радзей пакутуюць на комплекс уласнае непаўнавартасьці. Ім ёсьць чым заняцца, нават калі яны нікому не патрэбныя. «Якім злавесным коштам дасягаецца

ўсё гэта ?» – запярэчыць праціўнік курэньня. А вось гэта вас, мой мілы спадару, ужо ня тычыцца. Калі курэц курыць – на самоце ці ў кампаніі такіх жа «пагарджаных век» маргіналаў – ніхто ня мае права пазбаўляць яго гэтага выбару.

Курэньне – гэта задавальненьне. І ўжо ў гэтым ягоны вялікі плюс. Курыць прыемна. Так, курэньне забівае, але яно дае радасьць. Можа, менавіта таму аўтарытарныя рэжымы заўжды ставіліся да курцоў зь недаверам і змагаліся зь імі. Рэч у несанкцыянаваным зьверху задавальненьні. Аўтарытарным рэжымам трэба, каб чалавек быў здаровы, бо хворы ён прынясе менш карысьці дзяржаве – а на думку розных дыктатараў і тыранаў, толькі для гэтага чалавек на сьвет і зьяўляецца. Курэц аўтаномны, ягонае задавальненьне заўжды пад рукой, а дзе задавальненьне – там свабода, ці прага свабоды, там вольная хвілінка, а значыць – думкі: пра правы, пра зьмены, пра альтэрнатывы... Антысавецкія размовы нараджаліся ў курылках прадпрыемстваў і інстытутаў, у кухнях зьбіраліся іншадумцы – і курылі, курылі... «Нямецкая жанчына ня паліць» – вучыў Гітлер, вядомы змагар супраць паленьня. Дзяржава зь нянавісьцю глядзіць на курца: хто яго ведае, пра што ён там думае, што замысьліў – сядзіць, адслонены, дыміць, вочы прымружаныя... Няйнакш, рыхтуе бунт. Ці проста яму «ня нравіцца ўласьць», гэтай прапахлай тытунём мразі.

Часам курэньне – апошняе задавальненьне ў жыцьці, і чалавек перад канцом свайго жыцьцёвага шляху абірае чамусьці менавіта яго...



Сьмяротна хворы пацыент, салдат перад боем, зьняволены, прысуджаны да страты...

Кажуць, курэньне – самагубства. Калі й так, то нашае жыцьцё ўсё ж належыць нам. Ніхто не пражыве яго за нас, ніхто ня мае права забраць яго ў нас. Калі мы становімся дарослымі, мы самі вырашаем, што нам рабіць з нашым жыцьцём: у якія фарбы размаляваць, якую надаць форму, па якім кірунку пусьціць бегчы, спыніць яго ці падштурхнуць у азадак. За тое, што мы паміраем не тады, калі камусьці хацелася б (бацькам, дзяржаве, публіцы, мэдыкам, статыстыкам), адказваць будзем мы самі. Да таго ж курэньне забівае вельмі павольна. І пакуль яно нас забівае, мы пасьпеем зрабіць столькі, колькі самі захочам. Можна сказаць і інакш: мы ўсё адно зробім столькі, колькі нам адведзена. Ня больш.

Курэньне не замінае нам кахаць, быць пяшчотнымі, міласэрнымі, самаахвярнымі, мэтанакіраванымі, моцнымі, чулымі, таленавітымі, як не замінае нам ненавідзець, падманваць, помсьціць, злавацца, забіваць, красьці, скакаць пад дудку нізкіх інстынктаў... карацей, курэньне не замінае нікому быць жывым. Курэц – такі самы чалавек, як і не-курэц. Ня трэба ставіцца да яго, як да авечкі згубленай. Павучаць яго, абражаць і прымушаць кінуць праклятую «соску». Курэньне па-за мараллю. Гітлер не курыў, а Чэрчыль курыў. Сталін курыў, Ленін – не. Лукашэнка ня курыць.

Курэньне робіць чалавека хворым. Але ж яшчэ больш хворым яго робіць мэдыцынская прапа-

ганда. Якім нешчасьлівым ёсьць жыцьцё чалавека, які на кожным кроку чуе: «Ты няправільна ясі! Занадта шмат халестэрыну! Ты мала рухаешся! Ты шмат сядзіш за кампутарам! Ты дыхаеш невядома чым! Ты ўжываеш алькаголь! Ты п'еш зашмат кавы! Ты няправільна сьпіш! Ты наогул няправільна адпачываеш! Ты няправільна будуеш стасункі зь іншымі людзьмі! Ты мала думаеш пра здароўе! Ты зашмат працуеш! Ты няправільна чысьціш зубы! Цябе забівае твой мабільнік! Ты мала думаеш пра душу! Калі ты апошні раз быў у псыхааналітыка? А ў сэксапатоляга? Ты не пра тое думаеш! Ты зашмат хвалюешся! Ты не засьцерагаешся! У табе мала адказнасьці! СНІД! Рак! Грып! Канец сьвету!» І нарэшце: «Ты курыш! Ты – амаль мярцьвяк! Апамятайся хутчэй!»

Чыстым зьдзекам выглядаюць пасьля такіх нападаў заявы мэдыкаў пра тое, што сучасны чалавек жыве ў стане штохвіліннага стрэсу. Як жа яму яшчэ жыць, калі мэдыцына мае да яго так шмат прэтэнзій? Ці будзе жыцьцё чалавека, які пастараецца выконваць усе рэкамэндацыі мэдыкаў, шчасьлівым? Вядома, не. Яно ператворыцца ў жудаснае, бясконцае, значна больш небясьпечнае для здароўя, чым курэньне, змаганьне – за тое, каб адпавядаць навязанаму апанаванымі прапагандай мэдыямі ідэальнаму вобразу Здаровенькага. Бессэнсоўнае змаганьне, асуджанае на паразу. Мы тым і цікавыя, што недасканалыя. Са сваімі слабасьцямі і недахопамі. З нашым няўменьнем супрацьстаяць спакусам. З нашай цікаўнасьцю да забароненага. З нашым талентам адначасова



ствараць і руйнаваць. З нашымі чалавецкасьцю і чалавечнасьцю. Хто ня курыць і ня п'е, той...

Мы маем справу з культам здароўя – такім самым небясьпечным, як і любы іншы культ. Культура курцоў (не абавязкова курцоў у літаральным сэнсе) – культура індывідуальнай свабоды, культура інтэлектуальнага пратэсту, культура, пабудаваная на рэлятывізьме, на каштоўнасьці сумненьня, на прызнаньні сьвятасьці вольнага выбару, культура анархічная і вельмі гуманістычная ўжо некалькі дзесяцігодзьдзяў супрацьстаіць культуры Здаровенькіх – культуры дэспатычнай, штучнай, культуры, якая функцыянуе дзеля дзяржавы і ў сымбіёзе зь ёй, культуры, заснаванай на штампах і догмах, культуры ідэалістычнай і псэўдагуманістычнай, падтрыманай цэлай ардою мас-мэдыяў, культуры ваяўнічай і да агіды рацыянальнай. Курэц у шырокім сэнсе – апошні чалавек на Зямлі. Чалавек, якога перасьледуюць. Для якога ўжо цяпер ствараюць загоны і рэзэрвацыі. Якога выціскаюць зь ягонага месца пад сонцам. Курэньне – толькі нагода для вайны.

Калі ты ня здольны вырачыся сябе, калі ня хочаш бегчы ў пагоню за няўлоўным глянцавым ідэалам, прыдуманым не табой, калі ты супраць спробаў навязаць табе чужую мадэль так званага пасьпяховага жыцьця – цябе запішуць у курцы, у ізгоі, у лузэры, у небясьпечныя элемэнты, у кагорту шкоднікаў, у адэпты сусьветнага зла, у разрад непаўнацэнных – у той самы шэраг, дзе ў розныя часы ўжо былі «нэгры», «выраджэнцы», «жыды», «ворагі народу», «entartete Kunst»,




«тэрарысты», «чуркі», «дзермакраты», «бязбожнікі», «постмадэрністы», «антыглябалісты», «сатаністы», «здраднікі», «сьмецьце», «лайдакі», «самазабойцы», «хворыя», «чалавеканенавісьнікі», карацей, «ідыёты», «злачынцы»...

Я не лічу курэньне карысным і бяскрыўдным. Жыць добра і без курэньня. Курэньне сапраўды забівае. Я асуджаю цяжарных, якія паляць. Я не хацеў бы, напрыклад, каб мае дзеці курылі. Калі б я любіў заклёны і заклікі, то нястомна крычаў бы: калі ласка, не курыце. І вы, жэншчына, так, вы, вы, бросьця зараз жа цыгарэту! Не пачынайце курыць! Кідайце курыць! І потым дадаў бы ўжо



цішэй: але калі ўжо вы курыце – рабіце гэта з задавальненьнем і годнасьцю. Гэта вашае права: курыць. Не дазваляйце прыніжаць сябе. Вам няма за што сябе вінаваціць; вы не злачынца, вы ўсяго толькі бедны курэц.






# Масаж

У неабходнасьць і эфэктыўнасьць масажу неяк міжволі пачынаеш верыць, усяго толькі пагартаўшы любы прысьвечаны яму дапаможнік. Голыя, лысыя, пакрытыя падазрона густой высыпкай чорных кропак, з атрафіраванымі палавымі органамі істоты, якія нахабна ўсьміхаюцца з ілюстрацый, відавочна патрабуюць тэрміновага мэдыцынскага ўмяшаньня – прынамсі, на пляжы побач з такім чалавекам ніхто не прылёг бы. І піць зь ім віно з адной шклянкі наважыўся б хіба што які-небудзь сьвяты – зь ліку аматараў мыць ногі жабракам і цалавацца з чумнымі.

Цікава, што масаж, вядомы з часоў Гіпакрата, у сярэднявечнай Эўропе трапіў пад царкоўную забарону. Вядома ж, тлумачылася гэта найперш аскетызмам і фаталізмам, якія царква на ўсю моц прапагандавала сярод вернікаў, дакранацца адно да аднаго ды і да сябе самога бяз дай прычыны лічылася заняткам грахоўным: ад сэансу масажу

не заўжды нараджаліся дзеткі, і раб божы ўзмацняўся адно ў целе, але ніяк ня ў духу і веры, масаж быў недапушчальным замахам на божую волю, ня кажучы ўжо пра лячэбны самамасаж, які, відаць, быў у вачах царквы паводле сваёй пачварнасьці чымсьці роўным аўтафэляцыі…

Але, здаецца, матывы такой забароны былі яшчэ і ў тым, што царква сама хацела быць, так бы мовіць, галоўным Масажорам, хацела мець манаполію на масаж ня толькі душы, але і плоці. Прыгадаем бічаваньні і самабічаваньні – гэты масаж з садамазахісцкім падтэкстам, якому з імпэтам аддаваліся апантаныя вернікі, прыгадаем, як, апрануўшыся ў лахманы, масіравалі сябе цапамі, бізунамі і проста дубцамі грэшныя імпэратары і прасьветленыя душагубцы, прыгадаем розныя сэкты, кшталту хлыстоў, і рэлігійныя рухі, кшталту флягелянтаў, а зь імі нямецкую самотніцу Юту фон Шпонгайм, прыгадаем расейскую лазьню, сама ідэя якой, відавочна, паўстала на рэлігійным, праваслаўна-флягелянцкім грунце.

Нічога дзіўнага ў тым, што, напрыклад, у другой палове XIX стагодзьдзя ў Расеі нігілісты-атэісты паўсталі супраць гэтай царкоўнай манаполіі – узяць хаця б падзабытага цяпер героя рамана Чарнышэўскага, рэвалюцыянэра Рахметава, які, як вядома, любіў без усялякіх папоўскіх санкцый спаць на цьвіках, што ёсьць клясычным прыкладам аздараўленчага кропачнага самамасажу, а таксама ёгі. У масажных салёнах таго часу, якія паадчыняліся ў Эўропе і Амэрыцы, дама атрымлівала тое, чаго не магла атрымаць у



ложку з мужам – праз умелыя дотыкі, наўпрост не зьвязаныя ні зь якім сэксам: пра гэта піша, у прыватнасьці, доктар Купэр у сваім фундамэнтальным двухтомным дасьледаваньні «Гісторыя бізуна». Also, масаж, як сказалі б пазьней, гэта справа хаця й буржуазная, але аб'ектыўна спрыяльная для рэвалюцыі.

Зрэшты, ня ўсе рэлігіі ставіліся да масажу так непрымірэнча; у краінах больш сонечных за Эўропу ён ва ўсе часы быў адным з найважнейшых элемэнтаў культу. Прыхільнікі баканізму, рэлігіі, апісанай Вонэгутам у дасьледаваньні «Калыска для коткі», маюць рытуал, называны імі «бока-мару», калі двое вернікаў садзяцца і труцца сваімі голымі пяткамі і ступакамі, напяваючы пры гэтым адмысловае каліпса пра любоў да ўсіх і ўсяго (дарэчы, свае песьні былі і ў флягелянтаў – рэлігійны масаж натхняе на сьпевы). Нічога дзіўнага: паводле сыстэмы знакамітага японскага масажу шыацу, на ступаку ажно пяць біялягічна актыўных кропак, узьдзеяньне на якія здымае боль у нагах, стому, вяртае бадзёрасьць, аднаўляе сілы.

Толькі ўмоўна можна сказаць, што масаж – самая бясьпечная зь існых аздараўленчых і лячэбных мэтодык. З рук няўмелага масажыста можна выйсьці калекам. Невядома, што раптам стрэльне ў галаве чалавека, які, ціскаючы цябе, натрапіць на твой прадаўгаваты мозг – яго вобласьць знаходзіцца каля патыліцы. Гэты важны орган адказвае і за сэрца, і за мазгі, і за дыханьне: атрымаўшы ў гэтую кропку іголкай, жывёла мен-

шых за чалавека памераў, кшталту сабакі ці коткі, памірае, а чалавек калі не памрэ, дык страціць прытомнасьць ці пакалечыцца. Менавіта ў гэтую кропку на шыі быка цэляць забойцы-тарэра, калі хочуць скончыць зь няшчаснай жывёлай адным ударам.

Што толькі ня робяць з рознымі біялягічна актыўнымі кропкамі, раскіданымі па чалавечым целе, прыхільнікі японскага і кітайскага масажу. Колюць іх іголкамі, нэфрытавымі і касьцянымі палачкамі, прыпальваюць палыннымі цыгаркамі, робяць у іх месцы надрэзы, прасуюць і ціскаюць, шмаруюць рознымі шмаравідламі. Пад масаж падводзяць салідную рэлігійна-філязофскую і мэдычную базы, цяжар якіх не вытрымлівае ў выніку ніводная такая кропка – зь віскатам даючы патрэбны вынік. Скажам, на кітайскі масаж чжэнь-цзю працуе цэлая філязофія – тая самая, дзе пра інь і ян. Для эўрапейцаў, дарэчы, яе пастуляты гучаць даволі па-сэксісцку. «Ян – увасабленьне мужчынскага пачатку, станоўчая моц, рух… У чалавека гэта вонкавая паверхня цела, верхняя яго частка і левая палова. Хваробы Ян – галаўны боль, высокая тэмпэратура, запоры, сутаргі, патлівасьць, мача цёмнага колеру.

Ян – гэта звычка да халоднай ежы, грубы і гучны голас, шумнае дыханьне, бадзёры настрой. Інь – адмоўны, мацярынскі пачатак. Увасабляе ўсё цёмнае, пасіўнае, прыхаванае, зьменлівае, успрымальнае. Гэта ўнутраная паверхня цела, ніжняя яго частка і правая палова, гэта кепскі настрой, ныючыя болі, цьмяныя невыразныя



вочы, марудная хада, слабое маўленьне, бледнасьць, адсутнасьць апэтыту, рэдкі стул, ціхі, часты подых…» Інь і Ян нібыта змагаюцца адно з адным, але пры гэтым утвараюць адно цэлае, іхную раўнавагу і закліканы падтрымліваць масаж чжэнь-цзю. Прыпозьненая хваля любові да ўсяго арыентальнага прынесла на абшары Беларусі і іншыя масажныя мэтодыкі: мангольскую туй-на, паўднёвакарэйскую су-джок і карэйскую народна-дэмакратычную чу-чхэ, ужо памянёную японскую шыацу разам з ама і до-ін, сучасную тайскую «сэкс а-ля Уэльбэк» і іншыя.

Калі я думаю пра беларускую масажную мэтодыку, то мне не прыгадваецца нічога, акрамя адной кранальнай гульні з глыбокага дзяцінства, якая, напэўна, таму і засталася ў памяці, што ўзьдзейнічала на нейкія асабліва актыўныя біякропкі і давала пачуцьцё цеплыні і шчасьця праз фізычны дотык і добры настрой сваякоў і блізкіх. Дзіця клалі на жывот і пачыналася: «праехала машына» – і рука дарослага, складзеная лодачкай, «ехала» па маленькай сьпіне, «прайшоў слон» – і па ёй асьцярожна крочыў у накірунку шыі вялікі дарослы кулак, «прайшоў дзядзька» – і тое самае рабілі два пальцы, потым «прабягала мышка»… Апошняй, як ні дзіўна, на сьпіне зьяўлялася «машыністка» і пачынала «друкаваць, друкаваць, друкаваць» – да рогату і поўнае зьнямогі. Чым не масаж для дзіцяці? Чым ня сьветлы ўспамін на цёмную дарослую будучыню?

Калі б я быў баканістам, то выставіў бы наперад пяткі і выступіў бы зь невялікім казаньнем. Гісто-





рыя нашых узаемадачыненьняў зь іншымі – гэта гісторыя дотыкаў, навука жыць зь іншымі – гэта і навука прымаць і адхіляць чужыя дотыкі. А ад дотыку да масажу адзін крок, кожны дотык – патэнцыйнае бока-мару. Масаж самому сабе і тым, хто заслугоўвае нашых дотыкаў, чым бы гэта ні скончалася: цяжарнасьцю, любоўю, сьмерцю, аплатай у касу ці проста лёгкім віраваньнем крыві. Як пяецца ў той баканісцка-вонэгутавай песьні:

We will touch our feet, yes,
Yes, for all we’re worth
And we will love each other, yes,
Yes, like we love our Mother Earth.





# Мігрэнь

Дрэнны той пісьменьнік, якому не баліць галава. Мастацтва ёсьць болем, літаратура ёсьць болем – у тых, хто піша ўсе гэтыя мала каму патрэбныя кніжкі, павінна нешта балець: калі не душа, дык хаця б неабыякавае (гэта не эпітэт, гэта дыягназ) сэрца, калі ня сэрца – дык хаця б адбітыя здаровымі і жыцьцярадаснымі прыхільнікамі ныркі, калі ня ныркі і ня сэрца – дык прынамсі вочы…Але галава мусіць балець абавязкова: рэгулярны галаўны боль важнейшы за ўсе пасьведчаньні ўсіх пісьменьніцкіх саюзаў, менавіта ён сьведчыць пра тое, што ў цябе ёсьць шанец напісаць некалі штосьці харошае.

Яго трэба заўжды мець пры сабе, але нікому не паказваць – як халодную зброю, як электрашокер, ці як пачак грошай, бо галаўны боль для літаратара ёсьць яшчэ і ўласным капіталам, які зарабляецца творчасьцю і інвэстуецца ў творчасьць. Балі, балі, мая галава, люлі-люлі, чаму ж ты няпоўная, у беражках няроўная.

Упэўнены, што нават у беларускіх савецкіх пісьменьнікаў галава часам балела – нават нягледзячы на тое, што ў іх была свая Паліклініка, Цэнтар па выпрацоўцы здаровага натхненьня. Вось у Эдгара По не было сваёй палiклінікі – і галава ў яго балела амаль няспынна. Трэба было яму ўступіць у якісьці саюз. А так: «Найлепшае, што для мяне цяпер мог бы зрабіць сябра – гэта пусьціць кулю ў маю бедную галаву!» – сказаў незадоўга да сьмерці раздражнёны По (які мучыўся ад мігрэні і ад сэрца) нейкаму добраму доктару Ліўсі.

Напэўна, сапраўды, у працэсах, якія кіруюць творчасьцю, задзейнічаная толькі адна палова мозгу, інакш адкуль гэтыя мігруючыя мігрэні і зьвязаныя зь імі мітрэнгі? Само слова «мігрэнь» паходзіць ад грэцкага «гемікранія», што азначае нешта кшталту «паўгалавы», бо мігрэнь у большасьці выпадкаў ахоплівае менавіта адзін бок чалавечай галавы, нібы даючы другому паразважаць пра тое, у чым ён вінаваты і што рабіць далей. У Францыі гемікранія адкрыла рэстарацыю на Манмартры, атрымала *carte d´identité* і стала мігрэньню.

Вядома ж, мігрэнь – толькі адзін зь відаў галаўнога болю, але самы рамантычны. Доўгі час лічылася, што прычынай мігрэні ёсьць праблемы зь ціскам, але апошнія дасьледаваньні паказваюць, што, верагодней за ўсё, зноў ува ўсім вінаваты свавольны гармон сэратанін, ягоная колькасьць у крыві і ўплыў на судзінную сыстэму чалавека.

Наогул, на сэратанін за апошні час навешалі



столькіх сабакаў, што ствараецца ўражаньне ягонае прычыненасьці да любой хваробы: здаецца, мэдыцына – гэта суцэльнае ўтаймоўваньне злога неаб’ежджанага сэратаніну. Апрача павышэньня ўзроўню сэратаніну, да ўзьнікненьня мігрэняў чамусьці прычыняюцца курэньне, сыр, арэхі, піва і чырвонае віно: цэлая тынэйджэрская вечарынка з рабаваньнем бацькоўскага буфэту.

Чаму мігрэнь рамантычная? Ня толькі таму, што на яе часта хварэюць паэты і жанчыны (75 адсоткаў ахвяраў мігрэні). Быць адначасова рамантыкам і не хварэць на мігрэнь атрымалася, відаць, толькі ў робата Вэртэра, калі вы разумееце, пра што я. Паводле мэдычнай клясыфікацыі, мігрэнь можа быць з аўрай і без.

Мігрэнь з аўрай трэба заслужыць – і ня толькі пісьменьніку. Аўра мігрэні – гэта разнастайныя галюцынацыі, якія папярэднічаюць прыступу, а таксама абвастрэньне пахаў, боязь сьвятла, гукаў. Мігрэнь з аўрай – гэта як эцых зь цьвікамі, яго абы-каму не даюць, а толькі людзям творчым, неспакойным, сапраўдным нэўротыкам. Мігрэньню бяз аўры прырода ўзнагароджвае людзей пасрэдных, без асаблівых здольнасьцяў: чыноўнікаў, чальцоў Рады па маральнасьці, адстаўных фэльдфэбеляў, дэпутатаў Нацыянальных сходаў. Галоўнае – не пераблытаць, інакш можна стаць пэрсанажам нечай галюцынацыі, несанкцыянаваным сьвятлом у нечым цёмным акенцы, непажаданым гукам. Але ж прырода сама блытаецца рэдка, блытаюць пераважна яе – з богам, са сьметнікам, з Грынпісам.




Падумаеш, галава баліць… Выпі асьпірыну. Не дапамагае. Тады спазмалгону. Ляж пасьпі. Гавары праўду.

Людзі, ня схільныя да мігрэні, заўжды ставіліся да яе трохі паблажліва – яе псэўдажаночы характар даваў падставы думаць, што яна напалову – выдумка і капрыз, напалову – нешта, што трэба і можна проста ператрываць, кшталту парэзанага пальца. Між тым, мігрэнь і наогул любы рэгулярны галаўны боль можа быць прадвесьнікам сур’ёзных хваробаў: пухлінаў мозгу, дыябэту, праблемаў сардэчна-судзіннай сыстэмы, якія так любяць скончацца летальна. Так што, калі вы чалавек ня творчы і ў вас часта баліць галава, ідзіце самі ведаеце куды, на тры літары. МРТ. А калі ўсё ж лічыце сябе творцам, то так вам і трэба – спыніцеся, вазьміцеся за скроні, палюбуйцеся аўрай. На мігрэнь хварэлі Цэзар, Кальвін, Гайнэ, По… Добрая кампанія, вам будзе пра што пагаварыць.






# Мэтэазалежнасьць

Абсалютна незразумела, як чалавецтва, гісторыя якога налічвае ўжо колькі тысячагодзьдзяў, здолела дажыць да такога паважнага ўзросту – зь ягонымі вечнымі нараканьнямі і незадаволенасьцю ўсім на сьвеце.

Вось дай чалавеку свабоду – ён адразу пачынае марыць пра «жалезную руку» ці пальчаткі з вожыка, забяры тую свабоду – заенчыць пра ўціск і аўтарытарызм. Апынуўшыся ў космасе, ён будзе са сьлязьмі на вачах мэлянхалічна напяваць пад нос старажытны гіт «Зямля ў ілюмінатары відна…». Паспрабуй легалізаваць прастытуцыю – ён закрычыць пра зьнішчэньне маралі, забарані гэтую прафэсію – ён жа першы ўпотай пабяжыць у бардэль. З такой капрызнай бабай, як чалавецтва, доўга не пражывеш, ад такіх сыходзяць на сьвітанку з маленькім чамаданам, такім падсыпаюць тоўчанае шкло ў ёгурт, з такімі разводзяцца, такіх душаць спрасоньня.

Зімой ім хочацца сьпёкі, летам – сьнегу, дождж ім занадта мокры, і на кожным кроку на іх валіцца атмасфэрны слуп. Тым ня менш пакуль што нас церпяць, сусьвет яшчэ трывае і мы разам ляцім да крамлёўскіх зор.

Нехта даволі слушна заўважыў, што чалавек больш залежыць ад надвор’я, чым ад палітыкі і курсу валютаў. Почасту менавіта мэтэаадчувальнасьць, залежнасьць ад клімату фармуюць чалавечае ўспрыманьне рэчаіснасьці – праўда, толькі на дадзены момант, на сёньня; заўтрашнім днём ніхто жыць не жадае, бо ўсе мы жывем тут і цяпер, на кончыку свайго носа, які так чула рэагуе на зьмяненьне тэмпэратуры паветра. Калі сёньня добрае надвор’е, то чхаць мы хацелі на сваё і на вашае заўтра. Нават апошні раб, што пакутуе ад непасільнае працы і бяспраўя, задумаецца цудоўнай летняй раніцай у вольную хвілінку: «А можа, усё ня так дрэнна? Птушкі пяюць, сонейка грэе, неба вунь якое блакітнае... Гаспадарская дачка бяз станіка загарае... Гэх, добра жыць на белым сьвеце!»

Ёсьць меркаваньне, што менавіта надвор’е і клімат прадвызначаюць нацыянальны тэмпэрамэнт чалавека. Маўляў, скандынавы і балты такія стрыманыя, маўклівыя і да анэкдатычнага спакойныя, бо жывуць у холадзе і рэдка бачаць сонца. Напэўна, аўтарамі гэтай тэорыі былі жыхары поўдня, упэўненыя, што ў халодным клімаце чалавек проста абавязаны знаходзіцца ў стане пэрманэнтнай дэпрэсіі. Тое, што надвор’е ўплывае на чалавека больш за палітыку, ускосна пацьвярджаецца і статыстыкай: у дэмакратычных і заможных, але халодных і нясонечных паўночных краінах чамусьці высокі ўзровень самагубстваў. На менш разьвітым, а часам проста бедным поўдні вельмі любяць падкрэсьліваць гэтую сувязь паміж ультрафіялетам і суіцыдам.

Разьвіваючы такія сумнеўныя тэорыі, можна прыйсьці да цікавых высноваў. У пошуках недасяжнага сонца і цеплыні няшчасныя паўночныя народы часта аддаюць сябе пад уладу чарнявых і жвавых прадстаўнікоў поўдня – нібы падсьвядома кампэнсуючы недахоп ультрафіялету і тэмпэрамэнту. Атыла, Чынгісхан, Вільгельм Заваёўнік, Філіп Другі... Халодная Расея абрала сабе (а заадно і паняволеным ёй народам) у куміры грузіна Джугашвілі, дый нават Нямеччына нацысцкіх часоў таксама падтрымала чалавека, можна сказаць, з поўдня, аўстрыйца Гітлера. Сярэдняя кляса любой больш-менш паўночнай краіны, як беларуская студэнтка-калгасьніца, жыве ў палоне даўняга стэрэатыпу пра надзвычайную сэксуальнасьць паўднёвых жыхароў і зь лёгкасьцю дае ім сябе зачараваць.

Адна з найлепшых парадаў, якія доктар можа даць мэтэаадчувальнаму чалавеку – зьмена месца жыхарства, пазытыўны эфэкт якога ня толькі ў зьмены асяродзьдзя, але і ў зьмене клімату. Каляніяльным дзяржавам, імпэрыям мінулага, было што прапанаваць сваім падданым – турпуцёўкі былі на любы густ. Як правіла, іхныя сталіцы былі не найлепшымі месцамі для жыцьця. «Если выпало в империи родиться, лучше жить в про-

винции, у моря…» – гэтыя радкі можна зразумець яшчэ і як мару мэтэазалежнага. Ангельцы беглі ад лёнданскага туману, «у Маскву больш не ездакі» сяліліся на Каўказе – выключна ў санаторна-лячэбных мэтах займаючыся вынішчэньнем тамтэйшага насельніцтва. У XIX стагодзьдзі клімат і надвор'е Нью-Ёрку падаваліся невыноснымі О.Генры, які нават тэрмін прыдумаў: «нью-ёрскі мэтэанэўроз». Менск на гэтым фоне выглядае ня менш гіблым месцам, асабліва ўлетку, калі ён проста плавіцца разам з усім сваім начыньнем, жыхарамі і гасьцямі сталіцы, жыцьцярадаснымі маскоўскімі дачнікамі. Беларусь – не імпэрыя, бегчы няма куды, хіба на лецішча ці ў вёску.

Па статыстыцы, 30 – 40 адсоткаў насельніцтва кожнай разьвітай краіны пакутуе на мэтэазалежнасьць, і пераважная іхная большасьць жыве ў гарадах. Гарадзкое паветра горш іянізуецца, дажджавая вада не зьнікае ў зямлі, а выпараецца – таму гараджанам значна складаней пераносіць капрызы надвор'я. Гарадзкі чалавек, замкнуўшы сябе пад нябачным каўпаком, выпаў з прыроднага рытму, таму кожны рэзкі скачок надвор'я аддаецца ў ягонай галаве болем, а ў ягоных костках – ныцьцём. Як авечка перад бурай, носіцца ён напярэдадні зьмены надвор'я па вуліцах і плошчах ім жа пабудаванага монстра, жаласьліва блеючы і часам блюючы на урбаністычныя помнікі. Гэта ў найлепшым выпадку, а ў найгоршым вэгетасудзінная дыстанія, астэнічны сындром, абвастрэньне хранічных хваробаў, інфаркт. У кішэні гараджаніна – максымальны ў краіне заробак, у



галаве – пуста, у страўніку – смачна і хутка, а на сьпінцы ягонай соннай артэрыі пагойдваюцца малюпасенькія валаскі-антэнкі, прадчуваючы зьмену атмасфэрнага ціску, прадвяшчаючы, што неўзабаве воды нябесныя абдымуць яго да душы ягонай… Аслабленыя горадам арганізмы любая нестабільнасьць надвор'я лёгка выбівае з каляіны.

Асабліва пакутуюць ад мэтэаадчувальнасці пажылыя людзі. Цікава, што нядаўна адна беларуская газэта з рысункамі правяла апытаньне сярод літаратараў: як і над чым ім працуецца падчас нечуванай летняй сьпёкі. Высьветлілася, што чым маладзейшы быў літаратар, тым лепш яму працавалася ў тым пекле. Найстарэйшы з апытаных літаратараў працаваць у такіх умовах ужо ня мог, ён перачытваў клясыкаў. Быў і такі адказ: літаратура – ня сельская гаспадарка, каб залежаць ад прыродных цыкляў, з чым я цалкам згодны. Літаратар працуе заўсёды, незалежна ад надвор'я, ён ня мае выходных ці адпачынку. Прыгадваецца герой Булгакава, які ў такую самую сьпёку пісаў свой тэатральны раман голы, загарнуўшыся ў мокрую прасьціну.

Калісьці Гётэ стварыў цэлы трактат, прысьвечаны залежнасьці ад надвор'я. Між іншым, ён адзначыў (маючы на ўвазе, пэўне ж, найперш сябе), што мэтэаадчувальнасьць уласьцівая тонкім натурам. То бок так званым творчым людзям... Сапраўды, нават у адной толькі беларускай літаратуры зь лішкам хапае вершаў, напісаных мэтэазалежнымі. Аўтары самых вядомых зь



іх – Купала і Колас: матывы блізкай перамены надвор'я, чаканьня сонца або буры сустракаюцца амаль у кожным іхным паэтычным творы («К яснаму сонцу зь цьмы, зь беспрасьвецьця...», «Загаманіце віхрам, бурай!», «Нібы сонейка праз хмары, сьвет к нам не прарвецца...», «Неба сьцеле шаты на дарогу сонцу...», «Устань, устань, маё ты сонейка...», «Усю Беларусь убачыць у ясным, як сонца, сьвятле...», «Ціха зь неба сонца гляне, ачуняе старана», «Я буду маліцца да яснага сонейка...»). Але ж песьняры стараліся трымацца:

«Не бядуй, што зьвісьлі хмары…»
«Не бядуй, што сьнег халодны…»

Кожны народ выдумляе сабе сваю Вялікую Літаратуру. Без мэтэазалежнасьці не было б той Вялікай Беларускай літаратуры, якую калісьці выдумалі ў нас.



І ўсё ж ніводзін участковы доктар ня дасьць мэтэазалежнаму бальнічнага, нават паэту, бо арганізм пацыента пры гэтым звонку выглядае здаровым. Калі ў такія крытычныя дні няма куды ўцячы, мэдыкі рэкамэндуюць мэтэазалежным зьнізіць сваю актыўнасьць да мінімуму, пастарацца стварыць дома спрыяльны мікраклімат. Завесіць фіранкі, заклеіць вокны, выключыць тэлевізар, забарыкадаваць дзьверы, не адказваць на званкі, выдаліць акаўнт на «Аднаклясьніках», апаражніць страўнік, змыць ва ўнітаз ключы, патушыць сьвятло, уключыць газ, легчы на сьпіну, скласьці на грудзёх рукі, заплюшчыць вочы, слухаць, як гудзіць сонная артэрыя, ні пра што ня думаць.





# Насмарк

У аднаго сымпатычнага пэрсанажа закладзены нос. Аўтару трэба як мага больш пераканаўча давесьці чытачу, што пэрсанаж не прыкідваецца, што соплі сапраўдныя. Як гэта зрабіць?

Адно з найбольш нестандартных і яркіх рашэньняў належыць Уладзіміру Набокаву. Захварэлая гераіня ягонага рамана «Подзьвіг» не смаркаецца прылюдна і не дэманструе чытачу смаркатку, як прасьціну пасьля першай шлюбнай ночы. Яна проста тлумачыць (па-расейску, вядома ж):

«*У бедя дасборг*».

Прамоўце гэта ўголас – «*У бедзя дасборг*» – і, нават будучы здаровым, вы абавязкова адчуеце, як нешта непрыемна апячэ нёба і горла, у роце на імгненьне зьявіцца брыдкі дух прастуды. Аўтару ўдалося расшыфраваць гукавы код хваробы – такое бывае нячаста.

Насмарк – ён жа возгры, катар і насмарга. Ён псуе жыцьцё спакваля, цішком і тым ня менш

прымушае лічыцца з сабой увесь арганізм, ён – як суседзі, якія робяць у сябе капітальны рамонт. Гаймарытам і Атытам палохаюць дзяцей, калі тыя перастаюць верыць у Бабая і Бармалея. Але, на дзіва, і насмарк здольны быць да пары карысны грамадзтву.

Да прыкладу, канцлер фон Насмарк аб'ядноўвае нас і шыхтуе ў доўгія чэргі, дзе мы ўзаемнічаем і знаёмімся – ці ж гэта не дасягненьне?

Насмарк заўжды кліча нас да дзеяньня, ён – ачышчальная рэакцыя арганізму, пашморгваньне носам – як сыгнал горна, які заклікае да абароны; містэрыя бунтоўных вадкасьцяў, твой прыватны ісьляндзкі вулькан. Насмарк – прывілей адносна здаровых людзей; чалавек, які ніколі ня чхае, відавочна мае сур'ёзныя праблемы з насаглоткай.

Сьлізь, што выходзіць з нас падчас насмарку, на першай стадыі свайго шляху – такая ж крывяная плязма, як і мача. Нават дзіўна, што дагэтуль не існуе якога-небудзь мэтаду самалячэньня з дапамогай гэтых выдзяленьняў, чароўнага адпаведніка ўрынатэрапіі, і ніхто пакуль не дадумаўся зьбіраць іх і шмараваць імі ранішнія бутэрброды. Момант чханьня – сакральнае імгненьне надзеі: заўжды, пазбаўляючыся ад непатрэбнага, мы прагнем запоўніць утвораную пустату чымсьці добрым, праз вызвалены нос, які толькі што чхнуў, чалавек гуляе ў лятарэю сусьвету: што яму дастанецца ўзамен? Таму шмат у якіх народаў прынята адразу ж зычыць таму, хто чхнуў, здароўя. А вось таму, хто ахайна высмаркаўся ў смаркатку, зазвычай нічога ня зычаць – ён сам



сябе выключыў з гэтай цікавай гульні, змарнаваў шанец.

Але і праз смаркатку чалавека можа наведаць натхненьне. Нават праз чужую. Бык Маліган з Джойсавага «Уліса» пазычае ў Стывэна такую смаркатку, каб выцерці лязо брытвы, і кажа:

«Вось смаркатка барда. Новае мастацкае адценьне для нашых ірляндзкіх паэтаў: смаркатазялёнае. Амаль што адчуваеш смак, праўда?» (*пераклад Яна Максімюка*).

Аднак ня толькі ў ірляндцаў пры выглядзе смаркачоў абуджаецца муза. Вялікі, працавіты і мудры народ Беларусі таксама нярэдка натхняецца насмаркам. «Вісіць, як сапля» – так скажа фізрук пра нягеглага хлопца на папярэчыне.

А «вісіць на саплях» – гэта ўжо пра нешта нетрывалае і нежывое: пра мёртвага хлопца на папярэчыне, напрыклад. Увогуле, слова «сапля» ўжываецца ў пераносным сэнсе ў самых розных сфэрах – ад настольнага тэнісу да вайсковай справы – і зафіксавана больш чым у трыццаці выпадках: някепскі вынік. Кажуць, найноўшым зь іх карыстаюцца кампутарнікі, якія перарабілі ў «саплю» ангельскае supply.

Насмарк (ці, па-навуковаму, рыніт – зусім як назва каштоўнага каменя) – незаменны памочнік у вывучэньні замежных моваў. Як яшчэ навучыцца вымаўляць насавыя галосныя, якіх так багата, напрыклад, у польскай і францускай, але няма ў беларускай? Каша ў роце і закладзены нос – вось рэцэпт посьпеху ў фанэтыцы – калі ты ня геній і не папугай. Засталося прывесьці да ладу




мэню ін’язаўскіх сталовых і тэмпэратуру паветра ў тамтэйшых лінгафонных кабінэтах.

Не зусім чужая насмарку і музыка. Пры наяўнасьці пэўных навыкаў чалавек з закладзеным носам здольны зайграць на ім ня толькі Грыга, Вагнэра і «Ты не чакай» Лявона Вольскага, але і гімн РБ. Лячыць ад насмарку такіх людзей – проста злачынства, гэта тое самае, што адсекчы рукі Сымону-музыку. Нараджэньне трагедыі з духу насмарку – перадумовай для гэтага можа стаць адно хранічная форма захворваньня.

Насмаркі, як вядома, бываюць розныя: найбольш вядомыя інфэкцыйныя і алергічныя. Часам яны – толькі прадвесьнікі іншых хваробаў, часам – паўнапраўныя ўдзельнікі мэдычнага дэтэктыву (як, скажам, у фантастычным рамане Лема «Katar»). Апрача іх, ёсьць яшчэ сэксуальны



насмарк: рэдкая зьява, як сьлед яшчэ ня вывучаная. На яго хварэе ўсяго некалькі адсоткаў насельніцтва плянэты. Сэксуальны насмарк нападае на свае ахвяры адразу пасьля зьдзяйсьненьня полавага акту, доўжыцца ад некалькіх хвілінаў да некалькіх гадзінаў і потым зьнікае – да наступных любошчаў. Аднак найчасьцей ён праяўляецца ў тых, хто толькі пачынае полавае жыцьцё. Такімі вось незвычайнымі зьнітаваньнямі могуць пахваліцца некаторыя арганізмы; гэткі насмарк ня дасьць каханкам сумаваць у той час, калі *post coitum omne animal triste est*.






# O.R.V.I.

У якое б акно ты ні глядзеў – бачыў школу. Яна пранізьліва сьвяцілася, выплываючы са слоты і ранішняга туману, яна была незваротная і няўхільная, нібы лабавое сутыкненьне на цёмнай шашы. Ты й праўда адчуваў сябе ў гэтыя хвіліны нявыспаным кіроўцам, які задрамаў за стырном і ачомаўся занадта позна; сутыкненьне было непазьбежнае і ты зноў заплюшчваў вочы – але і тады бачыў перад сабой школу, цяжка нагружаную школу са страшным трохзначным нумарам, якая ехала кудысьці: праз туман, празь зіму, праз панядзелкі, праз тваё маленькае, камусьці патрэбнае жыцьцё.

Бацькі даўно былі на працы, за дзьвярыма няспынна гудзеў ліфт, а ў табе паволі расла спакуса. Ты з надзеяй прыслухоўваўся да свайго арганізму – кожны ягоны збой азначаў бы магчымасьць нечаканага павароту, але ты быў безнадзейна здаровы. Нават спаць ужо не хацелася. Нечала-

вечым намаганьнем волі табе ўдалося выклікаць у сябе лёгкія паколваньні ў баку, аднак яны хутка прайшлі.

Да пачатку заняткаў заставалася хвілінаў пяць. Ты стаяў пасярод кухні, у школьнай форме, зь піянэрскім гальштукам у кішэні, з чырвонай павязкай дзяжурнага на руцэ, перад шырокім акном, у якім не было нічога, апрача туману і школы, прышчавы падлетак, жыхар мікраараёна Туле, закладнік уласнага імунітэту, замкнёны на апошнім паверсе блёчнага дома, і слухаў, як д'ябал катаецца на ліфце ўверх-уніз. Але вось ліфт змоўк – і ты прыняў рашэньне.

Маці паставілася да твайго тэлефоннага шэпту зь дзіўным разуменьнем – праз хвіліну яна пера-тэлефанавала, сказала класьціся і чакаць доктара. Ты яшчэ ніколі не падпарадкоўваўся бацькам з такім задавальненьнем. Прызнайся: ты ведаў, як працуюць участковыя дактары, ты дакладна ведаў, што па выкліку доктар прыйдзе не раней чым праз тры гадзіны. І ты з асалодай скінуў форму і паваліўся ў адных майтках на астылую прасьціну.

У адной руцэ недаедзены зранку бутэрброд, у другой – недачытаная ўчора кніга. Па-мойму, бутэрброд з маслам і доктарскай каўбасой, а кніга – Уэлс, «Вайна сусьветаў». У руках спакушанага ўсё мяняе смак, усё мяняе зьмест, усё мяняе сэнс. Доктарская каўбаса, ружовая і пругкая, амаль цьвёрдая, як нечае нацертае калена. Прыемна падсохлы батон, які ты грызеш, крышачы на сьвежазасланую бялізну. Уэлс, які не выклікае згрызотаў сумленьня. Але празь нейкі час ты адчуў няўтульнасьць. Адчуў, што табе не хапае гукаў. Адчыніў фортку, спадзеючыся падхапіць хаця б лёгкі насмарк. Гэта нагадвае рыбную лоўлю: лавіць на свой нос прастуду. Тым часам на дварэ разьвіднела, школа згасла; трохі расчаравана ты ўцягваў у сябе рэшткі парадзелага туману, мусіла ж ад яго забалець горла, як ад марозіва.

Зь якога б акна ты ні выглядваў – бачыў паліклініку. Напэўна, адтуль ужо выйшаў чалавек, які накіроўваецца да цябе. Гэты чалавек шукае цябе. Заходзіць у кватэры, пытаецца, прымушае распранацца, спраўджвае асаблівыя прыкметы, крадзе чайныя лыжачкі.

Ты сам яго выклікаў, каб ён наслаў на цябе хваробу. Не пускай яго, яго сіла ў круглым штампіку; калі ён прыйдзе пад дзьверы, скажы, што цябе няма, што ты ў школе, у Thule, у шафе, у Туле, скажы, што ты на нулі, скажы, што цябе падманулі, скажы, што заразны, што ў цябе трыццаць дзевяць і дзевяць па шкале Рыхтэра, скажы, што ты ўсяго толькі беднае дзіця, што дома няма ні мамы, ні таты – а ты не адчыняеш незнаёмым людзям…

І калі ты раптам чуеш, як падымаецца ліфт, табе становіцца жудасна. Ты прыслухоўваешся да нарастаньня ягонага гуду, ты як паляўнічы, які можа прыкласьці вуха да зямлі і сказаць, які зьвер ідзе насустрач і на якой адлегласьці ён знаходзіцца. Не, гэта ня доктар. Доктар ня тупаў бы нагамі ў кабіне, рызыкуючы завязнуць. Доктар ня пахне самкаю ў пэрыяд цечкі. Доктар карыс-

таецца ліфтам ціха, нячутна, прабіраючыся па шахце так, што нават кнопка не гарыць.

Як жа ты зьдзіўляешся, калі ў дзьверы раптам звоняць. Ты страсаеш крышкі з прасьціны, хутаешся ў коўдру і адчыняеш. Перад табой дзьве аднаклясьніцы, якія адразу ж пачынаюць іржаць, убачыўшы цябе ў такім выглядзе. Яны ніяк ня могуць спыніцца, і ты бразгаеш дзьвярыма ў іх пад носам. Ты ўяўляеш, што яны распавядуць, вярнуўшыся ў школу. Аднаклясьніцы яшчэ колькі хвілінаў давяцца сьмехам па той бок дзьвярэй. «Захварэў я!» – крычыш ты ім з прыкрасьцю, а яны ўсё ціснуць і ціснуць на званок. Калі ім надакучвае, ты пасьпяваеш дачытаць Уэлса.

Празь некалькі гадзінаў ты з апэтытам зьядаеш абед, потым улучаеш тэлевізар і глядзіш усё запар – ажно датуль, пакуль на дварэ не цямнее. Тэлефануе маці і пытаецца, ці прыходзіў доктар. Не, кажаш ты; не? Не. Не прыходзіў. Не-а. Можа, ён ня прыйдзе?

У доктаркі каленкі круглыя і ружовыя, яна маладая, можа, усяго гадоў на сем-восем старэйшая за цябе, пахне слотай, холадам, яна табе падабаецца. Ты сядзіш перад ёй, як султан, а яна лашчыць цябе, незнарок дакранаючыся халодным фанэндаскопам да смочак, загадваючы павярнуцца сьпінай – нібы абяцаючы сюрпрыз, нейкую нязьведаную ласку. Зазірнуўшы ў рот і выслухаўшы цябе, яна адкідваецца на сьпінку прынесенага табой крэсла і ўсьміхаецца. Ты глядзіш ёй у вочы, а яна табе. Вы ня кажаце адно аднаму ані слова. Урэшце яна схіляецца над сваімі круглымі каленкамі і нешта піша.



Што са мной? – пытаешся ты хрыпата.

ОРВІ, – кажа яна, не падымаючы галавы. – Пасядзіш тыдзень дома, я выпішу рэцэпт…

Нікітрон, піша яна на лусьце хлеба і ставіць крыжык. Ярон, Ірон, піша яна. Кітрон, выводзіць яна. Фараон, Фаразон, Лідон. Сталідон. І крыжык насупраць кожнага слова. А потым працягвае хлеб мне – і я ем яго проста зь ейных рук, як сабака.






# Памяць

Мне пашанцавала: у маім жыцьці здарылася ня так шмат падзеяў, якія хацелася б забыць, выкрасьліць з памяці. Не давялося – прынамсі, пакуль што – пеpажыць вайну, турму або канцлягер, катаваньні, страты, катастрофы… Але, вядома, такія-сякія ўспаміны няблага было б прыбраць.

Гадоў дваццаць таму мы зь сябрамі, забраўшыся ў нейкі цёмны менскі мікpараён, былі на горкі яблык зьбітыя мясцовымі калдырамі. Аднойчы ў юнацтве я стаў ахвяраю шматлікіх і нахабных у той час валютчыкаў: дагэтуль не дае спакою прымітыўнасьць спосабу, якім мяне хутка і спраўна абдурылі. Ня менш сорамна прыгадваць напышлівыя нэкралёгі, якія пісаў калісьці на замову адной газэткі. Хочацца забыцца і на пэўныя даты: напрыклад, на 14 траўня 1995 года, дзень, калі цёмныя калдыры зноў сьвяткавалі перамогу. Увогуле, добра было б ачысьціць памяць ад усялякае непатрэбшчыны і сьмецьця: вось, скажам, я ведаю на памяць такія радкі:

«Фантазёр» – ты меня называла,
«Фантазёр, мы с тобою не пара!»
Ты умна, ты прекрасна, как фея,
Ну а я – я люблю всё сільнее».

Чаму, навошта я памятаю гэтую невядома калі пачутую па радыё кантату? Дзеля чаго? Мяне ніколі не цікавіла эстрада: ні жывая, ні мёртвая, ні пад фанаграму, ні пад этна-соўсам. Але калі пабудзіць мяне ўначы і прамовіць: «Фантазёр», мая рэакцыя будзе імгненнай: «Ты меня называла», – скажу я не задумваючыся. Больш за тое, я памятаю матыў гэтай цудоўнай песьні і нават імя сьпевака магу назваць: Яраслаў фон Еўдакімаў. Дзе ён, што ён, чыіх ён, адкуль ён узяўся ў маім жыцьці? На што намякае памяць, выкідваючы такія штукі?

На мой погляд, самае ўдалае параўнаньне для памяці знайшоў Гюнтэр Грас: ён уявіў памяць як цыбуліну, зь якой паволі здымаюць слой за слоем, агаляючы сваё мінулае – і пры гэтым плачуць. Зьвярнуўшыся да пражытых гадоў, герой ягонай аўтабіяграфічнай кнігі «Цыбуліна памяці» знаходзіць процьму ўласных фон еўдакімавых, і кожны зь іх каштоўны і важны – праўда, ён часам сумняваецца, ці існавалі яны насамрэч.

Памяць незалежная і свавольная, ёй не заўсёды варта верыць: выдаць Тарквата Таса за Цінта Браса ёй раз плюнуць. Нядаўна ў адным блогу пра мяне напісалі, што я маю чорныя, як смоль, валасы (насамрэч я ўжо напалову сівы і ніколі ня быў брунэтам). Чалавек, які пісаў гэта, бачыў мяне зблізку – і тым ня менш... Мы можам натрэніраваць памяць, але выдрэсіраваць яе, навучыць выконваць кожны загад – не. Памяць мае дзіўную звычку захоўваць дэталі і пагарджаць маштабам. Памяць здраджвае лёгка, як камандзіровачны, бо жыве паводле сваіх законаў. Памяць любіць складаць легенды; наша памяць сьляпая, як Гамэр, і балбатлівая, як састарэлы Адысэй.



У цяперашніх людзей, калі параўнаць іх з тымі, хто жыў у часы антычнасьці, памяць даволі слабая, бо незапатрабаваная.

Капусьцінскі пісаў пра часы Герадота: «Чалавек ведаў столькі і выключна столькі, колькі магла захоўваць ягоная памяць». Памяць, па вялікім рахунку, павінна адчуваць сябе пакрыўджанай у нашую эпоху, бо яе мала выгульваюць. Сучасны чалавек ня любіць запамінаць, у яго пад рукой бібліятэка і інтэрнэт, ён «жыве ў атачэньні раскладзенай па палічках памяці» (Капусьцінскі). Заняпад пачаўся ўжо ў часы Гутэнбэрга і Скарыны і цяпер дасягнуў свайго апагею. Нічога ня маю супраць прагрэсу, але шкада яе, старой добрай чалавечай памяці – як бывае нясьцерпна шкада нямецкай маркі ці славенскага толара, што адышлі ў нябыт.

Яе можна і трэба разьвіваць і адраджаць, нашую здольнасьць да запамінаньня. Некаторыя напаўмэдычныя сайты прапануюць такое нескладанае практыкаваньне: штодня на працягу трыццаці сэкундаў вадзіць вачамі ўлева-ўправа: кажуць, пасьля такой трэніроўкі памяць паляпшаецца на 10 адсоткаў. Можа, таму ў юнацтве я меў выдатную памяць – бо толькі тым і займаўся, што чытаў, чытаў усё на сьвеце, а што ёсьць чы-

таньне, калі не ваджэньне зрэнкамі туды-сюды. Я і цяпер кніжны чарвяк, але ўзрост, алькаголь, тытунь і крывавы рэжым робяць сваю чорную справу, і я ўжо не магу паўтарыць на памяць васьмістрофны верш, толькі раз яго прачытаўшы. Цяпер кожнае дзіця абыграе мяне ў мэма. Каб палепшыць памяць, трэба есьці больш жалеза. Зрэшты, можна і паберагчы зубы: часам памяці дастаткова і піроўных з гарбатай – як гэта апісана ў знакамітым рамане Пруста.

Яшчэ адзін вядомы сродак разьвіваць памяць – вучыць замежныя мовы. Праўда, паводле спэцыялістаў, найлепшы ўзрост для гэтага – да дзесяці гадоў. У шэсьцьдзесят мову ня вывучыш, але прымусіць сваю памяць папыхцець можна, ёй гэта карысна.

Самую незвычайную памяць маюць эйдэтыкі, людзі з фатаграфічнай памяцьцю. Гэты фэномэн быў адкрыты сто гадоў таму. Эйдэтыкам дастаткова адзін раз прачытаць нешта, каб потым пры жаданьні аднавіць прачытанае ў любы час зь неверагоднай дакладнасьцю. Паводле дасьледчыка Кох-Гілебрэхта, такім быў Гітлер: фюрэр часта зьдзіўляў сваёй памяцьцю падначаленых, якія называлі яго геніем. Для самавукаў (да якіх належаў і Гітлер) эйдэтычныя здольнасьці – сапраўдны падарунак; нават маючы інтэлект ніжэйшы за сярэдні, яны робяць ураджаньне бліскуча адукаваных людзей.

Запомніць можна ўсё – іншая справа, як хутка гэта забудзецца, ці, інакш кажучы, як хутка гэтае ўсё выправіцца ў бяздонны трум нашае сьвядомасьці, дзе застанецца да лепшых часоў. Памяць любіць, калі ёй даюць працу. Нямецкі псыхоляг Эбінгаўз дасьледаваў здольнасьці памяці на сабе. Ён прымушаў сябе запамінаць дзясяткі і сотні бессэнсоўных кароткіх складоў і высьветліў, што спачатку яны запамінаюцца вельмі марудна, але чым даўжэй займаешся тупым паўтарэньнем, тым эфэктыўней працуе памяць. Так Эбінгаўз навукова даказаў неабходнасьць таго, што называюць «зуброжка». Даволі часта даводзіцца чытаць мэмуары людзей XIX стагодзьдзя, якія вучылі ў гімназіях лаціну – бальшыня зь іх, скончыўшы вучобу, ніколі больш не карысталася гэтай настолькі ж велічнай, наколькі і мёртвай мовай, і тым ня менш яны да самага скону памяталі, як спрагаюцца лацінскія дзеясловы.

Напэўна, уменьне забываць – усё ж ня менш важнае за ўменьне памятаць. Забываньне выклікаецца інстынктам самазахаваньня. Калі б ня здольнасьць забываць, людзі даўно б перарэзалі адно аднога. Бо памяць захоўвае крыўды, жывіць прагу помсты, добрая, учэпістая памяць – прычына вэндэтаў, памяць не дае скончыцца войнам. Не памяць, а своечасовае забыццё, забываньне ратуе народы, краіны, чалавецтва. Нічога добрага няма там, дзе «нішто не забыта, ніхто не забыты» – гэты лёзунг, які палохае дзяцей і нямецкіх турыстаў, сваё адавочна аджыў. У фразе, якая пачынаецца са словаў «мы не забудзем» заўжды чуецца нешта пагрозьлівае. Усё адно «всё умчится как дым без тревог і потерь», сьпяваў Яраслаў фон Еўдакімаў, а яму можна верыць.

.37.



# Пранцы

Эўропа – Сьвет, які састарыўся літаральна за адзін дзень. 15 сакавіка 1493 году Хрыстафор Калюмб з трыюмфам вяртаецца ў Гішпанію. Будучы Адмірал Усіх Акіянаў, у сапраўднасьці больш падобны да Жэрара Дэпардзьё, чым да Джоні Дэпа, прыплыў назад на «Ніны», найменшай са сваіх каравэлаў – «Санта Марыя» разьбілася недзе каля Кубы. Трохі пазьней прычальвае і «Пінта», трэці карабель з тых, на якіх Калюмб выправіўся за паўгода да таго шукаць Індыю. На парэпаных бартах «Ніны» і «Пінты» здабыча: трохі золата – так, пух нязлоўленага пакуль Залатога Цяльца, хутчэй намёк на заможную будучыню, чым яе прадвесьце; а яшчэ ніколі ня бачаныя раней расьліны, фрукты, пер’е казачных птушак… Тут жа, убаку, некалькі індзейцаў – усё такое жывое, нетутэйшае, усе хочуць, зірнуць, дакрануцца, панюхаць… Ці, прынамсі, дакрануцца да тых, хто панюхаў…

Ніхто не здагадваецца, што на Калюмбавых каравэлах Атлянтычны акіян з захаду на ўсход бязь візы і квітка перасекла яшчэ як мінімум адна жывая істота. Анаэробнай, ананімнай і цалкам флегматычнай па сваім характары, ёй было напляваць на пасаты, палітыку, геаграфію і Кастылію разам з Арагонам. У Старым сьвеце яна атрымае амаль каралеўскае імя: Трэпанэма Бледная. Менавіта яна, а дакладней, адзін зь яе падвідаў, будзе адкрытая празь чатыры стагодзьдзі як узбуджальнік сыфілісу, які беларусы, усьлед за немцамі і палякамі, у свой час даволі непаліткарэктна назвалі «пранцамі», францускай хваробай. Хваробай, безь якой неўзабаве цяжка будзе ўявіць сабе чалавецтва ў ягоную вольную хвілінку: у акопе, на прывале, за мальбэртам ці ў нумарох.

Як гэта водзіцца ў высокіх асобаў, пяршынства амэрыканскай бледнай трэпанэмы ў асваеньні Эўропы будзе потым аспрэчвацца. Маўляў, пранцы пранікла ў Эўропу з Афрыкі і значна раней за Калюмбавы адкрыцьці. Аднак у выніку амэрыканскае паходжаньне пранцаў будзе даказанае: акурат тады, калі пранцы зьбяруцца занесьці ў Чырвоную Кнігу вэнэрычных хваробаў. Бо каб захварэць на іх сёньня, трэба вельмі пастарацца. І эўрапейцы стараюцца. Шляхоў для ахвочых заразіцца ня так ужо шмат. Стаць францускім жаўнерам, падданым Шарля XIII, ля муроў Нэапалю, або, калі не атрымліваецца, наркаманамфілянтропам. Прынцыпова чысьціць зубы чужой зубной шчоткай. Беззапаветна, як сваю Радзіму,



любіць аральны сэкс зь незнаёмымі ў грамадзкіх прыбіральнях. Па-эстэцку ненавідзець прэзэрватывы. Удала пераспаць з настаўніцай францускай мовы. Нарадзіцца ў сям'і сыфілітыкаў. Карацей, зрабіць Учынак, парушыўшы абрыдлыя законы большасьці, быць адметнай асобай, геніем сярод шэрай масы, які шукае Індыю там, дзе для іншых адна суцэльная Амэрыка.

Узровень захворваньня на сыфіліс застаецца стабільны нават у разьвітых краінах. Мо таму, што чалавецтва ўступіла нарэшце ў эпоху Водніка (па-нямецку – Васэрмана)? Полавы шлях, што ні кажы – усё ж значна карацейшы за, напрыклад, Шаўковы, за Шлях у Індыю і за шлях З варагаў у Грэкі. І паколькі геніталіі ў нас пераважна нібыта дагэтуль табу: што ў жыцьці, што ў літаратуры, то пранцы карыстаюцца гэтым, як фальшывым алібі.

Як і большасьць вэнэрычных хваробаў, пранцы на пачатковай стадыі сапраўды цяжка выкрыць. Добры сыфіліс можа гадамі спакойна жыць у арганізьме, не выдаючы сябе, нелегальнасьць забясьпечваецца маскіроўкай сымптомаў. Маякоўскі ў 20-х гадах напісаў у вершы пад назваю «Сыфіліс»: «Под шелком кальсон, под батістомліно поді разберi болезнь…» І праўда, пакуль не пачалі гніць косткі, разабраць нешта цяжка. Ня кожнаму залезеш «пад батыст» бясплатна. На шчасьце, бледнай трэпанэме хутка надакучваюць зімовыя забавы на сьлізістай, ёй хочацца наверх, да сонца, да зораў. Але і тут яе часта прымаюць

за кагосьці іншага: што паробіш, пранцы – гэта таксама тое, што бывае толькі зь іншымі.

Наогул, пранцы – выдатная мэтафара для ганьбы, якую спрабуюць схаваць, бо непрыемна шукаць першапрычыну, дый патрэбы не адчуваюць у раскаяньні; а яшчэ – для пагрозы, якую не заўважаюць, ня хочуць заўважаць. Раскаяньне тут – лячэньне, пагроза тут – гніеньне зажыва. Прыгадаем апавяданьне Булгакава «Зорная сып»: «Кепска лечыць, малады яшчэ…» – кажа пацыент з пранцамі пра доктара, які тыя пранцы (як тады казалі дактары, люэс) дыягнаставаў. – «У мяне глотка баліць, а ён усё глядзіць, глядзіць: то грудзі, то жывот…» Нешта гэтыя нараканьні нагадваюць: «Што яны нас усё на Захадзе лечаць, дактары знайшліся: дэмакратыі ім у нас не хапае, свабоды... Мы ім пра эканоміку, пра супрацоўніцтва, падтрымкі просім, гандляваць хочам, мы заслон для нелегальных мігрантаў ставім, мы незалежная, халера іх бяры, дзяржава, а яны нас вучыць надумалі, санкцыі нейкія прапісваюць: тое ім ня так, ды гэта наўскасяк! На сябе б спачатку паглядзелі!» Ці ж гэта не маналёг сьмяротна хворага, прагнілага да костак пацыента, які прыйшоў да доктара глотку палячыць, а яму – пра нейкі там сыфіліс. Ды які сыфіліс, кагда ў нас усё нармальна і ўсе давольны? Дай пігулку ад кашлю і я дамоў пайду, да родных ніў, дзе парадачак ідзець. Ты ня станеш душыць нас, Вэнэра Менская, бо твае рукі адсечаныя – ты будзеш кахаць нас.

У сумленьня ня можа быць аблічча фотамадэлі, яно хутчэй падобнае да сыфілітыка пры сьмерці.



Прызнацца ў тым, што ты хворы на вэнэрычную хваробу – насамрэч ня акт грамадзянскай мужнасьці, не добраахвотны вычын, а грамадзянскі доўг. Бо хвароба інфэкцыйная, а значыць, прыватнай справай быць ня можа. Там, дзе пачынаецца вэнэрычнае захворваньне, у пэўнай меры канчаюцца правы чалавека: можа, таму да тых, хто падчапіў нешта вэнэрычнае, у грамадзтве ставяцца так пагардліва. Той жа, хто адмаўляецца лячыцца і працягвае як ні ў чым нічога жыць з хваробай, пачынае супраць грамадзтва вайну і становіцца яго лятэнтным ворагам. Рэмбо, ня толькі скандальны геніяльны паэт, але і адзін з самых вядомых нонканфармістаў XIX стагодзьдзя, паводле адной з вэрсій, зусім не лячыў свой сыфіліс, ад чаго і памёр. Трэпанэма зь яе дэкадэнцкай бледнасьцю зьяўляецца там, дзе яе клічуць – калі ня вершамі, то ператварэньнем жыцьця ў верш. Графаманскі ці не – пытаньне іншае. Бо творчасьць прадугледжвае руйнаваньне бар'ераў, а за гэта трэба плаціць – у тым ліку ўласным целам.

Нездарма пранцы заўжды там, дзе зброя: вайна заўжды становіцца сурагатам сэксу і сэксуальныя інстынкты вылазяць празь не прызначаную для іх шчыліну, а сам сэкс абарочваецца пранцамі. Прастытуцыя, згвалтаваньні, антысанітарыя, брудная цёплая цесната, салдацкія пабыўкі з шанкрамі ў выглядзе прывезенага дадому трафэя – ад часоў Італійскіх войнаў, калі сярод



французскіх салдатаў была зафіксаваная першая дакладна вядомая эпідэмія сыфілісу, да савецкага вызваленьня Нямеччыны і далей да нашых дзён пранцы заўжды там, дзе ліецца кроў і засунутыя пад каску і ўніформу гармоны не знаходзяць сабе выхаду. Пранцы – самі па сабе зброя, біялягічная зброя, бо імі можна заразіць непрыяцеля. Напрыклад, у кароткай навэле Мапасана «Ложак №29» пранцы – пэрсанаж ня толькі прыватнай любоўнай гісторыі, але і тэатру ваенных дзеяньняў. Але ці ёсьць заражэньне непрыяцеля пранцамі таксама грамадзянскім доўгам? Эпоха Вялікіх Геаграфічных адкрыцьцяў і крывавай канкісты скончылася; калі цывілізацыя зьнікне, застануцца толькі бог і мікраарганізмы: мікробы, бактэрыі, вірусы. Ім і вырашаць.

Гадоў пяць таму я апублікаваў у часопісе «Дзеяслоў» аповесьць «Пасьля фэервэрку» – 



дзякуючы таму, што першы разьдзел я наўмысна зрабіў абсалютна нечытэльным (разьлік быў такі: хто адолее гэты мур, зможа потым, прачытаўшы тэкст да канца, разабраць яго на цаглінкі), з аповесьцю мала хто азнаёміўся. Галоўны герой мае на скуры ў небясьпечнай блізкасьці ад полавых органаў нешта вэнэрычнае, два загадкавыя шарыкі – і хавае гэта, жыве з гэтым, стварае сям’ю… Ён нават дае імёны сваім шанкрам: Фобас і Дэймас (часам – Купала і Колас, Сака і Ванцэці, Бівіс і Батхед, але гэта ўжо неістотна). Ён вядзе таемную вайну супраць грамадзтва, ігнараваньне сваёй хваробы – яго пазыцыя, яго філязофія.

Кажуць, злачынца заўжды вяртаецца на месца свайго злачынства. Для героя «Пасьля фэервэрку» ягоная вэнэрычная хвароба – гэта месца злачынства, якое ён заўсёды носіць з сабой. Дый ня толькі для яго. Насамрэч, цяжкая загадка для сьледчага.





# Прафэсійныя хваробы

Мая бабуля трыццаць пяць гадоў адпрацавала на адным зь менскіх заводаў, на самай шкоднай вытворчасьці, у ліцейцы. Калі бабулю праводзілі на пэнсію, завод падарыў ёй вялікі мэханічны насьценны гадзіньнік, з глухім урачыстым боем і зь меднай пласьцінай, на якой была выгравіравана назва цэху. Бабуля паважала гэты гадзіньнік, рэгулярна заводзіла яго адмысловым ключом, сачыла за тым, каб ён не спыняўся. Часам я, вяртаючыся ўначы з Уручча ці Зялёнага Лугу пехатою ў свой мікраараён, заходзіў да бабулі, яна сьцяліла мне на ложку пад гэтым самым гадзіньнікам.

«Гадзіньнік б’е. Усіх», – так гучыць адзін з афарызмаў Станіслава Ежы Леца. Завод значна скараціў бабуліна жыцьцё, яна ўжо нябожчыца. На заводзе пра яе ніхто ня памятае. Ліцейны цэх сьмярдзіць, як і ў часы бабулінай маладосьці, ён сьмярдзіць, бы крэматорый, ён сьмярдзіць дзеля нацыянальнае эканомікі, так пахнуць мары

людзей, якія ня ведаюць, для чаго яны жывуць, ён сьмярдзіць прывабна і густа, ніхто з тых, хто працуе там, не пражыве надта доўга.

Учорашні школьнік абірае сабе будучую прафэсію – радасны, хвалюючы, адказны момант, проста нейкая канфірмацыя. Тата адкаркоўвае шампанскае, мама нясе з кухні сьвіныя катлеты, зайздросьліва вызірае зь перадпакоя падобная на вадзяніка-транссэксуала малодшая сястра-васьміклясьніца. Ніхто не задумваецца пра тое, што аднагачасова малады чалавек за сталом абірае, ад чаго памрэ. Натуральна, усяго не прадвызначыш, часам на галаву падаюць цагліны лёсу, але шлях на працу не абавязкова ідзе праз будоўлю. Чалавек – сам гаспадар сваёй долі, яму і толькі яму выбіраць, якія канкрэтна прафэсійныя хваробы заўчасна зьвядуць яго ў магілу. Хочаш, пагадаю? – кажа яму навюткая працоўная кніжка, калі яны нарэшце застаюцца сам-насам. Хачу.

Бясьпечных прафэсій няма. Д’ябальская заканамернасьць, перад якой бясьсільны нават прафсаюз: чым больш плённа працуеш, тым хутчэй разьвіваюцца твае прафэсійныя хваробы. Чым лепш супрацьстаіш гэтым хваробам, тым горшы ты працаўнік. Ні правільная арганізацыя працы, ні тэхніка бясьпекі тут не дапамогуць – паводле маіх назіраньняў, тыя, хто займаецца такімі мэтафізычнымі пытаньнямі, як ТБ, у глыбіні душы самыя перакананыя фаталісты (бог даў, бог і ўзяў, любяць казаць яны, праводзячы свой інструктаж). Добра, калі праца прыносіць табе хаця б нейкую радасьць, тады можна даволі доўга трымацца на плыву, балянсуючы і нават зрэдку ўсьміхаючыся ў які-небудзь ня надта патрабавальны аб’ектыў. Але я ведаю, што мільёны людзей ненавідзяць сваю працу. Чужыя, ня ім прызначаныя прафэсійныя хваробы забіваюць іх. Затое грошы, затое стабільнасьць і пэрспэктывы росту, скажуць яны – ці ня гэта найважнейшае? Грошы на лекі, стабільнасьць хранічнай хваробы, пэрспэктывы росту канфармізму, мэтастазы глябальнага расчараваньня – вось у што ператвараецца гэты цудоўны сынанімічны рад, варта атрымаць першае павышэньне.



Добра, калі разам з прафэсійнымі хваробамі, трынаццатай зарплатай і штогадовым адпачынкам чалавек атрымлівае яшчэ і ідэю. Ідэя – гэта такі эрзац радасьці. Калі ж няма ні ідэі, ні радасьці, прафэсійныя хваробы – адзінае, што застаецца. Людзі зь ліцэйкі, напрыклад, цяпер ужо нічога не разумеюць. Іхным дзядам казалі, што яны эліта, рабочая кляса. Іхным бацькам – што яны будуць жыць пры камунізьме. Рамантыка, гарачы мэтал!.. Цяпер ім ужо нічога не гавораць. У сквэрыку каля прахадной паўстагодзьдзя таму піла гарэлку і сцала пад клёнамі эліта, трыццаць гадоў таму пад тымі ж клёнамі пілі і сцалі прадстаўнікі самага прагрэсіўнага на сьвеце грамадзтва, цяпер там п’юць і сцуць звычайныя пацыенты заводзкай палікнікі. Тыя самыя клёны, той самы сквэрык з аблупленымі лавачкамі, тая самая гарэлка, тая самая мача, тыя самыя хваробы…

Улічваючы рабочую дынастычнасьць, якая склалася за столькі год на буйных прадпрыемс-

твах, хваробы ўжо, відавочна, ня тыя самыя. З проста прафэсійных хваробаў яны ператварыліся ў спадчынныя прафэсійныя хваробы. Магчыма, і ў ва мне дзякуючы бабулі дрэмле тая ліцейка, чакае свайго моманту. Ці ўжо дачакалася. Прафэсійная хвароба, якой я не выбіраў.

Прывіды прафэсійных хваробаў з самага нараджэньня віхурацца вакол кожнага з нас, бо прафарыентацыя хвалюе бацькоў больш за здароўе. Кажуць, у маленстве я хацеў стаць кіроўцам машыны, якая зьбірала сьмецьце. Так яна мяне ўразіла, тая машына. Ня ведаю, што за хваробы чакалі б мяне, калі б гэтая мара зьдзейсьнілася. У кожным разе, гэта быў не найгоршы варыянт.

«Мой мілы таварыш, мой лётчык, вазьмі ты з сабою мяне бамбіць мірных жыхароў панскай Польшчы згодна з пактам Молатава-Рыбэнтропа», – пісаў калісьці Купала. Ці хацеў я стаць лётчыкам? А касманаўтам? Не, як ні ўпрошвалі мяне сівыя генэралы. Так што дэкампрэсійная хвароба мяне абмінула. Памятаю, што марыў пра кар’еру футбаліста. Мэніскі, разрывы, пераломы, заштатны клюб другой лігі і раньняя інваліднасьць. Потым – нікому не патрэбны. У шаснаццаць вырашыў, што буду рок-музыкантам, і нават паспрабаваў. Рок-музыкант мусіць памерці маладым, ад наркотыкаў, і бабкі ля пад’езду павінны сказаць: «Так яму і трэба, фашысту», а дзяўчынкі мусяць плакаць і ведаць на памяць словы ненапісаных песьняў. Я працаваў настаўнікам (пэдафілія і пэдафобія, хранічныя захворваньні горла, маніякальна-дэпрэсіўны псыхоз, Эдыпаў комплекс) і журналістам (клептаманія, прастытуцыя, алькагалізм, манія перасьледу, дэпрэсія, мізантропія, шызафрэнія, дэбілізм, графаманія). Але ўжо ў шаснаццаць год я ведаў, што стану пісьменьнікам.



У адным са сваіх інтэрвію дзевяностых гадоў вялікі і жахлівы Ганс Магнус Энцэнсбэргер сказаў: «У пісьменьніка дзьве прафэсійныя хваробы – манія велічы і нарцысізм».

Сказаў як зьвязаў. Сапраўды, п’янства, наркаманія, бясконцыя дэпрэсіі, схільнасьць да суіцыду, блізарукасьць, крывая сьпіна, падвышаны ціск, бяссоньніца, падазронасьць, болі ў сэрцы, раптоўны славесны панос і такі ж нечаканы славесны запор, жарсьць бадзяцца па сьвеце, раньняя старасьць – усе гэтыя праблемы са здароўем, якія ўласьцівыя пісьменьніку, ёсьць усяго толькі наступствамі дзьвюх галоўных прафэсійных хваробаў, на якія пакутуе чалавек, які наважыўся займацца літаратурай. Дзякуючы ім пісьменьніка як чалавека мала хто любіць.

Манія велічы і нарцысізм. Чаму так? Можа, таму, што кожны аўтар, як Бог, стварае свой уласны сьвет (гэта ня я прыдумаў, а Флябэр). Можа, нарцысізм ідзе ад таго, што кожны мастак страшэнна баіцца прачнуцца некалі і адчуць, што ягоны дар скончыўся, назаўсёды, – і таму трэба не адрываць ад сябе позірку ні на хвіліну, імкнуцца захаваць свой вобраз такім, якім ён ёсьць, пакуль ня позна, пакуль ты яшчэ можаш гаварыць. Магчыма, таму, што ты аддаў сябе ў закладнікі літаратуры – і вырачаны, пра каго б





ні пісаў, якіх бы пэрсанажаў не ажыўляў сваёй сваволяй, бачыць у іх сябе, сябе, любімага, сябе, ненавіснага.

Томас Ман, напрыклад, сьцьвярджаў, што «ўсё, што здаецца добрым і высакародным, узьнікае з высокай ацэнкі чалавекам самога сябе». Пісьменьнік павінен пакутаваць мацней за іншых, бо ў яго танчэйшая скура. Як піша Марсэль Райх-Раніцкі, «Томас Ман прагнуў пахвалы, ён залежаў ад прызнаньня. Ён нічога не хацеў ведаць пра крытычныя водгукі на сваю творчасьць, ягоныя выдаўцы, сакратары і сямейнікі мусілі хаваць ад яго крытычныя артыкулы. Нават нязначную крытыку ён… успрымаў як асабістую абразу». А Марцін Вальзэр неяк заявіў, што правобраз пісьменьніка – эгіпэцкі пастух Псатон, які навучыў птушак услаўляць і апяваць яго.

Літаратура, аднак, адзіны від чалавечае дзейнасьці, дзе наяўнасьць прафэсійных хваробаў – адначасова і неабходная ўмова працы.

Бо толькі так можна зьдзейсьніць чараўніцтва: пакутуючы на манію велічы, дасягнуць велічы маніі.





# Рэанімацыя

Ад Ерусаліму да гарадзкога пасёлка Віфанія, дзе жыве Лазар зь сёстрамі, кілямэтры тры, ня болей. Ісус часта ходзіць да іх у госьці; адна Лазарава сястра, Марыя, штоpазу садзіцца ля ног Ісуса і слухае яго, як загіпнатызаваная, а другая, Марфа, завіхаецца ля печы, носіць госьцю пачастунак і так стамляецца, што неяк наважваецца паскардзіцца Ісусу на лянівую Машу – і атрымлівае ў адказ строгую заўвагу наконт сваёй мітусьлівасьці. І вось неяк Лазар цяжка захварэў. Усе ведаюць, што Ісус, які цяпер блукае *па справах* у ваколіцах сталіцы, здольны дапамагчы хвораму. Ісусу перадаюць сумную вестку, перадаюць з надзеяй – ня толькі як сябру, але і як доктару.

Але Ісус не сьпяшаецца. Гэта ягоны спэктакль; ён тут і сцэнарыст, і рэжысэр, і адначасова выконвае галоўную ролю. Ён ведае, як агаломшыць публіку, ведае, як яе заінтрыгаваць: «Гэта хвароба не на сьмерць», кажа ён; Ісус умее вытрымаць

паўзу, ён дакладна ведае, калі стрэльба павінна стрэліць – з найбольшым эфэктам. Ісус не сьпяшаецца, у яго *справы*. Ужо ведаючы пра хваробу Лазара, ён застаецца яшчэ на два дні там, дзе засьпела яго навіна, і толькі потым, нібы мімаволі, садзіцца на свайго асла і нетаропка едзе ў Віфанію.

Дарога займае яшчэ два дні. Калі ён прыбывае ў Віфанію, Лазар ужо чатыры дні як мёртвы. У поўнай адпаведнасьці са сваім тэмпэрамэнтам Марфа бегае і галосіць, у яе словах да Ісуса чуецца папрок, а Марыя адно плача. Марыі Ісус нічога ня кажа, а Марфе, якая яго відавочна раздражняе, кідае: «Хіба не казаў я табе – будзеш верыць, дык убачыш Славу Божую? Дзе вы яго пахавалі...» Ён загадвае адваліць камень на ўваходзе ў пячору, у якой ляжыць памерлы Лазар. Ісус бачыць тое, чаго ня бачаць іншыя гледачы гэтага рэанімацыйнага спэктаклю – а менавіта маўклівага, лысага чалавека ў зацемненай ложы, які, уласна, і прафінансаваў усю гэтую дзею. Ісус зьвяртаецца да яго з кароткай прамовай і потым кажа Лазару, каб той падымаўся і выходзіў. Ісусу хапае некалькіх словаў, ён добра валодае сваім нягучным голасам і дасягае эфэкту выключна інтанацыяй, ад якой усіх кідае ў халодны пот. Лазар выходзіць, абвіты палатном, ён таксама не сьпяшаецца, фактычна, тут бегае адна Марфа, гэта яна пусьціць пагалоску пра цуд, якая дойдзе ўрэшце да фарысеяў; маўклівы чалавек пакідае цёмную ложу.

Не сьпяшаўся і іншы вядомы рэаніматар, сэр Артур Конан-Дойл. Ён падрыхтаваў быў свайму



сымпатычнаму, але ўжо абрыдламу герою пачэсную, прыгожую сьмерць – у нэўтральнай Швайцарыі, на дне Райхенбаскага вадаспаду, у сьмяротных абдымках з самым небясьпечным злачынцам Брытаніі. Кажуць, сэр Артур не разумеў, чаму ўсе ўспрымаюць яго выключна як аўтара абсалютна несур’ёзных «Нататак пра Шэрлака Голмса» і ніхто ня хоча чытаць ягоных цудоўных тоўстых раманаў. Нібыта таму Голмсу і быў абвешчаны сьмяротны прысуд, які аўтар тэрмінова выканаў – рукамі прафэсара Марыярты, таго самага («У вас не такія разьвітыя лобныя косткі, як я чакаў», кажа неяк прафэсар Голмсу – фраза, якая прыходзіць у галаву кожны раз, калі гартаеш опусы беларускіх літаратурных крытыкаў). Але, здаецца, усё было трохі інакш.

Пахаваўшы Голмса, Конан Дойл наўмысна зачыніўся дома і стаў чакаць, пакуль стосы абураных чытацкіх лістоў з патрабаваньнем зараз жа вярнуць Голмса не загародзяць яму выхад з кабінэту. Вера ў Голмса была агромністай, Конан Дойл атрымліваў капэрты, адрасаваныя наўпрост на Бэйкер-Стрыт 221b, і чаго толькі не было ў тых капэртах – і просьбы аб дапамозе, і аповеды, і крыкі роспачы, і пагрозы распраўіцца з аўтарам, які забіў Такога Чалавека... І толькі тады, калі карэспандэнцыю не было ўжо куды дзяваць, пісьменьнік адсунуў яе, нібы камень, што ляжаў перад уваходам у пячору Лазара, выйшаў з дому і ўласнаручна занёс выдаўцам рукапіс новага апавяданьня …. Голмс выжыў, ён проста схаваўся на ўступе скалы, ён вандраваў па Азіі і лячыў

прастрэлены прыяцелем прафэсара палец, каб потым вярнуцца ў Лёндан і працягваць лавіць зладзееў. Паміж выхадам «Апошняй справы Голмса» і «Пустога дома» прамінула чатыры месяцы. Можна меркаваць, што ўвесь гэты час доктар Ўотсан жыў, як Марфа і Марыя бяз Лазара, ён то папракаў паліцыю, сябе і сьвет, то кідаўся ў містычную веру, спадзеючыся на цудоўнае ўваскрашэньне сябра. У маўклівага чалавека шмат імёнаў і безьліч псэўданімаў, Конан Дойл можа быць адным зь іх, чаму не.

Яркае, арытмічна-вясёлае жыцьцё японца Арытыма Ёрытыка, іншага аўтара крымінальных апаведаў, скончылася, калі ягоны сябра Ясунары Кавабата зьдзейсьніў самагубства, атруціўшыся газам. Арытыма Ёрытыка, які пісаў па васямсот старонак за месяц, а яшчэ трэніраваў бэйсбольную каманду, пакутваў ад бессані і меў таму вялікія праблемы з псыхічным здароўем. Ён пражыў бязь сябра месяц, а потым зрабіў тое самае, што і Кавабата. Зрабіў няўдала. Дарэчы, учынак Ёрытыкі быў не такі ўжо і ерэтычны з пункту погляду ўсходняй рэлігіі, дзе сьмерць ня лічыцца катастрофай, а наадварот – набліжае чалавека да сьвятасьці, таму самагубства вітаецца, праўда, пры ўмове, што ты пасьпеў выканаць неабходнае ў гэтым жыцьці і гатовы да чарговага пераражджэньня. Ня тое што ў хрысьціянстве, дзе самагубства – безумоўны грэх, бо ёсьць замахам на «храм божы».

Тры героі, якім вярнулі жыцьцё, якіх рэ-анімавалі. Што сталася зь імі ўсімі потым? Лазар



пражыў яшчэ трыццаць гадоў – пасьля свайго цудоўнага ажыўленьня ён паехаў у няблізкі сьвет, у Марсэль, разам з Марфаю і Марыяй, і стаў тамака першым біскупам. У канструкцыі «храмаў божых» нездарма закладзеная цудоўная здольнасьць да такіх далёкіх перамяшчэньняў.

Несумненна, Лазарам рухала, апрача веры, яшчэ і ўдзячнасьць, пайсьці пасьля такога ў варту цара Ірада ці ў сьвінапасы ён проста ня меў маральнага права. Ён так і памёр там, сярод паганцаў, хаця наўрад ці яму хацелася такой долі. Напэўна, проста ягоныя трыццаць гадоў былі яшчэ камусьці патрэбныя. (Дзіўна, але па зьвестках маскоўскага патрыярхату, Лазар паехаў усё ж на Кіпр – улюбёнае месца адпачынку існцiннарускiх і праваслаўных.)

Эсквайр Голмс, як вядома, разблытаў пасьля вяртаньня яшчэ не адзін тузін справаў. Потым пасяліўся ў Sussex і, цешачыся success, сваім і Уотсана, заняўся пчолагадоўляй. Праўда, апошнія справы Голмса выдаюць у ім хутчэй палітыка, чым таго высакароднага чыстага філёзафа і лёгіка, якім ён быў раней – да Райхенбаху…

Арытыма Ёрытыка дактары выратавалі. Ён пражыў яшчэ восем гадоў. Пасьля таго, як яго вярнулі на гэты сьвет, ён шмат месяцаў ляжаў у шпіталі, развучыўся гаварыць, чытаць, пісаць, стаў інвалідам. Гэта былі восем гадоў жыцьця (хто яго ведае, які тут паставіць знак прыпынку)

Дзьве другія гісторыі саступаюць першай у велічнасьці, але па сутнасьці яны ўсе аднолькавыя. Наяўнасьць ва ўсіх трох выпадках дэміурга

– бога, аўтара, лекара – мусіла б насьцярожыць бедную прымхлівую душу. Чалавек – фаталіст, ён верыць у непазьбежнасьць лёсу – і тут высьвятляецца, што і непазьбежнасьць – фікцыя, усё складаней, і лёс – гэта зусім ня тое, чым ён нам здаваўся, і пакарыцца яму нам ніхто ня дасьць. І тады пачынае перасьледаваць адчуваньне, што лёсы пішуцца адначасова ў дзьвюх канцылярыях, і невядома, чый пісар хутчэй шчоўкае клявішамі – а таму няма сэнсу быць фаталістам.

Рымляне верылі, што лёс чалавечы прадуць адмысловыя багіні, паркі (ці мойры, па-грэцку). Дзьве прадуць, а трэцяя, Морта, пераразае нітку... Любая пасьпяховая спроба рэанімаваць жывы арганізм ператварае магутных, усеўладных і капрызных паркаў у такіх сабе бяспраўных ткачых з Банглядэш – або са Слуцку. Яны бы і рады ткаць па-свойму, але верагоднасьць рэанімацыі прымушае іх ткаць на чужы, «пэрсыдзкі» лад.

Заблытаныя ніткі паркаў даюць некаторым надзею. А іншым – сродкі для існаваньня. Вядома, што чалавек, які верыць адначасова суседзям, папу, бабцы-экстрасэнсу і прэзыдэнту, які чакае другога прышэсьця гэтаксама моцна, як і трынаццатай зарплаты, ахвотна пойдзе за любым прайдзісьветам. Асабліва калі гэты прайдзісьвет абяцае ратунак. Расеец Грабавой, прафэсійны Хрыстос, напрыклад, дакладна ведае, у колькі Ісусу абышлася апэрацыя ў Віфаніі. За такую самую, і ні капейкі больш, суму ён неяк прапанаваў бацькам загінулых падчас тэракту ў Беслане ажывіць іхных дзяцей – 39 тысяч 500 расейскіх



рублёў. Арыштаваны за ашуканства, ён, відаць, адчуваў сябе на сваім месцы – сярод фарысэяў, і мармытаў пад нос Пастэрнака...

Некалі даводзілася адказваць на дурное пытаньне: каго з памерлых ты ажывіў бы, калі б меў гэткую магчымасьць? Нікога, быў адказ, нікога. Навошта іх клікаць назад зь нябёсаў. А ў якога будыста ці індуіста такое пытаньне выклікала б калі ня гнеў, дык поўнае недаўменьне: нашто ж так па-садысцку мучыць тых шчасьліўцаў, хто прайшоў праз кола самсары і даўно дасягнуў Вялікай Пустэчы.

Чалавек чамусьці думае, што ведае максымальную колькасьць часу, якая яму адпушчаная. І свайго, законнага (як яму здаецца) ён аддаваць не зьбіраецца. Заўжды крыўдна атрымаць менш за астатніх, і таму чалавек прыдумаў выслоўе «заўчасная сьмерць», хаця ніякай заўчаснай сьмерці няма, у адрозьненьне ад заўчаснага жыцьця, калі нехта нараджаецца ня ў свой час, не ў сваю эпоху і потым пачуваецца там няўтульна і надрыўна кашляе ў яе цёмных чужых калідорах. Рэанімацыя спрабуе апраўдаць панятак заўчаснасьці, рэанімацыя за ногі цягне да фінішу ўжо мёртвага – паводле задумы – бегуна. І зьбітыя з тропу паркі прадуць усё хутчэй, і Морта не пасьпявае перарэзваць ніці...






# Рэнтген

Адно з найвялікшых, найпякучых жаданьняў падлетка – гэта… Ня ведаю, як цяпер, у блаславёную эпоху гламуру, спажываньня і высокіх тэхналёгіяў, а гадоў дваццаць таму ў Савецкім Саюзе такім, бясспрэчна, было жаданьне пабачыць голую жанчыну. Ці хаця б кавалачак голай жанчыны, як каму пашанцуе. Дзеля гэтага поўзалі пад стол да настаўніцы, пракалупвалі дзіркі ў сьценах разьдзявальні, аддавалі апошнія кішэнныя грошы за калоду зашмальцаваных парнаграфічных картаў. Пра гэта сьнілі найсаладзейшыя сны, пра гэта марылі дваццаць чатыры гадзіны на содні. Даходзіла да сапраўднага вар’яцтва. Напрыклад, па адной школе пайшлі чуткі, што нехта А. мае пры сабе цудоўную стужку, якую ён скраў у бацькоў: паглядзіш праз такую на чалавека – і бачыш яго цалкам аголеным. Ніхто чамусьці не сумняваўся, што стужка гэтая японскай вытворчасьці. Бацькі ў А. былі багатыя, маглі

сабе і не такое дазволіць. Рэйтынг дагэтуль нічым не прыкметнага прышчавага, нязграбнага троечніка з мутнымі вачыма і жабіным ротам адразу ж сягнуў неверагодных вышыняў і некалькі дзён зашкальваў. Уся мужчынская палова школы хацела сябраваць з А. «Нячаева! А я ведаю, якога колеру твае майткі!» – казаў, крыўляючыся, А., і хлопцы глядзелі яму ў жабін рот, нібы гэта быў рот прарока. Дзяўчаты вішчалі, хаваліся ў прыбіральнях і потым з жахам вызіралі адтуль: А. стаяў у цёмным куце калідора і са злавеснай, саладжавай усьмешкай разглядваў праз сваю чорную, цэлюлёідную японскую стужку маладых настаўніц, якія, нічога не падазраючы, цокалі сабе на высокіх абцасах з клясы ў клясу.

Гэтая гісторыя, вядома ж, ня ёсьць нейкай унікальнай. Такога кшталту стужкі, а таксама шкельцы, акуляры, трубкі, плыткі зьяўляліся ў розных савецкіх школах, дадаючы трохі перцу ў прэсны школьны пубэртэт . «Ваенрукі» і «трудавікі», здавалася, верылі ў гэтыя артэфакты ня менш за дзяцей і тлумачылі, што такія штукі скідвае на нашую тэрыторыю ЦРУ, каб падарваць абарончую моц Савецкай краіны. З пэдагогамі цяжка было не пагадзіцца – натуральна, самыя вялікія вайсковыя сакрэты Саветаў хаваліся ў майтках і станіках маладых школьных настаўніц.

Сто пяцьдзесят гадоў таму ў школах таксама забаўляліся, але больш высакародным чынам. У 1863 годзе навучэнцы і настаўнікі тэхнічнай школы нідэрляндзкага горада Утрэхту аднойчы пабачылі на адной са сьценаў гэтай установы паmайстэрску выкананую, зьедлівую карыкатуру на аднаго з найпаважанейшых выкладчыкаў. Сьледзтва хутка прыйшло да высновы, што толькі адзін з навучэнцаў, немец, мог намаляваць яе ці прынамсі мець інфармацыю пра тое, хто аўтар. Звалі навучэнца Вільгельм Ронтген. Сваё аўтарства ён упарта адмаўляў, а ўказаць на злачынцу адмовіўся. За гэта будучага першага Нобэлеўскага ляўрэата па фізыцы і прафэсара Вюрцбурскага і Мюнхенскага ўнівэрсытэтаў выгналі з той тэхнічнай школы. Ды яшчэ, відаць, прарочылі яму: «Будзеш, немец, усё жыцьцё бутэлькі зьбіраць!» Вільгельм нічога не адказваў, а толькі думаў пра сябе: «Нічога, вось падрасту яшчэ трохі, пасяджу ў бібліятэках, адкрыю такія ікс-промні, з дапамогай якіх можна вас усіх голымі ўбачыць. Гэта вам будзе ня нейкая там карыкатура. Вярнуся тады ў Утрэхт, паглядзім, хто з нас геній!»



Жаданьне Вільгельма спраўдзілася толькі напалову. Ён сапраўды адкрыў тое выпраменьваньне, але паказвала яно толькі косткі чалавека. Тым ня менш зьбіраць пустыя бутэлькі ў партах Амстэрдаму і Гамбургу Ронтгену не давялося. Ён цалкам мог дазволіць сабе шампанскае.

Ронтген зрабіў рэвалюцыю ў навуцы. Ягонае адкрыцьцё стала адным з тых крокаў па-за дазволеныя Богам і прыродай межы, зрабіць якія марацць самыя адчайныя прадстаўнікі неўтаймоўнага чалавечага роду. Практычнае значэньне агромністае, а вось што да іншага… Як і кожны такі ўжо зьдзейсьнены крок, ён пакідае ў выніку прысмак лёгкага расчараваньня. Нібы ў вершы

пра экспэдыцыю Скота ў Антарктыду: «Калюмб адкрыў цудоўныя краіны, а мы пакутавалі дзеля адных бясплодных пустэльняў…» Людзі мараць пра цуд – а ў выніку проста атрымліваюць магчымасьць бачыць больш, чым маглі раней. Цуды існуюць да таго часу, пакуль іх не адкрылі. А калі іх адкрываюць, нешта незваротна губляецца. Японская стужка школы майго дзяцінства застаецца цудам і абуджае фантазію, дражніць уяўленьне, а рэнтген, мала таго, што ня вельмі адчувальны да тканак і сухажыльляў – таго, без чаго шкілет ня больш чым выкшталцоная сыстэма мёртвых костак, дык яшчэ і адносна шкодны для арганізму. Нават для менскіх бабулек, якія горда распавядаюць усім, што іх адправілі на «рамген», гэта ўжо ніякае ня дзіва, і яны лаюцца, калі аднаго рамгену доктару не дастаткова.

На рэнтгенаўскім здымку чалавек выглядае максымальна нэўтральна і усярэднена, ён не выклікае пачуцьцяў, ён – нібы проста адна з шматлікіх копіяў даўно страчанага арыгіналу. Яго індывідуальнасьць амаль сьцёртая, ён пазбаўлены сэксуальнасьці. Толькі зацяты вычварэнец можа ўзбудзіцца ад выгляду рэнтгенаўскага здымка. Калі б выбарцы мелі ў сваім распараджэньні толькі рэнтгенаўскія здымкі кандыдатаў у прэзыдэнты, яны б апынуліся ў вельмі цяжкім становішчы і іхная краіна несумненна засталася б бязь лідэра. Шкада: здаецца, ніхто ня робіць групавых рэнтгенаўскіх фота, цікава было б паназіраць, ці змагаюцца нашыя шкілеты за тое, каб лепш выглядаць на іх, ці штурхаюцца ўпотай, каб



апынуцца на пярэднім пляне, ці ёсьць у іх тое, што называюць фотагенічнасьцю.

Затое рэнтген можа гучаць. Кажуць, у таталітарныя часы на рэнтгенаўскія здымкі запісвалі паўзабароненую заходнюю музыку – Вільгельм Ронтген дужа зьдзівіўся б, калі б пра такое ўведаў.

Дзякуючы кінакроніцы мінулае часта ўспрымаецца намі чорна-белым. З рэнтгенам прыкладна тое самае: першае, што прыходзіць да галавы, калі думаеш, як яны жывуць там, твае органы – рэнтгенаўская фатаграфічная цемра, у якой сьвецяцца матавым сьвятлом косткі, нібы шчыльныя сузор'і ў начным небе. Тое, што насамрэч рухае намі, застаецца па-за кадрам.

Часам мы кажам пра «рэнтгенаўскі зрок» – калі хочам падкрэсьліць чыюсьці назіральнасьць, розум, здольнасьць пранікаць у самую сутнасьць рэчаў. Рэнтгенаўскі зрок не даецца ад нараджэньня, яго трэба разьвіваць – разьвіваць, калі хочаш зрабіць той самы крок па-за. Калі ж адваротны бок чалавека не цікавіць, можна задаволіцца наіўнай верай сваім вачам, часам і яны бачаць прыемныя рэчы – ну хаця б голых кабет на каляровым глянцы якога-небудзь часопіса.






# Скура

Свой першы ордэн я атрымаў, калі мне было пятнаццаць гадоў.

Спачатку ён быў ярка-чырвоны, нібы намаляваны, потым набыў шляхетны фіялетавы колер – мне здавалася, што ён сьвеціцца ў цемры, як кацінае вока. Я горда насіў яго на шыі і наўмысна не надзяваў ні шалікаў, ні швэдраў з высокім горлам, я хацеў, каб яго пабачылі ўсе, я прагнуў няўхвалы, цікаўнасьці, шэпту за сьпінай, павагі, а найперш – зайздрасьці. Не, гэта быў не банальны сіняк і не гераічны шнар, якія, безумоўна, таксама надаюць пэўнага шарму – гэта быў сапраўдны, глыбокі, неаспрэчны, пачварны ў сваёй відавочнасьці засос, па-майстэрску выкананы адной маёй знаёмай. Ягоная вартасьць была неацэннай – маючы такі знак на шыі, ты належаў да касты далучаных. І калі ён урэшце зьнік, я пачуваўся як маршал, зь якога раптам сарвалі пагоны, як адмірал, якога выгналі на бераг.

Як і кожная паверхня, нашая скура добра надаецца на тое, каб зьмяшчаць на сабе розныя знакі. А чалавек здавён гэта любіць: пакрываць паверхні знакамі. Дзе ўбачыць вольную паверхню, адразу кідаецца на яе, на хаду расшпільваючы штаны. «Вова і Коля, дзембель-95», – прыгожа выводзіць чалавек, – «Квітней, Беларусь». «Гэта, мой горад», – піша ён то на адной, то на другой менскай вуліцы, нібыта пазначаючы сваімі недарэчнымі коскамі тэрыторыю. «Яны змагаліся за радзіму», – нагадвае чалавек сам сабе, – «Іх шукае міліцыя». І гэтак далей.

Але людзей на сьвеце і ў гэта-маім-горадзе становіцца ўсё больш, а вольных паверхняў усё менш. І чалавек зьвяртаецца да бясцэннага досьведу продкаў і пачынае аддаваць перавагу паверхні, якая, хай і абмежаваная, але заўжды пад рукою і належыць толькі яму – сваёй уласнай скуры. Тут з пэўнага часу чалавек мае поўную свабоду. Татуаваньне не падлеглае цэнзуры – мяркую, што няма такога закону, які кантраляваў бы татуаваньне і вызначаў бы дапушчальныя нормы маральнасьці малюнкаў.

Татуаваная скура – гэта ўжо ня проста скура, гэта адначасова прадмет гардэробу, модны аксэсуар, зброя, маска і мастацкі твор. Існуюць такія выкшталцоныя тату, на ўладальнікаў якіх пры іхным выезьдзе за мяжу трэба было б ставіць штамп «Художественной ценності не представляет» і без наяўнасьці такога штампа нікуды не выпускаць. Татуіроўка – таксама знак далучанасьці, сьведчаньне таго, што ты прайшоў пэўную ініцыяцыю.



Калісьці яна была часткай тайнага коду, пазнакай нонканфармістаў і маргіналаў, але часы зьмяніліся. Па сутнасьці, цяпер тату – гэта той самы засос, але прызначаны для дарослых. Кажуць, малюнак на скуры адпавядае характару чалавека, ён – пасланьне яго ўладальніка сьвету. Пры гэтым неяк не зьвяртаюць увагу на тое, што татуаваная скура – насамрэч палімпсэст, бо скура ад нараджэньня нясе на сабе не абы-якія знакі і нават без татуаваньня здольная сказаць пра нас вельмі шмат.

Часта скура робіць гэта супраць нашай волі, яна – вялікі здраднік: магчыма, гэта было адной з прычынаў, чаму людзі вынайшлі адзеньне – яно дапамагае хаця б часткова схаваць інфармацыю пра іх ці прынамсі зрабіць цяжэйшым працэс дэшыфроўкі. Цяпер, наадварот, у модзе ненавязьлівы эксгібіцыянізм, людзі імкнуцца разьдзецца, апантаныя жаданьнем паказаць беламу сьвету як мага больш сваёй голай скуры – каб іх заўважылі, пачулі, каб пра іх даведаліся і зацікавіліся іхнымі праблемамі; людзі перасталі баяцца быць сабой, у іх стала меней таямніцаў і яны хочуць увагі. Разьдзяваюцца жонкі брытанскіх вайскоўцаў, застаюцца перад камэрамі ў чым маці нарадзіла мэксыканскія апазыцыянэркі, кітайскія нявесты, украінскія фэміністкі: напэўна, на фоне іх аголенасьці несправядлівасьць сьвету мусіць выглядаць больш кантрасна, больш рэзка. Палітычны стрыптыз перастаў быць толькі мэтафарай, голая

скура кажа там, дзе язык бясьсільны. Мастацкім стрыптызам, здаецца, ужо даўно нікога ня зьдзівіш, але толькі не ў Беларусі. Выдадзены нядаўна ў Менску знакаміты каляндар «Канец словаў», для якога галышом сфатаграфаваліся некаторыя беларускія літаратары, стаў магутным і эфэктным выклікам усім крывадушнікам і вахцёрам ад белліту, ён узяў на сябе функцыю тэксту і прадэманстраваў, што ў беларускай літаратуры адбыўся перапом – аголеная скура тут увадначасьсе выказала больш, чым гадамі спрабавала выказаць пісьмо.

Скура – адзін з галоўных праваднікоў інфармацыі пры непасрэдным кантакце. Калі задумацца, усё жыцьцё чалавека – эпічная гісторыя дотыкаў і судакрананьняў. Поціск рукі дае больш інфармацыі пра суразмоўцу, чым словы. Перакладчык Сталіна і Молатава В. Беражкоў прыгадвае ў сваіх мэмуарах, якой была далонь Гітлера пры рукаціснні: «вільготнай і халоднай, нібы рэптылія». Невядома, колькі тут ідэалёгіі, а колькі праўды, але насамрэч: дотык да чужой скуры фармуе нашае ўспрыманьне гэтай асобы, і даволі трывала.

Паводле стану скуры ахвяраў судовыя мэдыкі могуць аднавіць сюжэт самых жахлівых здарэньняў, па скуры можна меркаваць пра нашыя шкодныя звычкі, залежнасьці, прафэсійную прыналежнасьць, кожны абгрызены палец мог бы ўвасобіць дзясятак чалавечых фобіяў; дагледжаная скура засьведчыць заможнасьць ці, прынамсі, наяўнасьць вольнага часу ў яе ўладальніка. Скура – гэта старонкі кнігі, якую піша пра нас наш



арганізм, татуаваньне – гэта, напэўна, рэдактар і ілюстратар той кнігі, а дэрма-вэнэралягічны дыспансэр на Прылуцкай тады – галоўная нацыянальная бібліятэка. Мы «слухаем» скурай, дыхаем скурай, «гаворым» скурай… А яна выдае нашыя сакрэты з дапамогай свайго тлушчавага сакрэту.

Бо скура, як вядома, дапамагае беспамылкова ідэнтыфікаваць сваіх носьбітаў, калі ў гэтым будзе патрэба.






# Старасьць

«Забяры ў бабулі пашпарт!» – агітуе маладосьць перад выбарамі. Заклік несправядлівы, але, прынамсі, лягічны і абгрунтаваны. Вось жа, у многіх краінах людзі, якія дажылі да пэўнага ўзросту, ня могуць больш мець правы кіроўцы. Калі ім нельга кіраваць машынай, чаму ім можна галасаваць?.. Пэнсіянэр, вэтэран, стары – пачасту гэтыя словы становяцца сынонімамі рэакцыянэра і рэтраграда, асабліва ў ня дужа дэмакратычных краінах.

Старасьць – уплывовая электаральная сіла. Адсотак людзей пажылога і старога ўзросту становіцца ўсё вышэйшы, Эўропа старэе; каб яе скрасьці, новаму Зэўсу трэба браць з сабой аптэчку. Старасьць перад сваім сыходам са сцэны хоча пакінуць маладосьці сьвет у выглядзе найбольш прымальным для яе, старасьці. Але жыць у гэтым сьвеце давядзецца, alas, маладым.

Дацкія навукоўцы сьцьвярджаюць, што сярэд-

няя працягласьць жыцьця ў заходніх краінах паступова расьце пачынаючы з 1840 году, і прыкметаў замаруджваньня гэтага працэсу не назіраецца. Барацьба зь дзіцячай сьмяротнасьцю і ўзрослы ўзровень жыцьця пажылых людзей далі свой плён. У 1950 годзе імавернасьць таго, што чалавек дажыве да 80–90 гадоў, склала 15–18 працэнтаў для жанчын і 12 для мужчын. На пачатку 21 стагодзьдзя тая самая імавернасьць паднялася да 37 працэнтаў у жанчын і 25 у мужчын.

Праўда, паміж іхнымі і нашымі старымі ёсьць вялікае адрозьненьне. За мяжой старыя езьдзяць на роварах, вандруюць, займаюцца спортам, яны – актыўныя наведнікі сэкс-шопаў і рок-канцэртаў. Беларускія старыя рэдка могуць сабе такое дазволіць. Дый ці хочуць яны гэтага? Жыць ці дажываць – вось у чым пытаньне.

«Паважаныя пасажыры, будзьце ўзаемна ветлівыя, саступайце месцы для сядзеньня пасажырам зь дзецьмі, цяжарным жанчынам, інвалідам, пажылым людзям».

Ці зьвяртаў хто ўвагу на тое, зь якім выкшталцоным прафэсіяналізмам вымаўляюцца гэтыя словы, як па-д’ябальску правільна інтануецца фраза? «Пасажырам зь дзецьмі» гучыць нібыта з лагоднай усьмешкай, паблажліва, маўляў, што зь іх возьмеш: дзеці, кветкі жыцьця з чужога гароду, поўзаюць па сядзеньнях, залазяць з нагамі, нічога, пацерпім. «Цяжарным жанчынам» – трохі ўзьнёсла, рамантычна, і ў той самы час праз гэтую рамантычнасьць прабіваецца пачуцьцё выкананага самцовага доўгу.



«Інвалідам» – сумна, не адмаўляючы факту, але з пэўным аптымізмам: так, інваліды ў нас ёсьць, ім цяжка, але бог, дзяржава і мэтрапалітэн робяць усё, каб палегчыць іхны лёс. «Пажылым людзям» дыктар прамаўляе зусім ужо змрочна, строга, занепакоена, нібы нагадваючы: пажыві спачатку зь іхнае, а потым ужо дупу на сядзеньне апускай.

Старасьць рэдка асацыюецца зь весялосьцю і радасьцю. Бо здабыткамі старасьці становяцца хваробы і адзінота, а хто будзе радавацца хваробам і адзіноце – хіба што мастак, істота без узросту і інстынкту самазахаваньня. Гэтую непазьбежную адзіноту старога чалавека грамадзтва кампэнсуе сваёй падкрэсьленай павагай. Але так было не заўсёды. Калісьці чалавечыя супольнасьці, якія былі заклапочаныя перадусім уласным выжываньнем, імкнуліся пазбавіцца ад тых, хто ўжо ня мог быць карысным. Пажылы чалавек яшчэ ўяўляў зь сябе лішні мозг – стары ж быў ужо проста лішнім ротам. Старых скідвалі са скалы, атручвалі, пакідалі паміраць у лясным гушчары, завозілі дажываць на адмысловыя выспы. Яшчэ ў XX стагодзьдзі некаторыя плямёны жылі паводле такіх законаў. І цяпер зрэдку здараецца, што дзеці, вырастаючы, забіваюць сваіх бацькоў – у цалкам цывілізаваных краінах. Ці, часьцей, аддаюць іх у дамы састарэлых. Бо старасьць заўжды замінае маладосьці.

Маладосьць мяркуе, што старасьці добра ў дамах састарэлых. Што яна там заўжды дагледжаная і ёй цікава сам-насам з сабой. Дом састарэлых – як

слоўнік архаізмаў, яны незаменныя, напрыклад, у гістарычнай літаратуры, часам запатрабаваныя ў жартах і анэкдотах, часта нам цікава даведвацца пра іхнае паходжаньне, але ўжываць у паўсядзённай мове іх ня любяць, яны так ці інакш будуць выглядаць ненатуральна і кідаць цень на таго, хто гаворыць. Ад архаізмаў не пазбаўляюцца, беражы божа, прыйдзе час – адамруць самі; ад іх проста імкнуцца трымацца ў баку.

Памятаю, як мы з жонкай шукалі ў яе родным горадзе Квэдлінбургу месца, дзе яна зьявілася на сьвет. Высьветлілася, што там цяпер мясцовы дом састарэлых. Нашаму візыту былі надзвычай рады, і адна бабулька ўсё распавядала нам пра нешта, і казала так таропка, не спыняючыся, бо ведала: як толькі яна замаўчыць, мы назаўжды сыдзем. У доме састарэлых рэдка бываюць госьці.

Старасьці заўжды хочацца многае сказаць нашчадкам, але яе ніхто ня слухае. І тут няма віны маладзейшых пакаленьняў. Па-першае, розьніца ў досьведзе несувымерная. Як можна асэнсаваць тое, чаго ты не перажыў – і ня проста асэнсаваць, але яшчэ і ўспрыняць гэта як мудрасьць? У найлепшым выпадку можна зь ветлівасьці паківаць хвілінку-другую, але потым трэба паправіць падушку, напілаваць дроваў, уключыць тэлевізар і сыходзіць. Па-другое, і гэта важней, перашкаджае моўны фактар: старасьць ужо ня ўмее выказвацца так, каб яе слухалі. Яна гаворыць ня той моваю. Таму камунікацыя са старасьцю ня можа быць пасьпяховай. Калі старасьць спрабуе гаварыць мовай маладых, у марнай надзеі на паразуменьне



– гэта выглядае недарэчна: няма нічога больш брыдкага за старасьць, якая маладзіцца, за ўсіх гэтых вечна юных дзядулек зь іхнымі юрлівымі бесамі ў рэбрах, сівых паэтаў, якія лічаць, што яшчэ здольныя на эпатаж, нафарбаваных экзальтаваных бабулек з маршчыністымі, але выстаўленымі напаказ грудзьмі, пажылых азызлых панкаў, звар'яцелых васьмідзесяцігадовых зорак эстрады, ужо аранжавых ад перанесеных плястычных апэрацый. Старасьць – гэта яшчэ і годнасьць, і старыя не заўжды гатовыя да такога выпрабаваньня. Можна годна жыць, але годна дажываць – гэта, напэўна, вельмі цяжка.

Відаць, адзінае, у чым можна пазайздросьціць старасьці – гэта яе ўменьню адрозьніваць сапраўды значнае ад нязначнага, у яе веданьні праўдзівай вагі рэчаў, учынкаў, зьяваў. Колькі сілаў траціць маладосьць на тое, што ёй ніколі не спатрэбіцца, колькі пустых дробязяў яна лічыць істотнымі і вартымі змаганьня.

Маладосьць мала цікавіцца старасьцю – прынамсі, да таго моманту, пакуль старасьць урэшце не памрэ. Тады маладосьць раптам аказваецца ўдзельнікам цікавага працэсу – пераемнасьці. Для маладых пачынаецца новы адлік часу. Жыцьцё нечакана зьмяняе сюжэт ці, хутчэй, атрымлівае штуршок для зьяўленьня ў ім сюжэту ўвогуле. Нездарма шмат якія народныя казкі пачынаюцца менавіта са сьмерці старога чалавека: караля, бацькі, пана...

І ўсё ж успрымаць старасьць як пэўны, ня дужа працяглы адрэзак чалавечага жыцьця – значыць

усё спрашчаць. Як на мяне, дык старасьць – гэта, хутчэй, сьветапогляд.

Існуе радыкальная онталягічная тэорыя, згодна зь якой чалавек разьвіваецца толькі ў чэраве маці, а ўвесь час ягонага жыцьця ад нараджэньня да сьмерці – пэрыяд павольнага, дзесяцігодзьдзе за дзесяцігодзьдзем, згасаньня, паступовае, марудлае старэньне.

Не дажыць да старасьці, памерці маладым – дэвіз юных дурняў. Не дажыць да склерозу, паркінсана, альцгаймэра, маралізатарскага маразму – пра гэта марацъ яны; старасьць – адзінае, чаго яны баяцца. Маладосьць любіць абвінавачваць у чым-небудзь нудную старасьць. У тым, напрыклад, што яна, маладосьць, дзякуючы няйдбайнай старасьці жыве ня так, як хацела б.

Старасьць пачынаецца, калі ты ва ўсім, што вакол адбываецца, бачыш прыпавесьці. Калісьці я працаваў настаўнікам у школе і быў закаханы ў сваю вучаніцу. Нічога супрацьнатуральнага – мне было дваццаць тры, ёй шаснаццаць. Яе аднаклясьнікі ставіліся да маіх пачуцьцяў на дзіва спачувальна. Каб дагадзіць ёй, я амаль што пасябраваў зь яе прыяцелямі і прыяцелькамі, мы часам пілі піва ў парку, слухалі музыку, курылі і абмяркоўвалі ўсё на сьвеце. Мяне ніколі не хвалявала мая рэпутацыя. Неўзабаве яны запрасілі мяне на свой выпускны вечар. Я пагаліўся, пастрыгся, пазычыў гальштук і роўна а сёмай падышоў да школы. У вокны я ўбачыў іх: шчасьлівых, у сьвяточных строях, з гэтымі дурнымі блакітнымі стужкамі, такіх маладых, прыгожых, даўганогіх, самаўпэўненых, абсалютна бязмозглых. Павярнуўся і пайшоў прэч. Мне было дваццаць тры, а я пачуваўся такім старым. Больш мы ня бачыліся.



…Жыць – гэта доўг, сказана мімаходзь у «Фаўсьце»; а наіўная маладосьць думае, што гэта інстынкт. Дажыць да старасьці, я мяркую, варта – каб пазнаёміцца з уласнымі праўнукамі. Каб пабачыць, як зьмяніліся кнігі, жаночая бялізна, кампутары, электрычкі і тытунь; каб зьедліва кпіць з футуролягаў і спакойна тыкаць усім, хто з табой на «вы», нават міністру абароны; каб абсалютна беспакарана хапаць за попу маладых мэдсёстраў; каб, спаслаўшыся на слабую памяць, выдумаць сабе новае, гераічнае мінулае; каб, стаўшы старым пердуном, моўчкі прыкінуць у тумане разьвітаньня, якім будзе сьвет безь цябе.






# Стрававaньне

Напэўна, ніякая паэзія не перадасьць важнасьць працэсу страваваньня ў жыцьці і сьветабудове так выразна, як гэты выкшталцоны і сумны граматычны вэрлібр:

«Я жару.
Ты жарэш.
Ён жарэ, яна жарэ.
Яно жарэ.
Мы жарэм.
Вы жараце.
Яны жаруць».

Сапраўды: часам, каб стаць літаратурай, словам не патрэбны аўтар. Толькі кантэкст. Працытаваныя вышэй радкі – гэта адначасова і лірыка, і філязофія, і публіцыстыка. Як іх успрымаць: як заклік, як развагу, як жальбу, як апраўданьне?... Залежыць толькі ад чытача. А чытач, у сваю чаргу, залежыць ад свайго апэтыту. Сыты ўбачыць тут толькі сухі праснак, выпечаны клятымі

постмадэрністамі. А вось у згаладнелага прачытаньне такога верша, упэўнены, абудзіць самыя палымяныя пачуцьці і раскошныя фантазіі.

Увогуле, страўнік – найвялікшы рэвалюцыянэр у нашым арганізьме. Ні сэрца, ні зубы, ні лёгкія, ні апэндыкс ня здольныя вывесьці народ на плошчы і зьмяніць тыранічны лад, пры якім той народ вымушаны жыць. А вось страўнік робіць гэта хутка, элегантна і эфэктыўна.

Прыкладам гэтаму можа быць практычна любая рэвалюцыя, у любым маштабе. У адным зь менскіх мікрараёнаў зачынілі міні-рынак, які штодня пастаўляў на сталы жыхароў сьвежую і даступную гародніну ды мяса. З таго трагічнага дня мікрараён, які славіўся сваёй адзінадушнай падтрымкай дзейнай улады, ператварыўся ў наскрозь апазыцыйны, а некаторыя хатнія гаспадыні, калі чуюць пра кіраўніцтва краіны, хапаюцца за апалонік, як за маўзэр.

Нават самыя вялікія ідэі – толькі танны гарнір да пустога чалавечага страўніка.

Чалавечае страваваньне здаўна было часткай палітыкі: яе аб’ектам, рычагом, інструмэнтам, ворагам ці хаўрусьнікам... Напрыклад, голад станавіўся пакараньнем для цэлых народаў, голадам пераконвалі самых упартых, галадалі гарады, трываючы аблогу; галадалі сяляне, галадалі салдаты, галадалі вязьні. Галадаморам сталінскі рэжым спрабаваў зламаць украінцаў. Практычна кожная нацыя з тых, якія пайшлі разам з «братняю Русьсю», перажыла ў свой час голад ці хаця б нястачу ежы. Голадам у выніку перанасяленьня



тэрыторыі палохалі мальтузіянцы і фашысты. Аднак голад можа быць і модным. І, шчыра кажучы, нейкім зьдзекам на фоне голаду ў Афрыцы выглядаюць дыеты і гламурная анарэксія мадэлек і зорак так званага шоў-бізнэсу.

На гэтай плянэце галадалі, галадаюць і будуць галадаць: «бог ня роўна дзеле», напісаў калісьці Багушэвіч, і разнамасныя тыраны супакойваюць сябе тым, што калі ўжо сам бог так робіць, то дзе ўжо ім падзяліць харч пароўну.

«Хлеба і відовішчаў» патрабавалі плябеі ў старажытным Рыме, «чаркі і шкваркі» просяць сучасныя плябеі, бо відовішчамі іх абачліва забясьпечылі. Пэўным палітычным сыстэмам дужа выгодна, каб ня мозг кіраваў страўнікам, а наадварот. Але голад можа стаць і зброяй супраць такіх сыстэмаў – у арсэнале іншадумцаў заўжды ёсьць галадоўка, крайняя мера супраць беззаконьня, адмаўленьне ад уласнага страваваньня мусіць прадэманстраваць гранічную адказнасьць за свае ўчынкі і сур’ёзнасьць намераў. Галадоўка дысыдэнтаў – гэта ў пэўным сэньсе адказ ворагу на яго мове. Бо ў вачах улады страваваньне – гэта адзінае, што мусіць турбаваць яе падданых. Таму эмігрантаў так часта абвінавачваюць у тым, што яны ўцякаюць «па танную каўбасу» – ляяльным грамадзянам цяжка ўявіць сабе, што чалавекам можа кіраваць нешта, апрача харчовай патрэбы.

Нічога дзіўнага ў такім прымаце страваваньня над іншымі працэсамі чалавечага арганізму, вядома ж, няма. «Чалавек мусіць перадусім жэрці, так!» – казаў герой аднаго апавяданьня, разва-

жаючы, за каго галасаваць на выбарах. Жэрці, каб пасьпяхова функцыянаваць, каб не спыняўся матор. Цяпер параўнаньне чалавека з машынаю, а ежы з палівам ужо нікога ня зьдзівіць, але ў XVIII стагодзьдзі, калі францускі філёзаф Ж.А. Лямэтры апублікаваў сваю працу «Чалавек – машына», сярод эўрапейскіх інтэлектуалаў доўга не сьціхалі жарсныя спрэчкі. «Ежа аднаўляе ў нас тое, што пажыраецца ліхаманкай,» – пісаў Лямэтры, – «бязь ежы душа зьнемагае, разьюшваецца і нарэшце, зьнясіленая, памірае. Калі ж жывіць судзіны цела гаючымі сокамі і падмацавальнымі напоямі, то душа становіцца бадзёрай, напаўняецца гордай адвагай і падобная на жаўнера, які, ажываючы пад гукі барабана, бадзёра крочыць насустрач сьмерці…» На малюнку Лямэтры выглядае чалавекам, які любіў добра паесьці. І выпіць, напэўна, таксама…

Чалавеку творчаму вельмі прыкра, што ён знаходзіцца ў такой рабскай залежнасьці ад свайго страўніка і вымушаны насіць яму некалькі разоў на дзень тапачкі ў зубах. Адзін мой знаёмы грузінскі мастак прызнаваўся, што неабходнасьць есьці для яго – прыніжальная. Стравававаньне крадзе час у творчасьці і замінае самаўдасканаленьню і прасьвятленьню. Нездарма манахі і розныя аскеты марылі сябе галадам.

Часта чуеш, што творца павінен быць галодным, каб стварыць нешта вартае. Праз голад часта праходзяць ня толькі мастакі, але і паэты, музыкі, філёзафы. Лічыцца, што голад стымулюе творчасьць: муза не павінна быць кухаркай, інакш ёй давядзецца мыць посуд. Голад часта становіцца тэмаю або дэкарацыяй для твораў, а галодныя – героямі, пэрсанажамі, пачасту – вельмі любімымі публікай, бо намаляваных жабракоў заўжды больш шкада, чым жывых. «Голад» Кнута Гамсуна выклікае ў душы боль, падобны да рэзяў у страўніку. Знакаміты Галадар Кафкі (дарэчы, па-мойму, перакладзены на беларускую як Галадамор) – у арыгінале называецца Hungerkünstler, Мастак Голаду. Адчуваць, што на сьвеце няма ежы, якую хацелася б пакаштаваць – на такую пакуту здольны толькі геній.

Праўда, той усёмагутны страўнік, які не адчувае праблемаў з самазапаўненьнем, дае чалавеку пагуляцца ў свабоду выбару. Страўніку ў момант прыёму ежы ўсё адно, што яму падсоўваюць: гарачую ежу ці халодную, рэдкую ці густую, карысную ці шкодную. Таму чалавек, істота ўсёедная, здольны да пары жэрці што папала: ня толькі расьліны, грыбы і жывёлаў, але і жабак, саранчу, сушы, вакзальныя беляшы і сабе падобных. Густы чалавека наогул уражваюць сваёй разнастайнасьцю. Камусьці да спадобы тэрміты, камусьці пялёсткі ружаў, хтосьці жыць ня можа бязь мяса, а хтосьці гатовы зьдзейсьніць самаспаленьне ў імя вэгетарыянства. Леапольд Блюм з Джойсавага «Уліса» любіў баранаву нырку, і каб тая абавязкова трохі пахла мачою. Аднаго чалавек не выносіць – адсутнасьці ў ежы «разынкі», нечага piquant, карацей, смаку. Лепш падгнілае, чым прэснае.

Умелы ядок можа кіраваць страўнікам, а зь яго

дапамогай – і ўсім арганізмам; яшчэ большую ўладу мае кухар, шэры кардынал лёсаў чалавечых: правільна падабраная ежа можа стаць як нагаворным зельлем, так і атрутаю, можа выклікаць што заўгодна на любую літару, вось скажам на «п»: пякотку, падучку, паралюш, пыхлівасьць, паблажлівасьць, пісучасьць, пажадлівасьць, палавыя «ізьлішаствы», падваеньне асобы, пук, панос, пагарду, пруху, правал, прыступ патрыятызму ці панкрэатыту – як пашанцуе.

Дарэчы, наконт патрыятызму. Чалавечы страўнік, між іншым, цалкам салідарны са Скарынам і таксама лічыць, што «дзе людзі ўскормлены… да таго месца яны вялікую ласку імаюць». Ён чулы да падману і адразу рэагуе , калі ў яго пакласьці нешта незнаёмае, ён – ксэнафоб, наш страўнік. «Зьмены заўсёды пакутлівыя,» – пісаў Мантэнь. – «…Паспрабуйце давесьці, што каштаны шкодныя жыхарам Пэрыгору і Люкі, а малако і сыр – горцам. Найлепшае, што могуць зрабіць хворыя, – гэта прытрымлівацца звыклага ладу жыцьця і звыклай ежы.

Калі ж ім прадпісваць нешта супрацьлеглае, такое перамены ня выцерпіць і здаровы чалавек». Ня толькі працэс самога страваваньня, але і ягоны працяг вымагае пэўнага кансэрватызму. Для страваваньня важна ня толькі есьці звыклую ежу – нават месца для дэфэкацыі лепш мець тое самае. Як пісаў той самы Мантэнь: «… Па вялікай патрэбе трэба хадзіць у строга вызначаныя гадзіны, лепш уначы… Для гэтай справы неабходныя вызначаныя месца і сядзеньне».



Але «да ўсяго прывыкае падлюга-чалавек», мог бы скрушна прамовіць страўнік. Нават да саранчы і біятуалета.

Страўнік карае непаслухмяных і здольны зганіць іх дзе заўгодна: у ліфце, у труне ці на афіцыйным прыёме ў прысутнасьці дамаў. Адсутнасьць дастатковай колькасьці грамадзкіх прыбіральняў у Менску часам наводзіць на думку, што тут, напэўна, вывелі новую пароду чалавека: бяз страўніка, бяз кішак, чалавека, якому незнаёмая патрэба аблягчыцца. Напэўна, менавіта такія істоты працуюць у мэрыі. Праўда, я чуў, цяпер у родным горадзе можна зайсьці ў любую кавярню і замовіць сабе на хвілінку ўнітаз – абсалютна бясплатна.

Як жыць, як патрафіць густам страўніка і ня страціць пачуцьця ўласнай годнасьці? Я дык кіруюся такім непапулярным у наш час прынцыпам: ем тое, што мне смачна, і ня ем нясмачнае. На першы погляд даволі старамодны падыход, дый ня кожны фізычна здольны на такое выпрабаваньне. Можна, вядома, харчавацца і выключна паводле мэдычных рэкамэндацый, то бок пасьвіцца на лугах, адганяючы хвастом голад, і есьці толькі вітамінізаваную траву. Але, як сказаў адзін невядомы старажытнарымскі паэт:

An vivere tanti est?

Ці вартае жыцьцё такой цаны?





# Сухоты

Гісторыя чалавецтва мае, як торт, некалькі слаёў. Ёсьць Вялікая Гісторыя, тая, якую вучаць у школах і ўнівэрсытэтах, якую дасьледуюць акадэмікі, на аснове якой пякуцца хрусткія манаграфіі; на яе паверхні ружавеюць ад сораму кветачкі разнастайных легендаў, блішчаць глязураваныя заканамернасьці і тырчаць арэшкі знакамітых імёнаў. Ёсьць гісторыя прыватная: мэмуары, успаміны, дакумэнты, старыя фотаздымкі, што ўвабралі ў сябе ўсю жоўць і ўвесь смутак нечай асобнай памяці.

Але самы цікавы зь іх ніжэйшы, найтанчэйшы слой, смак якога ня кожны адчуе: дробязі, якія не спатрэбіліся ні Вялікай Гісторыі, ні гісторыям прыватным, усялякія неістотнасьці, якія тым ня менш адбываліся – цяпер іх можна хіба толькі дадумаць. Мне падабаецца раскладваць гісторыю на вось такія маленькія, нябачныя па-за мікраскопам фрагмэнты: уяўляць сабе, напрыклад, сьпіны першых вэнэцыянцаў, што міжволі пацепваюцца, адчуваючы на сабе позіркі нябачных гунаў, якія

кормяць сваіх коней па той бок лягуны. Ці вось яшчэ: сярэднявечныя дзеці, якія пабывалі на «смаленьні ведзьмы» – што ім сьнілася ў ноч пасьля вогненнай экзэкуцыі, ці ладзілі яны потым такія публічныя кары для сваіх цацак?

І – адно з улюбёных пытаньняў: хто былі тыя людзі, якія заразілі сухотамі Кафку і Багдановіча? Чым яны займаліся, колькі гадоў ім было, дзе пасьпелі пабываць, ці перажылі заражаных імі літаратараў?... Ці Кафка і Багдановіч былі інфікаваныя яшчэ да нараджэньня? І каго Кафка і Багдановіч здолелі заразіць да сваёй сьмерці? Усё гэта хвалюе зусім ня менш за Вялікую Гісторыю, дзе рэдка знаходзіцца месца снам, пахам, адрыжкам, макроце, плянам на вечар, мікабактэрыям і скарыстаным трамвайным квіткам.

Кафку і Багдановіча, пры ўсім іхным вонкавым непадабенстве, злучае ня толькі тая дзіўная акалічнасьць, што творчасьць абодвух я вельмі паважаю.

Так, абодва сталі пасьля сьмерці клясыкамі літаратуры, абодва былі «песьнярамі» болю, гораду, адзіноты, абодва былі надзвычай тонкія натуры, абодва – жыхары вялізных імпэрыяў (Кафка дажыў да іхнага канца, Багдановіч – амаль дажыў), абодва былі пры жыцьці малавядомымі літаратарамі і кніг выдалі зусім няшмат: чатыры зборнікі Кафкі супраць «Вянка». Кафка ў позьні пэрыяд свайго жыцьця зацікавіўся юдаізмам і адчуў сябе нарэшце яўрэем; выхаваны ў вялікарускім духу Багдановіч раптам стаў беларусам. Абодва вучыліся на юрыстаў – Кафка ў Карлавым



унівэрсытэце, Багдановіч – у Яраслаўскім Дзямідаўскім ліцэі – хаця займацца хацелі выключна літаратурай. Але самае цікавае ня гэта. Самае цікавае, як заўжды – мэдыцына.

Абодва хварэлі на сухоты і ад іх памерлі – і акурат на парозе перамогі чалавецтва над гэтай хваробай, перамогі няхай і няпоўнай, але ўсё ж досыць пераканаўчай. Сухоты зрабілі на творчасьць кожнага агромністы ўплыў, нібы і Кафка, і Багдановіч пісалі свае тэксты пад тую самую сумную, велічна-невылечную музыку.

У 1882, за год да нараджэньня Кафкі і за дзевяць гадоў да нараджэньня Багдановіча, немец Робэрт Кох адкрыў нарэшце тубэркулёзную бацылу. Такім чынам, у новага пакаленьня людзей зьявіўся шанец, і цяпер усё залежала ад спрытнасьці навукоўцаў. У 1890, калі Кафка наведвае школу, Кох стварае тубэркулін, водна-гліцэрынавую выцяжку тубэркулёзных культур, і ўводзіць яе сваёй супрацоўніцы і будучай жонцы. У 1902 у Бэрліне праходзіць першая міжнародная канфэрэнцыя па сухотах, Багдановіч паступае ў ніжагародзкую мужчынскую гімназію. Праз некалькі гадоў аўстрыец Пірке прапануе рабіць надскурныя пробы на сухоты, а француз Манту – унутрыскурныя.

На першым этапе сухоты часта працякаюць бессымптомна. Таму невядома, калі адбыўся сам факт заражэньня – калі яно ўвогуле было. Ад сухотаў памерла ў 1896 маці Багдановіча Марыя, таму, магчыма, ён заразіўся ад яе. Ад чаго памерлі зусім малымі дзецьмі двое братоў Кафкі, невядома.

Сухоты адкрыліся ў Багдановіча ў 1909, ён у гэты час вучыцца ў гімназіі ў Яраслаўлі. Ён ужо напісаў: «…і разрытаю магілай вее сумна на мяне», пра тое, што «ўсё зьнікла і ўплыло». Вусатыя нашаніўскія дзядзькі меркавалі, відаць, што гэткі холад узяўся проста ад звычайнага юнацкага рамантычнага захапленьня сьмерцю, якое хутка міне. І таму псэўданім Багдановічу прыдумалі звонкі, малады, бурапенны, як піва: Максім Крыніца.

У Кафкі сухоты адкрыліся ў 1917 пасьля лёгачнага кровазьліцьця. У тым годзе ён напісаў «Сельскага лекара», «Стук у браму», «Шакалаў і арабаў», працягваў працаваць над «Працэсам». Праз два гады французы Кальмэт і Герэн адкрыюць штам для тубэркулёзнай вакцынацыі чалавека.

Цікава: захварэўшы, Кафка пражыў яшчэ сем, а Багдановіч восем гадоў – прыкладна аднолькава. Абодва памерлі не на радзіме. Кафка – у санаторыі пад Венай, Багдановіч – у Крыме.

Лячэньне на курортах і ў санаторыях тады лічылася ледзь ня самым эфэктыўным сродкам змаганьня з тубэркулёзам. У той час ужо ведалі, што рост сухотных бактэрыяў запавольваецца пры добрым забесьпячэньні лёгкіх кіслародам, таму яны і любяць ствараць свае калёніі ў верхніх частках лёгкіх, куды кіслароду трапляе менш.

Кажуць, Кафка памёр ад зьнясіленьня – болі ў горле не давалі яму магчымасьці есьці, а карміць унутрывенна тады яшчэ не навучыліся.

Вось як Багдановіча перад ягонай сьмерцю апісвае невядомы мне А.Цітоў : «Ён часам увесь



неяк загараўся… …падазроны румянец выступаў на маладым твары…».

Хаця альтэрнатыўная гісторыя – справа бессэнсоўная, але цяжка ўстрымацца ад спакусы і не зазначыць, што сьмерць ад сухотаў ня дала магчымасьці Кафку дажыць да галакосту, а Багдановічу – да сталінскага тэрору (усё ж хочацца верыць, што сапраўдным «савецкім паэтам» ён ня стаў бы).

Часам я думаю: на якой мове яны размаўляюць на тым сьвеце, Кафка і Багдановіч? Дакладна не на ідышы, Кафка яго пачаў вучыць толькі незадоўга да сьмерці, а Багдановіч, хаця напэўна і чуў у Менску, але сам не гаварыў. Мусіць, па-францыску. Кафка валодаў францускай, Багдановіч таксама.

У 1919 была адкрытая знакамітая БЦЖ. Ужо ў трыццатых гадах, празь дзесяць гадоў пасьля сьмерці Кафкі, супрацьтубэркулёзная вакцынацыя стала праводзіцца масава, а ў 1943 Ваксман і Шац вынайшлі стрэптаміцын – першы эфэктыўны хіміятэрапэўтычны сродак для лячэньня сухотаў. У часы Кафкі ад сухотаў гінула ня менш людзей, чым ад раку. Цяпер у сьвеце штогод інфікуюцца 8–9 мільёнаў чалавек, памірае ад сухотаў 2–3 мільёны. Галоўнымі прычынамі заражэньня лічацца стрэс, курэньне, дыябэт, знаходжаньне за кратамі.

Хутчэй за ўсё, курылі і Кафка, і Багдановіч. Стрэсаў жа ў іх дакладна хапала. Што да турмы – вось яна, азірніцеся. Яны абодва напісалі пра яе ўсё, што маглі.





# Сэрца

Чым даўжэй жывеш, тым менш маеш сяброў і тым больш цікавыя людзі цябе атачаюць. Кольказсьць пераходзіць у якасьць; непатрэбныя клеткі адміраюць, нейкі сонечны вітамін даверу ўжо не засвойваецца арганізмам. Моладзь выклікае раздражненьне і злосьць, аднагодкі часьцей за ўсё – проста позех. Застаюцца дзеці, зь якімі ніколі ня сумна, і тыя, хто старэйшы за цябе – толькі іх і можна яшчэ слухаць, седзячы ва ўтульным паўзмроку і пагладжваючы свой адрослы панцыр, на якім не бывае ні ранаў, ні эрагенных зон. Бо толькі старэйшыя за цябе ведаюць нешта такое, што сапраўды варта ведаць.

Вэнэцыянскаму прафэсару-урбаністу Леанарда Джэнтыле ўжо за семдзесят. Неяк ён запрасіў нас да сябе, у сваю кватэру на Рыё Тэра Фаскарыні, недалёка ад Акадэміі. Пакуль абаяльны і іранічны гаспадар завіхаўся на кухні, а мае жонка з дачкою яму маральна дапамагалі, я блукаў па кватэры

прафэсара, разглядваў кнігі і старыя мапы і натрапіў на шасьцёрку зграбных люлек, уладкаваных на драўлянай падстаўцы. Пажаўцелыя муштукі цьмяна паблісквалі, нібы старыя вайсковыя мэдалі, нібы полымя каралевы Лоаны.

«Леанарда, вы курыце люльку?» – спытаў я, сам неабыякавы да гэтых цацак.

«Раней курыў,» – адказаў прафэсар. – «Ужо дваццаць гадоў як кінуў. Дактары забаранілі. Курыў, калі меў сваё сэрца. Цяпер у мяне штучнае».

Так я ўпершыню ўбачыў чалавека са штучным сэрцам. Ягоны горад стаяў на вадзе, і Леанарда Джэнтыле таксама жыў, як горад на вадзе – абвяргаючы законы прыроды, бо чалавек, у якога спынілася сэрца, паводле задумы быў асуджаны прыродай на сьмерць. Леанарда ведаў пра Вэнэцыю ЎСЁ, і пра жыцьцё і сьмерць ён, я мяркую, таксама ведаў УСЁ. Ён еў спагеці, запіваў іх віном, жартаваў і роўна а восьмай паклаў сабе ў рот некалькі пігулак. Штучнае сэрца прыдзірлівае, штучнае сэрца пунктуальнае. Штучнае сэрца ўсяму ведае кошт.

«На трыццаць сёмым годзе жыцьця Артур Пепа адчуў, што ў яго бывае сэрца,» – гэты сказ з раману Андруховіча «Дванаццаць абручоў» падаецца мне ледзьве не геніяльным. Чалавек нараджаецца бяз сэрца, потым яно ў яго *бывае*; затым яно проста і бязьлітасна *ёсьць*. Я амаль ня памятаю сябе да сямі гадоў, і нават тое, што памятаю, з году ў год усё больш ператвараецца ў нейкую фікцыю, здаецца, што ты ўсё прыдумаў



– але гісторыю з завадным мядзьведзем памятаю досыць выразна.

Мне было гады тры-чатыры, я сядзеў на падлозе, адзін у вялікім пакоі і гуляў. Я гуляў з маленькім завадным мядзьведзем – трэба было пакруціць ключык, і драўляны мядзьведзь пачынаў разьмерана біць малатком па мэталічнай калодзе. Заводзіць мядзьведзя было складана, але я ўпарта прымушаў яго працаваць, раз за разам заводзячы цацку, і ён усё біў і біў па сваёй калодзе, тук-тук, тук-тук-тук, нягучна, але рытмічна. Ці то праз дзіўную мэдытатыўнасьць гэтага занятку, ці то праз вялікага сонечнага зайца, які паволі поўз па дыване перада мной і за якім зачаравана сачылі мае вочы, але я паступова ўвайшоў у нейкі сонны, летуценны стан, мае вочы амаль заплюшчыліся, а рукі, быццам бы незалежна ад майго жаданьня, працягвалі заводзіць цацку: тук-тук-тук. Потым я, здаецца, зусім заснуў, а калі прачнуўся, мядзьведзя побач ужо не было. Яго шукалі ўсёй сям'ёй, я плакаў і крычаў ад роспачы, патрабуючы яго вярнуць, але ён зьнік, мой мядзьведзь. І толькі ўначы, калі ў кватэры ўсё сьціхла, я зноў пачуў у сваіх грудзёх: тук-тук, тук-тук-тук… З таго часу я маю сэрца, і калі мне кепска, яно баліць, і тады я зачыняюся ў пустым пакоі бяз вокнаў і слухаю, як грукае па калодзе мой драўляны мядзьведзь.

Сэрца і розум прынята супрацьпастаўляць. Сэрца ў міталёгіі – той орган, які адказвае за пачуцьці, за эмоцыі, за некантраляванае, за міжвольнае. За ўсё, што мы робім почасту насуперак разважліваму, мэркантыльнаму і халоднаму ро-

зуму. Сэрца часта перамагае ў гэтым змаганьні. І ня толькі ў мэтафарычным сэнсе – бо нават калі мозг чалавека адключаецца, сэрца можа жыць яшчэ доўга, калі стварыць яму ўмовы, падсілкоўваць ягоную энэргію.

Сэрца адыгрывае найважнейшыя ролі там, дзе вядзецца пра так званыя «сардэчныя» справы, у каханьні і ў нянавісьці, у нашых стасунках з тымі, з кім нам наканавана жыць побач. Як вядома, сэрца важыць прыкладна трыста грамаў – невялікая частка ад агульнае масы цела, але адна з галоўных, што ні кажы. Такая ўвага да сэрца ўзьнікла таму, што яно заўжды мела сымбалічнае значэньне цэнтра, сярэдзіны. Сэрца, згодна з рознымі рэлігіямі і вераваньнямі – паклад ня толькі пачуцьцяў, але і волі, мудрасьці, інтуіцыі, духоўнасьці, месца, празь якое чалавек ажыцьцяўляе кантакты з найвышэйшымі сіламі, сэрца – прыймач, які настроены на хвалі радыё «Абсалют».

Прымхлівы, схільны да паэзіі чалавек надзяліў сэрца і функцыямі найсправядлівейшага судзьдзі. Судзьдзі зь неаспрэчным аўтарытэтам: «сэрцу не загадаеш», «як на сэрца ляжа, так і будзе», толькі гэты орган вырашае, «хто нам па сэрцы». Старажытныя эгіпцяне клалі ў прэпараваную мумію сэрца, а на яго – жука-скарабея, сэрца са скарабеем было істотным доказам на судзе мёртвых. У казцы Гаўфа «Халоднае сэрца» Тоўсты Эцэхіль кажа Пэтэру Мунку: «Я спытаў аднаго настаўніка, і ён патлумачыў, што пасьля сьмерці нашыя сэрцы будуць важыць адпаведна нашым



грахам. Лёгкія падымуцца ўверх, цяжкія праваляцца празь зямлю...» Тоўсты Эцэхіль трапіў у пекла.

Нячысьцік заўжды хацеў пазбавіць чалавека або ценю, або душы- сэрца – бо ведаў, што толькі гэтая ўласнасьць дазваляе яму быць сваім сярод іншых людзей, а зусім ня розум. Асоба бяз душы, сэрца і ценю выганяецца за межы соцыюму, ацэньваецца паводле іншых крытэраў, як чужы, як зло, як здраднік. Расеец, які апынаецца за мяжой і сустракае там беларуса, прагне ад яго «задушэўнае» размовы на «вялікім і магучым», і калі натыкаецца на адмову, то крыўдзіцца, нібыта беларус прадаў сэрца «заходняму» д’яблу.

І Гётэ, і Гаўф, і Шамісо, і Ман узялі для стварэньня сваіх шэдэўраў адвечны канфлікт, які апісаны ў сотнях нацыянальных міталёгіяў сьвету, але бліжэй за ўсё для іх і для нас было распыленае па мностве легендаў сярэднявечнае нямецкае маралітэ пра зьдзелку чалавека і д’ябла, адкуль і пайшла эўрапейская традыцыя твораў кшталту «Фаўста». Літаратурным канцом яе можна лічыць казку «Тры таўстуны» савецкага пісьменьніка Алешы, дзе трыюмвірат тупых ненажэраў паспрабаваў ужывіць прынцу Туці жалезнае сэрца. Ні сам Алеша, ні НКУС, відаць, так і не здагадаліся, якой антысавецкай казкай выглядалі напісаныя ў 1928 годзе «Тры таўстуны» трошкі пазьней, у час, калі гіт-парад узначальвала песьня са словамі: «Нам Сталін дал стальные рукі-крылья, а вместо сердца – пламенный мотор!»

Сэрца можа выконваць і трохі іншую ролю




ў праўнай сыстэме – ня толькі судзьдзі, але і сьледчага, які выводзіць грэшнага чалавека на чыстую ваду, прымушаючы зрабіць *чыстасардэчнае* прызнаньне. Такое сэрца – галоўны герой аднаго з найлепшых кароткіх апавяданьняў По: «The tell-tale heart». Сэрца – увасобленае ў анатамічным выглядзе сумленьне, яно адразу ж прымушае чалавека пакутаваць, варта яму адступіць ад запаветаў, і няважна, чыё гэта сэрца – тваё ці чужое. Усе сэрцы гэтага сьвету зьлітыя ў адзін сэрцанэт, і боль у адным часта прымушае хварэць



іншыя, у якім бы кутку зямлі ні знаходзілася тое, балеснае.

У «Халодным сэрцы» мяне больш за ўсё ўражвае камора-лябараторыя, дзе Міхель захоўваў сэрцы тых, хто пагадзіўся правярнуць зь ім «маленькі бізнэс». Сэрцы булькочуць у колбах, і на кожнай цэтлік зь іменем і датай, гатычным шрыфтам. На поясе Міхеля, апранутага ў белы халат, пазвоньваюць ключы. Міхель быў першы, хто наважыўся на трансплянтацыю такога важнага органа. Толькі ён, зь ягонымі сувязямі на тым сьвеце, мог узяцца за тое, што не ўваходзіла ў божыя пляны. Ня дзіва, што ён ня меў павагі да звычайных мэдыкаў, якія і ў той час падумаць не маглі пра магчымасьць такое апэрацыі. Калі ты даверыш апэрацыю спадару хірургу, кажа ён са сьмехам Пэтэру Мунку, то, вядома ж, памрэш. Іншая справа – я, з маёй клінікай, з маім абсталяваньнем проста з Амстэрдаму.

Калісьці маё сэрца спыніцца, драўляны мядзьведзь зломіць урэшце свой малаток. Будзеце даставаць, спадар хірург, – не забудзьце ключык. Раптам прыдасца.





# Урынатэрапія

Схільнасьць некаторых грамадзянаў верыць у карысьць і магутнасьць урынатэрапіі не такая ўжо і дзіўная. Па сутнасьці, лячыцца ўласнай мачой спрабуюць тыя самыя людзі, якія рэгулярна купляюць дзяржаўныя лятарэйныя білеты. Ім хочацца цуду. Ім хочацца бясплатнага цуду. Ім хочацца цуду тут і цяпер. І калі цуд аднойчы адбыўся з кімсьці іншым, то чаму б яму не адбыцца са мной?..

Яны даўно падазравалі, што цуд недзе блізка, але да пары ня ведалі, што настолькі. Смак і пах цуду значэньня ня маюць, адказнасьці за цуд не існуе. Ніводзін доктар мэдыцынскіх навук ня дасьць людзям такой надзеі, якую падорыць ім кніжка якога-небудзь шамана-гамеапата. Мача – гэта ж сваё, роднае-прыроднае… Маці – мача, мэдыцына – мачаха.

Прыхільнікаў урынатэрапіі – тых, хто п’е сваю і чужую мачу, націраецца ёй, робіць ванны, камп-

рэсы – жывіць вера, а ня розум. На словы пра тое, што для арганізму непажадана, а часам і шкодна вяртаньне рэчываў, якіх ён мусіў пазбавіцца, адэпты ўрынатэрапіі знойдуць сотні заклёнаў і яшчэ больш розных «неабвержных» фактаў «із жызьні». Што ж, чалавек, які моцна верыць у тое, што ўнутраны прыём мачы вылечыць яго і амаладзіць, сапраўды можа адчуць паляпшэньне. Гэта называецца пляцэба. Але ж піць гэтую гарбатку з рэшткамі нашай жыцьцядзейнасьці… «Гледзячы чыю і навошта,» – загадкава ўсьміхнуцца яны ў адказ.

…Улетку 1930 году на харкаўскім вакзале спацелымі чэкістамі быў арыштаваны маскоўскі прафэсар Аляксей Замкоў. Саракасямігадовы навуковец, былы выхаванец Пажаскага корпусу і вайсковы лекар, надумаў уцячы з СССР: ці то праз латыскую, ці то праз пэрсыдзкую мяжу. Арышт быў праведзены своечасова – прафэсар зьбіраўся вывезьці з краіны рабочых і сялян сакрэт цудоўнага і яшчэ не дасьледаванага да канца прэпарату пад назвай «гравідан».

Працу над стварэньнем гравідану Замкоў пачаў некалькі год таму. Гэта былі дзіўныя і па-свойму вясёлыя часы: навука раптам вырашыла, што знаходзіцца на парозе вялікіх адкрыцьцяў у галіне амалоджваньня чалавечага арганізму, сярод грамадзянаў хадзілі чуткі, што неўзабаве будзе раскрытая таямніца несьмяротнасьці, прафэсар Іваноў у Сухумі натхнёна займаўся перасадкаю органаў шымпанзэ чалавеку, і тысячы жанчын з усяго Савецкага Саюзу пісалі Іванову, што згодныя панесьці ад малпы, каб нарадзіць у выніку савецкага супэрмэна. На гэтай хвалі савецкая ўлада паставіла перад вучонымі сакрэтную задачу: вынайсьці калі ня сродак супраць старэньня, дык хаця б нейкі танны і даступны стымулятар, які б даваў зьняверанаму народу моц і энтузіязм для вялікіх зьдзяйсьненьняў. І прафэсар Замкоў узяўся за справу.



Прэпарат, які ён вынайшаў, быў распрацаваны на аснове мачы цяжарных жанчын. Замкоў паспрабаваў ягонае дзеяньне на сабе. «Гэта было як пасьля бутэлькі шампанскага», пісаў прафэсар. Дзесяць дзён яго арганізм быў на неверагодным уздыме, паддосьледныя жывёлы таксама нібы наноў нарадзіліся, старыя асобіны паводзіліся нібы маладыя, а сілы маладых павялічыліся ў некалькі разоў. Пазьней гравідан паспрабавалі на хворых чырвонаармейцах, на наркаманах (якія такім чынам вылечваліся ад залежнасьці) і зьняволеных. А пакуль што прафэсара называлі «махляром» і «прайдзісьветам», прычым не за сьпінай, а ў галоўных савецкіх газэтах. І ён вырашыў уцячы з краіны туды, дзе прэпарат маглі ацаніць як сьлед.

За спробу ўцёкаў Замкова пакаралі высылкаю ў правінцыю, але неўзабаве гравідан атрымаў нечаканае прызнаньне наверсе, прафэсара вярнулі і нават даручылі кіраваць адмыслова створаным Інстытутам ураграводанатэрапіі. Быў наладжаны фабрычны выпуск новага леку. Паводле сваёй мэтодыкі Замкоў лячыў Молатава, Горкага, Кляру Цэткін. Праўда, апошнія двое хутка ска-

налі, нягледзячы на цудоўны гравідан. І ўвогуле, ад прэпарату чакалі большага. У 1938 інстытут зачынілі, у 1942 Замкоў памёр, а ў 60-х гадах вытворчасьць гравідану як «малаэфэктыўнага» і непатрэбнага лекавага сродку была ўрэшце цалкам спыненая. Савецкага звышчалавека навукоўцы так і не стварылі, з гэтым заданьнем партыі справілася хіба жонка Замкова скульптар Вера Мухіна, якая стварыла пачварнага памеру «Рабочага і калгасьніцу» – тут без гравідану відавочна не абышлося, яго прымалі і скульптар, і абедзьве статуі.

Прыкладна ў той самы час, калі Замкоў змагаўся за прызнаньне свайго гравідану, мача падалася добрым сродкам для выратаваньня чалавецтва іншаму навукоўцу – брытанцу Джону Армстрангу. Містэр Армстранг абвясьціў мачу ледзьве не панацэяй і хутка займеў даволі шмат прыхільнікаў па абодва бакі Атлянтычнага акіяну. Каб давесьці цудадзейную моц мачы і пераканаць урынаскептыкаў, містэр Армстранг зрабіў невялічкі подзьвіг: некалькі тыдняў ён нічога ня еў і піў адно ваду і ўласную мачу. Пацьверджаньне таго, што праўда на іхным баку, прыхільнікі Армстранга здолелі адшукаць нават у Бібліі: словы «Пі са сваёй крыніцы» з Кнігі прыпавесьцяў яны чамусьці інтэрпрэтавалі як заклік Бога да ўсеагульнага выкарыстаньня ўрынатэрапіі.

Натуральна, мача ў якасьці леку ад многіх хваробаў ужывалася і задоўга да Замкова і Армстранга. Яе – асьліную, мышыную, сабачую, а



таксама мачу цнатлівак, шыбенікаў і ведзьмаў – прапісвалі і ў старажытнасьці, і ў сярэднявеччы, калі навука, натуральна, была разьвітая значна лепш, чым цяпер. Але новы гістарычны шанец мача атрымала ў канцы 80-х і на пачатку 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя на абшарах амаль сканалага Савецкага Саюзу. Падманутыя савецкія людзі ня верылі ўжо ні ў што і былі гатовыя заўтра паверыць у што заўгодна і каму заўгодна. Яны верылі ў канец сьвету, Чумака, Кашпіроўскага, у тое, што раніцай адбудзецца другое прышэсьце, яны верылі ў іншаплянэтнікаў і рабыню Ізаўру, у мішак Гамі і татальную беларусізацыю, у тое, што Ленін – грыб, а іхная ўласная мача – амброзія і бясцэнны дар прыроды, прызначаны ў тым ліку і для ўнутранага спажываньня. Пенная плынь палілася ў трохлітровыя слоікі і малочныя бітоны, як маладое віно. У дактароў дадалося працы, як падчас вайны. Адна сьвятая шасьцідзесяцігадовая цётачка, аматарка прымаць зараджаную тэлевізарам мачу на галодны страўнік, раптам адчула, што ў яе аднавіліся мэнструацыі. «Я зноў стала жанчынай», горда казала яна, «і ўсё дзякуючы ўрынатэрапіі». У шпіталі высьветлілася, што ў цётачкі здарылася агульнае ўнутранае кровазьліцьцё ў выніку ўзьдзеяньня мачы на застарэлую язву страўніка. Сярод тых, хто ўпадабаў сваю мачу, было нямала пажылых і старых людзей, якія пілі яе літрамі, ня ведаючы, што з узростам у мачы становіцца ўсё больш ацэтону. Атручваньне ўласнай мачой – на гэта здольны толькі чалавек… Бо ніводзін з




сысуноў ня п’е ўласнай мачы і не абціраецца ёй, акрамя гома сапіенса.

З таго часу апантанасьць урынатэрапіяй у грамадзтве то затухала, то зноў пачынала біць паўнаводным струменем, але ніколі не зьнікала. Расейскі шаман і магістар ордэну жоўтага струменя Малахаў, які прапаведуе і практыкуе ўрынатэрапію ўжо шмат гадоў і ў арганізьме якога, здаецца, апрача мачы нічога не засталося, нават



вёў ня так даўно тэлеперадачку, спакушаючы нявінныя душы да пакланеньня ўласным вадкім адкідам і іх рытуальнага расьпіцьця. Мача даступная і танная, а тэлевізійны этэр неверагодна дарагі. Таму цуд адбудзецца, шаман абяцае.





# Хірургія

Штораніцы, заводзячы дачку ў садок, я праходжу міма незвычайнага гіганцкага пляката. «Ёсьць і нешта добрае ў тым, каб мець толькі адну нагу,» – жартуе выяўлены на ім абаронца паралімпійскай зборнай Нямеччыны па хакеі Матыяс Кох. – «Так, прынамсі, ломіш менш костак».

Можна толькі падзівіцца моцы духу гэтага чалавека, які нястомна папулярызуе спорт сярод інвалідаў, а заадно палохае са свайго пляката пакуль што яшчэ дзьвюхногіх пешаходаў, якія наважыліся хуценька перайсьці тут дарогу: «Ёсьць і нешта добрае ў тым, каб…» – усьміхаецца скрозь прарэзы шлема Матыяс Кох, і пешаходы робяць крок назад з праезнае часткі ды нехаця брыдуць да сьветлафора. Ня маючы адной нагі, Матыяс Кох уплывае на грамадзтва значна мацней за многіх, хто мае іх абедзьве, напрыклад, за мяне; ён вучыць людзей талерантнасьці, дае надзею зьнявераным, ён служыць жывым прыкладам, і яго нельга не паважаць за гэта.

Яшчэ нядаўна ягоны жарт палічылі б блюзьнерствам, гумарам шыбеніка, і ўжо дакладна нікому б не прыйшло да галавы пісаць такое на плякатах. У тым, старым, аджылым ужо грамадзтве чалавек, які перажыў ампутацыю і страціў якуюсьці сваю канцавіну, быў асуджаны на жыцьцё ўбогае і бязрадаснае, ён мусіў выклікаць толькі шкадаваньне і трымацца далей ад «нармальных». Паўчалавека, няшчасны кавалак мяса, які просіць лусту хлеба – такая была яго роля, і наўрад ці нехта б пагадзіўся, калі б інваліды раптам запатрабавалі лічыць іх паўнавартаснымі людзьмі, а ня гэтымі вартымі жалю бутэрбродамі.

Герархіі былі непахісныя, ня тое што цяпер; кожны адыгрываў адведзеную яму ролю, і нездарма тыя інваліды, што парушалі статус кво, былі часьцей за ўсё маргіналамі, злачынцамі, адрынутымі: прыгадаем самую знакамітую жанчыну ў расейскай гісторыі – Бабу Ягу-Касьцяную Нагу, або брытанца Джона Сылвэра, аднаногага жыцьцялюба-арнітоляга, які камандаваў бандаю піратаў, ці ягонага праўнука крымінальніка Джонатана Смола з конандойлаўскае навэлы «Знак чатырох». Грамадзкая актыўнасьць інвалідаў, такім чынам, не віталася. Але дзякуючы бясконцым войнам працы ў лекараў заўжды хапала – як і зьнявечаных мужчын на гарадзкіх вуліцах. Сядзець ля цэркваў і на рынках, выставіўшы напаказ свае калецтвы, з працягнутай рукой, калі яна яшчэ была – вось чаго ад іх чакалі. А міма тых цэркваў, а па тых рынках горда ішлі, заклаўшы рукі за сьпіну, спадары хірургі, прыцэньваліся



да сьвежае сьвініны ды ялавічыны, і ад спадароў хірургаў пахла крывёй…

Бо народная сьвядомасьць заўжды залічала хірургаў у той самы прафсаюз, што і катаў зь мясьнікамі. І рэч тут ня толькі ў падабенстве інструмэнтарыю – хаця і ў ім таксама: усе гэтыя пілачкі, ножыкі, сякерачкі, шчыпчыкі… Рэч у незваротнасьці вынікаў іхнае працы, рэч у амаль боскай далучанасьці да пытаньняў жыцьця і сьмерці, у разуменьні таго, наколькі нетрывалая нітка злучае жывую істоту з гэтым сьветам і наколькі яе можна напяць, не парваўшы. Кат, рыхтуючыся адсячы галаву, ведаў, дзе і як біць, каб ахвяра памерла імгненна, лёгка (асуджаныя нават плацілі кату, каб той зрабіў усё з аднаго разу); мясьнік разумеў жывёлаў значна лепш за вэгетарыянцаў і адчуваў зь імі мэнтальную сувязь; хірург жа, беручы ў рукі нож, станавіўся і катам, і мясьніком – але адначасова і збаўцам, у большай ступені за ўсіх іншых мэдыкаў узвальваючы на сябе функцыі бога. Калі жыцьцёвыя нягоды не пакідаюць больш выйсьця, чалавек у роспачы пачынае маліцца; калі ніякае лячэньне не дапамагае і патрабуецца грубае і жорсткае ўмяшаньне – ён ідзе да хірурга.

Хірург – дэміург, хірург ускрывае пацыента і зашывае яго наноў, ён адразае, адсякае непатрэбнае, зьмяняе, карэктуе, надае новую форму чалавечаму абліччу – карацей, вяртае чалавека туды, адкуль ён выйшаў, у стан падатлівай і мяккай гліны. Хірург, так бы мовіць, паляпшае чалавека і праз свае апэрацыі ўдасканальваецца

сам: «гліна – нігіль, нішто, але ў боскіх руках яна становіцца геніяльнай», як піша Алесь Разанаў.

У сытуацыі, калі ампутацыя пэўных органаў магла быць сродкам ня толькі паратунку, але і пакараньня, хірургаў баяліся ня менш за ката. А як яшчэ маглі да іх ставіцца? Пазбаўленьне чалавека розных частак цела, з дапамогай якіх ён можа карыстацца рознымі штучнымі прыладамі рукі або нагі (ад матыкі і мяча да хакейнай клюшкі) здавён лічылася найсправядлівейшай расплатай за злачынствы. Самы прагрэсіўны і таму, відаць, апошні з імпэратараў Этыёпіі Хайле Сэласіе ўвайшоў у гісторыю сваёй краіны яшчэ й тым, што адмяніў барбарскае пакараньне за дробныя злачынствы, калі вінаватым адсякалі рукі або ногі – цяпер іх сталі проста забіваць або саджаць у турму. Зрэшты, у іншай краіне – Пакістане – празь некалькі дзесяцігодзьдзяў, у сямідзясятых, такія пакараньні палічылі ўсё ж някепскай завядзёнкаю: ня менш прагрэсіўны за Хайле Сэласіе Зія-Уль-Хак аднавіў такім чынам старажытную шарыяцкую традыцыю. Дагэтуль у некаторых мусульманскіх краінах злодзеям адсякаюць члены, прычым цалкам законна – бо шануюць даўніну і берагуць сваіх нешматлікіх, вывучаных у заходніх унівэрсытэтах хірургаў.

Містычны страх перад хірургамі існаваў заўжды, але свайго апагею дасягнуў, напэўна, у Сярэднявеччы: за сваю працу хірург рызыкаваў быць спаленым жыўцом – усё залежала ад таго, наколькі багатую фантазію мелі інквізытары. Нічога дзіўнага, што хірургі ўсё часьцей сталі



згадвацца ў казках і паданьнях, прычым хутчэй як сіла д’ябальская, а ня боская. У адной з казак братоў Грым пад назваю «Тры фэльчары» апавядаецца пра лекараў (відавочна, ня фэльчараў, а хірургаў), якія вандравалі па сьвеце і паказвалі свае ўменьні. Неяк яны хацелі пераначаваць у адной карчме; гаспадар папрасіў гасьцей прадэманстраваць іхнае майстэрства. Адзін адрэзаў сабе руку, другі выдастаў з грудзей сэрца, трэці выкалаў сабе вочы – і ўсё з абяцаньнем назаўтра вярнуць ампутаваныя органы на месца. Празь няўважлівую служанку ўсе гэтыя прычындалы скрала котка; служанка, каб на яе не насварыліся, падсунула раніцай лекарам сэрца сьвіньні, кашэчыя вочы і руку злодзея. Няцяжка здагадацца, што з гэтага выйшла…

Той сярэднявечны страх перад хірургіяй у наш час усё яшчэ могуць адчуць тыя, чыё ўспрыманьне не сапсаванае асьветаю. Напрыклад, дзеці. Ва ўзросьце гадоў так дзесяці я выпадкова прачытаў недзе, як падчас другой сусьветнай рабілі тэрміновую апэрацыю ў нейкім партызанскім атрадзе: хворага, у якога пачыналася заражэньне крыві, напаілі самагонам і іржавай пілой на жывую адпілавалі яму нагу. Некалькі начэй я ня мог спаць, чуючы ў цемры гук той пілы: хрым-хрым, хрым-хрым. І крыкі ўратаванага партызана.

Пакуль мэдыцына не пайшла сямімільнымі крокамі, не навучылася змагацца з сэпсісам і ня вынайшла прымальны наркоз, пад нажамі хірургаў гінула ненашмат менш людзей, чым пад сякерай ката. Але потым усё зьмянілася. Хірурга





нарэшце ацанілі належным чынам, хірург стаў героем, хірургія была прызнаная заняткам творчым, чымсьці на мяжы эпікі і трагікі. Боскі характар хірургіі быў адлюстраваны ў сотнях літаратурных твораў, часам даволі сур'ёзных. Уласна, кожны хірург, нават выдуманы – сам па сабе гатовы раман, застаецца паставіць яго ў належныя часавыя і грамадзкія ўмовы. Равік з «Трыюмфальнай аркі» Рэмарка, хірург зь беларускім прозьвішчам Кукоцкі Людмілы Ўліцкай – хто ведае, ці атрымаліся б гэтыя пэрсанажамі такімі яскравымі, калі б ня іхная прафэсія.

Лічыцца, што хірургі – найбольшыя цынікі з усіх дактароў. Калісьці мне дужа падабаўся такі анэкдот, прыдуманы, напэўна, студэнтамі мэдынстытуту: хірург робіць апэрацыю, з-пад хірургічнага стала чуецца працяглае: «Мяў! Мяў! Мяў!» Урэшце хірург не вытрымлівае, хапае нешта з вантробаў і кідае на падлогу: «Ну на, на, жары, на, падавіся!»

Перад дактарамі ўсе роўныя, бы на Страшным судзе. Мяў, мяў… Ці сапраўды гэта цынізм? Мяркую, не – хутчэй, сьвятая адслоненасьць дыплямаванага бога.





# Цяжарнасьць

Калі нядаўнія цяжарныя, а сёньня гордыя і бледныя мамачкі зьбіраюцца разам, іхныя размовы часта нагадваюць успаміны дэмабілізаваных. «Ты ў якім раддоме нараджала?» гучыць як «У якім палку служыла?»; яны абмяркоўваюць перанесеныя турботы, строгасьць камандзіраў, беднасьць рацыёну, начныя пад'ёмы па трывозе, яны са смакам пералічваюць тое, ад чаго ім давялося адмовіцца пасьля прызыву, і перавагі жыцьця на «гражданцы».

Яны і праўда героі, кожная зь іх, і цяжка вызначыць, да якога роду войскаў іх аднесьці: іхная служба была «і апасна, і трудна», і, пачынаючы недзе з чацьвертага месяца ўсё больш і больш «відна». Я назіраў сярод іх нават нейкае падабенства «дзедаўшчыны», дакладней, «бабаўшчыны»: калі саракагадовыя з пагардаю глядзяць на дваццацігадовых з агромністымі жыватамі і стараюцца непрыкметна штурхнуць іх

у натоўпе – у мэтро ці на людных сходах ГУМа. Але большасьць любіць цяжарных, усьміхаецца ім і саступае месца перад канцавой станцыяй – ім, гэтым навабранцам у вайне чалавецтва за сваё існаваньне. Дзеці глядзяць на іх, шырока расплюшчыўшы вочы, анёлы сьпяваюць ім зь нябёсаў, і нават грузчыкі мацюгаюцца цішэй. Цяжарнасьць – рэдкі выпадак у жыцьці чалавека, калі доўг і шчасьце супадаюць.

Цяжарнасьць стаіць на першым месцы ў маім прыватным рэйтынгу цудаў, на шмат пунктаў апераджаючы «вай-фай», набокаўскую прозу і гарачыя булачкі. Цяжарнасьць уражвае мяне як нешта бясконца містычнае і неспазнавальнае.

Калі мая жонка была цяжарная, мы, як і большасьць параў у нашым становішчы, езьдзілі, прыхапіўшы чакалядку, каньяк і чыстую відэакасэту, у загадкавы Цэнтр прэнатальнае дыягностыкі, дзе жонцы рабілі так званае «узі», ультрагукавое дасьледаваньне. На чорна-белым экране манітора мы пабачылі нашую дачку, якая яшчэ не нарадзілася, але ўжо была Ульянай Бахарэвіч. Суворая доктарка, узяўшы каньяк і чакалядку, запісала на касэту некалькіхвілінны фільм, сюжэт якога складаўся з жэстыкуляцыі вышэйпамянёнай Ульяны – нагамі і рукамі. «Дзяўчынка,» – тыцнула доктарка асадкаю ў манітор. А яшчэ раней мы атрымалі на «узі» здымак, на якім, у правым куце, была відаць чорная кропка – тая самая Ульяна ва ўзросьце некалькіх тыдняў… З малой, амаль незаўважнай кропкі Ульяна вырасла ў доўгі, мэтар дваццаць ростам, хударлявы пяцігадовы



пытальнік – хто ведае, кім яна стане, у якой краіне будзе жыць і што думаць пра нас, яе бацькоў? Цуд і ў тым, што дачка цяпер можа паглядзець, як яна жыла да свайго афіцыйнага нараджэньня, убачыць тое, што яшчэ нядаўна ня мог ніводзін чалавек у сьвеце.

І хіба ня цуд тое, што зусім няма пэўнасьці: хто стане вынікам адной звычайнай цяжарнасьці – геній, злодзей, пасрэднасьць, іншаплянэтнік ці проста «нехта з Порлака»? Знакаміты верш Віславы Шымборскай пра немаўля Гітлера вельмі добра перадае гэты стан сьвятога няведаньня бацькоў, бо хто іх, небаракаў, папракне…

Цяжарнасьць – прыватны цуд, прыватнае шчасьце, але не заўжды прыватная справа. Асабліва калі вядзецца пра цяжарнасьці каралеваў і іншых першых лэдзі. Шчасьлівыя заканчэньні некаторых цяжарнасьцяў у сусьветнай гісторыі прыводзілі да чалавечых ахвяраў, палітычных інтрыгаў, перадзелу тэрыторыяў, зьмены ладу, пераваротаў, рэвалюцый і іншых катаклізмаў. Да кровапралітных войнаў – то бок да сотняў тысячаў нечых няспраўджаных цяжарнасьцяў. Нараджэньне і лямант нейкага немаўляці блакітнай крыві станавілася, па волі бацькоў, нацыянальным сьвятам для людзей, якія тое немаўля ніколі ня бачылі і пабачыць не маглі.

Зрэшты, людзі рэдка пратэставалі, наадварот: бадай, кожны радаваўся так шчыра, нібы сам прычыніўся да нараджэньня прынца, мужчыны з простага народу адчувалі сваю віртуальную далучанасьць да ложка Яе Вялікасьці, што ўжо

само па сабе непагана, а жанчыны цешыліся, нібы самі тое дзіця вынасілі і нарадзілі. Жанчынам шанцавала болей – зь іх бралі карміліцаў для спадчыньніка, мужчынам заставалася толькі паміраць за чужога малога. Цікава, што рэдка калі народ адчуваў да прынца непрыязнасьць ці нянавісьць, нават калі бацька быў тыран – зь цяжарнасьцю каралевы зьвязвалася надзея на перамены…

Усё сьвядомае жыцьцё хрысьціянскага сьвету можна зьмясьціць паміж дзьвюма цяжарнасьцямі – відаць, самымі знакамітымі і дзіўнымі цяжарнасьцямі ў гісторыі. Маецца на ўвазе цяжарнасьць Дзевы Марыі і нядаўняя цяжарнасьць аднаго амэрыканскага мужыка, які пры больш уважлівым разглядзе аказаўся ўсё ж не зусім чыстым у сэнсе полу. У першым выпадку мы атрымалі Збаўцу. У другім – таксама пазбаўленьне, ад некаторых ілюзій адносна мэтаў сучаснае навукі. Пэўны час чалавек носіць замест вопраткі ўласную маці, пісаў Юрась Барысевіч. Цяпер дадамо: ці ўласнага тату.

У абодвух вышэйзгаданых выпадках, аднак, цяжарнасьць стала магчымай дзякуючы экстракарпаральнаму апладненьню. І ў абодвух выпадках цяжарныя не маглі паскардзіцца на недахоп увагі: ні з боку мэдыяў, ні з боку прагрэсіўнага чалавецтва, ні з боку рэлігійных фундамэнталістаў. Толькі Езус нарадзіўся ў экалягічна чыстай стайні, а другое дзіця – у задушлівым і забруджаным сьвеце постіндустрыйнай эпохі.

Я спачуваю тым, хто з той ці іншай прычыны



ня здольны на цяжарнасьць. Пакуль ня здольны – сучасная навука дае ім шанец, дый ва ўсіх свая гадзіна Ц – магчыма, яна проста яшчэ не надышла. Але пагарду, шкадаваньне і недаўменьне выклікаюць у мяне тыя, хто сьвядома адмаўляецца мець дзяцей – дзеля хімэрнае кар’еры ці, што яшчэ страшней, з-за дурной ідэі. Яны, гэтыя «чайлд фры», пазбаўляюць сябе многага з таго, што ім наогул можа даць небагаты на гасьцінцы сьвет: напрыклад, таямнічых сэйсьмічных штуршкоў на жываце, найпрыямнейшых мараў, найпрыгажэйшых у сваёй бессэнсоўнасьці здагадак, найшчасьлівейшай бяссоньніцы; далучанасьці да цуду, да Працягу, які заўжды Будзе.





# Шаленства

Вампіры ня любяць Люі Пастэра – і іх можна зразумець. Нават сьціплы партрэт гэтага француськага навукоўца, выразаны зь Вялікай савецкай энцыкляпэдыі і павешаны ў перадпакоі, становіцца для хцівага крывасмока неадольнай загародай – вампір ніколі не наважыцца ўвайсьці ў такую кватэру, ён будзе доўга і тужліва выць на лесьвічнай пляцоўцы, удаючы заблукалага супрацоўніка Мінгазу, і ўрэшце сыдзе, пакінуўшы пасьля сябе лёгкі водар аміяку – каб болей ніколі ўжо не вярнуцца...

Менавіта Пастэр, утаймоўнік сібірскай язвы і халеры, распрацаваў больш за сто гадоў таму цудадзейную вакцыну, пасьля якой колькасьць вампіраў у Старым і Новым сьветах пачала рэзка скарачацца. Славутыя героі легендаў і паданьняў нечакана былі разжалаваныя ў звычайныя пацыенты і апынуліся ў панылай чарзе да доктара Пастэра і ягоных вучняў. Бо высьветлілася,

што карані народных уяўленьняў пра вампіраў, вэрвольфаў, вахтароў студэнцкіх інтэрнатаў і іншых ваўкалакаў растуць не адкуль-небудзь, а з хваробы пад назваю рабіес, ці шаленства, якая пужае чалавецтва з таго часу, зь якога яно сябе памятае.

Сапраўды, такі родны і блізкі ўсім нам вобраз вампіра шмат у чым паўтарае клінічную карціну шаленства. Вось толькі некалькі простых падабенстваў. Укушаны вампірам сам становіцца крывасмокам – то бок перадача вірусу ў абодвух выпадках ажыцьцяўляецца праз укус, празь сьліну. Адным з галоўных сродкаў барацьбы супраць вампіраў ёсьць сьвятая вада, якую яны ня здольныя трываць – як тут не прыгадаць характэрную для шаленства гідрафобію, вадабоязь. Вампір уцякае ад паху часныку – хворыя на шаленства наогул не выносяць моцных раздражняльнікаў: пахаў, гукаў, сьвятла. Вампір не адлюстроўваецца ў люстры – па шматлікіх сьведчаньнях, на другой стадыі шаленства чалавек пачынае ненавідзець сваё адлюстраваньне і панічна яго баяцца. Агрэсія, трывога, страх – усё гэта ў крывасмока і хворага на рабіес агульнае, а позы, якія любяць прымаць галівудзкія вампіры, дужа падобныя да праяваў паралюшу канцавінаў, уласьцівых трэцяй стадыі разьвіцьця хваробы.

Век хворага на шаленства кароткі і імклівы – як жыцьцё інсэкты, якая пакінула джала ў нечаей скуры. Як сэзонная слава чарговага «фільму жахаў» і запрошанай да ўдзелу ў ім «зоркі».

Вось жа, цалкам магчыма, што граф Дракула быў у дзяцінстве вельмі добрым хлопчыкам, які не пакрыўдзіў і мухі. Але аднойчы, зьбіраючы на лузе кветкі для сваёй малодшай сястры, ён пабачыў у полі мышку і ўзяў зьвярка ў свае пульхныя ручкі. А мышка малога графа сваімі вострымі зубкамі – гам!.. Грызуны спрадвеку былі галоўнымі пераносчыкамі вірусаў.



Такім чынам, адкрыцьці Пастэра паклалі канец эпосе веры ў вампіраў. Ува ўсіх больш-менш вялікіх гарадах паадчыняліся пастэраўскія станцыі, што сачылі за эпідэміялягічнай сытуацыяй і праводзілі вакцынацыю – праўда, толькі ў раёнах, заселеных параўнальна заможнымі гараджанамі. У губэрнскім горадзе Менску такая станцыя была адчыненая ў 1911 годзе; у кастрычніку таго самага году «Минскія врачебныя извѣстія» пішуць, напрыклад: «Собачье бѣшенство болѣзнь рѣдкая и наблюдать ее приходится, главнымъ образомъ, больничным служащимъ».

Вядома, шаленства – і цяпер хвароба ня надта распаўсюджаная, але ж і вылечыцца ад яе практычна немагчыма; калі тэрмінова не зьвярнуцца па мэдычную дапамогу, яна фактычна – сьмяротны вырак. Да 2009 году было вядома толькі каля дзевяці выпадкаў пасьпяховага лячэньня тых, хто не прайшоў своечасовай вакцынацыі. Адну амэрыканку вылечылі надта дасьціпным спосабам – увялі яе ў штучную кому, справядліва разважыўшы, што вірус шаленства выклікае толькі часовыя, хаця і незваротныя, парушэньні цэнтральнай нэрвовай сыстэмы. Распавядаюць пра ёга, які, укушаны сьвяшчэннай каровай,

адной толькі сілай унушэньня прымусіў сябе не захварэць на шаленства – настолькі упэўнена ён кіраваў сваім арганізмам, настолькі стабільны быў стан ягонай нэрвовай сыстэмы. Але прайшло некалькі год і вось аднойчы ёга нешта моцна засмуціла – хто ведае, што менавіта: мо пройгрыш нацыянальнай зборнай на Кубку Азіі, а можа, сьмерць Мэрылін Манро – і ён дазволіў сабе расслабіцца. З-за стрэсу нэрвовая сыстэма дала збой, і вірус шаленства, што драмаў у засадзе, вырваўся на свабоду – праз некалькі дзён ёг памёр.

Цікава, што выпадкі шаленства зусім не рэгіструюцца на такіх кантынэнтах, як Аўстралія і Антарктыда. А вось зусім недалёка ад Беларусі (на адлегласьці прыкладна адной братэрскай любові), у краіне Вэнэсуэле пастэраўскія ідэі дагэтуль не знайшлі сабе досыць шырокага выкарыстаньня. Там у джунглях жыве маленькі індзейскі народ варао, што верыць у сваё паходжаньне ад Вялікага нябеснага паляўнічага, які калісьці прастрэліў у небе дзірку і спусьціўся праз яе на зямлю. Варао пакутуюць ад эпідэміі шаленства, якім яны заразіліся ад кажаноў. Вялікі зямны паляўнічы Уга Чавэс, кажуць, не сьпяшаецца дапамагаць варао. Калі так будзе і далей, то варао нічога не застанецца, як паглоўна вярнуцца туды, адкуль прыйшоў заснавальнік іхнага роду, і шчыльна заклеіць за сабой адтуліну ў небе.

Адной рукою мы гладзім котку, а другой зьнішчаем тысячы бяздомных жывёлін, адзіная віна якіх у тым, што яны існуюць побач з намі. Мне



здаецца, шаленства заўжды было пэўным знакам звыш, нагадваньнем людзям, якія падпарадкавалі сабе «меншых братоў», пра жывёльную сутнасьць чалавека, пра нашае з жывёлінамі агульнае паходжаньне. Укус чалавека хвораю на шаленства жывёлінай – як пацалунак раба, які ў апошнюю хвіліну перад сьмерцю вось так нагадвае свайму тырану-гаспадару пра роўнасьць і адказнасьць, спрабуе абудзіць у ім гуманнасьць і спагаду. Да таго часу, пакуль чалавек не перастане забіваць жывёлін дзеля забавы і прэстыжу, будзе доўжыцца гэты маўклівы пацалунак, сьмяротны ўкус. Ён выкрывае бязьлітасную сутнасьць чалавека, ён, як выбух у мэтро, – апошняя, скрайняя мера, роспачны адказ на тэрор пераможцаў.

Шэсьцьдзесят балючых уколаў у жывот таму, каго ўкусіла бяздомная жывёліна – як шэсьцьдзесят сярэбраных куляў, выпушчаныя па вампіры: так адстрэльваецца ад нас прырода.





# Эпілепсія

У адну з халодных асеньніх начэй 1540 года гатэль «У льва», што ў Штаўфэне-у-Брайсгаў, скаланулі жудасныя крыкі. Гаспадары і пастаяльцы, схапіўшы сьвечкі, зьбегліся да пакоя, зь якога чуўся гэты нечалавечы лямант, але ніхто не наважваўся туды ўвайсьці. Неўзабаве крыкі сьціхлі, але яшчэ нейкі час у нумары чуўся моцны грукат і тупат, падала мэбля, зьвінела шкло. Толькі раніцай, перажагнаўшыся, гаспадар выламаў дзьверы. На падлозе, заліты крывёй, ляжаў скурчанае, зь пераламанымі шыяй і рэбрамі цела доктара Ёгана Фаўста. Ён жыў тут адзін, і ў вечар перад сьмерцю да яго не заходзіла ніводная жывая душа.

Дагэтуль лічыцца, што доктара Фаўста ў тую ноч наведаў Мэфістофэль, каб спагнаць зь яго плату: калісьці доктар заключыў з Мэфістофэлем дамову на дваццаць чатыры гады, і акурат той ноччу дзеяньне дамовы скончылася. Мольбы пра адтэрміноўку не дапамаглі – з пэдантычнасьцю,

якую памылкова лічаць чыста нямецкай, бюракрат Мэфістофэль прыкончыў беднага доктара, зрабіў вопіс ягонай душы і спакойна зьехаў у свой змрочны офіс.

Таямнічая гісторыя, здольная натхніць ня толькі Гётэ і японскіх турыстаў. Але, калі не зважаць на містыку, цалкам магчыма, што ў схільнага да дэпрэсіі, алькагалізму і бяссоньніцы доктара ўначы здарыўся прыступ эпілепсіі – адной з самых літаратурных хваробаў у сьвеце. Вядома, што падчас прыступу эпілептыкі часта робяць сабе сур'ёзныя траўмы – нездарма ад чалавека, які прысутнічае пры гэтым, патрабуецца перш за ўсё дапамагчы эпілептыку не параніць сябе і не задыхнуцца, сутаргі з часам пройдуць. Доктар быў адзін у цесным пакоі і, верагодна, забіў сябе сам…

Але ж ці маем мы права, гаворачы пра эпілепсію, зусім ігнараваць jenseits – тое, што знаходзіцца па той бок нашага сьвету? Сярэднявечныя крыніцы, вартыя даверу дзякуючы сваёй вузкай спэцыялізацыі на нячыстай сіле, недвухсэнсоўна папярэджваюць: маг, які, выклікаючы духаў, памыліцца ў заклёнах або разьліках, рызыкуе стаць ахвярай апаплексычнага ўдару (інсульту) або <u>жорсткага эпілептычнага прыступу.</u> Мо Фаўст проста хацеў выклікаць духа, каб пагаварыць зь ім? Тады можна даволі лёгка ўявіць сабе адурэлага ад бяссоньніцы й віна доктара, які ў тую ноч, на сваю бяду, нешта зрабіў ня так. Чалавечы фактар – так гэта называюць на руінах атамных электрастанцый.



«Шляхціца Завальню» Яна Баршчэўскага я ўпершыню прачытаў яшчэ школьнікам. Мо таму, што гэта адбылося яшчэ на гарманальнай стадыі пераходу ў беларускасьць, мо таму, што гэта сапраўды цудоўная літаратура, але гэтыя гісторыі, дый малюнкі Славука, зачаравалі так, што дагэтуль цягаю кніжку з сабой, дзе б ні жыў, час ад часу перачытваючы любімыя апавяданьні, а некаторыя і дачцэ нядаўна пачаў чытаць. Вось як апісваецца там сьмерць Гугона, вучня чарнакніжніка Твардоўскага:

«…на стале ўбачыў велізарную кнігу ў старасьвецкім пераплёце з пэргаміну, зьдзівіўся, бо першы раз у жыцьці сустрэў белы друк на чорнай паперы, і ледзь прачытаў паўстаронкі, зьявіўся перад ім чараваты карузьлік, вочы сьвяціліся белым агнём, твар чорны, як вугаль. – Навошта ты мяне выклікаў? – сказаў злы дух, гледзячы на Гугона, але таму заняло мову ад пярэпалаху. Угневаны шатан выцяў яго і забіў…»

Неспрактыкаваны ў чарнакніжніцтве Гугон абышоўся з магічнымі правіламі па-дылетанцку і атрымаў тое самае, што няшчасны доктар Фаўст. Калі Твардоўскі, які неабачліва пакінуў незамкнутымі дзьверы ў свой кабінэт, вяртаецца, то, баючыся абвінавачваньня ў забойстве, загадвае шатану ўсяліцца ў мёртвае цела Гугона:

«Д'ябал імгненна залез у цела, і Гугон ажыў, але зусім іншы: вочы блішчалі, але гэты бляск быў прыкры, твар меў той самы, ды ў ім было нешта агіднае».

Ці варта сумнявацца, што і з Гугонам адбыўся

насамрэч эпілептычны прыпадак, які прывёў да сьмерці?

У тое, што падчас эпілептычнага прыступу ў цела чалавека нехта ўсяляецца, верылі яшчэ старажытныя грэкі і рымляне, называючы эпілепсію «боскай» або «Геркулесавай хваробай». Дый у наступныя стагодзьдзі вера гэтая доўгі час заставалася адзіным тлумачэньнем эпілепсіі. Разыходжаньні ўзьнікалі хіба адносна таго, хто ўсё ж карыстаецца гасьцінным целам эпілептыка: дух, д'ябал, ягоныя слугі, бог, нехта яшчэ? Эпілепсію альбо лячылі з дапамогай найноўшых дасягненьняў экзарцызму, альбо ўспрымалі эпілептыка як рэтрасьлятар, абраны Богам дзеля аднаму яму вядомых мэтаў. Відавочна было адно: сам эпілептык тут ні пры чым, ягоным целам кіруе нейкая іншая воля.

Часам духу патрэбнае цела, як паразыту – арганізм гаспадара, як палітыку – тэлебачаньне, яно патрэбнае духу ў тым самым сэнсе, як салдату патрэбнае цела прастытуткі або цела салдата – міністэрству абароны. Паслухмянае цела, больш-менш надзейная абалонка, якая будзе выконваць тое, што трэба. Але чужое цела – рэч непрадказальная. Калі няма на прыкмеце добрага цела, можна змайстраваць новае, з падручных матэрыялаў, і пасяліцца там, нібы ў гатэлі – або ў штабе тэрарыстычнай арганізацыі?

…Штотыдзень праходзячы міма царквы сьвятога Пятра ў цэнтры Гамбургу, я да пары не падазраваў, што зь яе паўднёвага боку, недалёка ад Домштрасэ і Шпээрсорт, у XIX стагодзьдзі знаходзілася элітная гімназія Ёганэум, дзе пэўны час вучыўся Густаў Майрынк, вядомы перадусім як аўтар «Голэму». І хаця дасьледчыкі і кажуць, што Майрынк насамрэч ня быў добра абазнаны ў яўрэйскай міталёгіі, што ягоны «Голэм» – хутчэй сатыра, чым вынік навуковых ведаў, усяленьне душы ў штучна створанае цела і начныя эпілептычныя сутаргі старой Прагі ён апісаў вельмі дакладна. Голэма, кажа герой раману, «вылепіў адзін абазнаны ў Кабале рабін і паклікаў яго да бяздушна-аўтаматычнага існаваньня, уклаўшы яму ў рот магічны лічбаслоў. І як той Голэм зноў застывае ў вобразе глінянага балвана, калі зь ягонага рота дастаць тую таямнічую сілабу жыцьця, гэтаксама… павінны імгненна падаць мёртвымі ўсе людзі…» Ён кажа таксама пра цела, у якое душа адзетая, як у лапсардак – «і людзі паверылі, што перад імі Голэм» (*пераклад Васіля Сёмухі*).



Тое, што ў аснове розных мітаў і паданьняў ляжалі цалкам канкрэтныя, агульнапрызнаныя і занесеныя ў сьпісы сусьветнай арганізацыі аховы здароўя хваробы, не падлягае сумневу. Думаць пра гэта – вычварная асалода, загадак хопіць яшчэ на стагодзьдзі.

Зрэшты, сам Майрынк, у адрозьненьне ад шматлікіх сваіх калег, на эпілепсію не хварэў і наўпрост у рамане яе ня згадвае. І наогул, як заўважыла адна з гераіняў «Голэму», магія – дар, а астатняе можна спасьцігнуць з дапамогай настаўніка. Такім настаўнікам па эпілепсіі цалкам мог бы стаць беларускі расейскамоўны пісьменьнік Хведар Дастаеўскі, якога настолькі

ўціскалі беларускія нацыяналісты, што ён зьехаў нараджацца ў Маскву і назло бэнээфаўцам стаў там знакамітым на ўвесь сьвет. Творчасьць Дастаеўскага напоўненая эпілепсіяй, як бясплатны інтэрнэт парнаграфіяй. Князь Мышкін з «Ідыёта», Сьмердзякоў з «Братоў Карамазавых» і гэтак далей – Дастаеўскі таксама выразна падзяляе эпілептычную сутнасьць на цела-аб'ект і душу-суб'ект і піша пра эпілепсію як пра «крык духа, які страсянуў цела і абрынуў цела няшчаснага». Але раманаў пісьменьніку было мала, ён апублікаваў таксама «Дзёньнікі», у якіх падрабязна апісаў свае прыступы. Творчасьць Дастаеўскага даўно ўвайшла ў залаты фонд мэдычнай літаратуры, хаця Набокаў і лічыў яго ўсяго толькі «таленавітым журналістам». Няма сумневу, што «таленавітаму журналісту» было што сказаць: у 1849 годзе ён, асуджаны да расстрэлу, ужо стаяў на Сямёнаўскім пляцы перад ротай салдат, калі сьмяротны прысуд у апошнюю хвіліну замянілі катаргай. Ёсьць меркаваньні, што эпілепсія ў яго абвастрылася акурат пасьля гэтага – і не адпускала ўжо да канца жыцьця. Праўда, афіцыйна памёр ён ад эмфізэмы.

У часы Дастаеўскага эпілепсія пакідае Краіну Цудаў і духаў і трапляе нарэшце пад увагу навукі, але і тады да эпілептыкаў працягвалі ставіцца з падазрэньнем. І цяпер псыхолягі-характаролягі вылучаюць адмысловы «эпілептоідны» тып асобы, якому ўласьцівыя дэспатызм, капрызьлівасьць, крывадушнасьць і помсьлівасьць. Не кранаючы саму трагічную сутнасьць хваробы,



эпілептыкаў называюць вялікімі маніпулятарамі. І ўсё гэта ў дадатак да празьмернай экзальтаванасьці, часта рэлігійнай, і веры ў сваё вышэйшае прызначэньне. Нямецкі псыхіятар Крэпэлін называў эпілептыкаў людзьмі «зь Бібліяй у руках і каменем пад пахаю». Цікава, што гэтае азначэньне якраз добра пасуе Дастаеўскаму, які пасьля катаргі палка палюбіў Хрыста і адначасова ўзьненавідзеў яўрэяў («…жыдкі будуць піць народную кроў і жывіцца распустай і прыніжэньнем народным…»). У чым Дастаеўскі быў сапраўдны, а дзе граў ролю? Мусіць, шчыры ён усё ж быў і ў любові, і ў нянавісьці, балазе хрысьціянства дазваляе і нават заахвочвае такія камбінацыі; дый дзе яна праходзіць, мяжа шчырасьці пісьменьніка, пагатоў пісьменьніка хворага? А яшчэ клясык не любіў немцаў, усяляк іх прыніжаючы, хаця прайграваць ганарары езьдзіў менавіта да іх. Традыцыя, якую ахвотна падхапілі беларускія мастакі пачатку XXI стагодзьдзя, якія часам так любяць закасіць пад эпілептыкаў.

Невядома, чым будуць лічыць і чым будуць лячыць эпілепсію праз сто, дзьвесьце, пяцьсот гадоў. А вось свой адказ на пытаньне, чым будуць тады лічыць і лячыць творчасьць, даў у дваццатых гадах мінулага стагодзьдзя Яўгені Замяцін. У грамадзтве, якое ён апісаў у антыўтопіі «Мы», у лекцыях па гісторыі музыку (у час дзеяньня рамана – нешта архаічнае, даўно забытае) пагардліва называюць «невядомай формай эпілепсіі». У чымсьці таталітарнае грамадзтва Замяціна мела

рацыю: ад эпілепсіі цярпелі, напрыклад, Гендэль, Мусаргскі, Ян Кэртыс...

Нават няўзброенага мэдычным дыплёмам чалавека сьпіс самых знакамітых эпілептыкаў прымушае задумацца пра пэўную ўзаемасувязь гэтай хваробы і палітыкі. Адкуль зьяўляюцца ўсе гэтыя навязьлівыя ідэі пабудовы ўласнай імпэрыі або ўласнага Граду Божага – прычым любым коштам? Ці ня ёсьць гэтая апантанасьць праявай таго самага мэсіянства, таго самага дэспатызму, і той «сьмердзякоўскай» жорсткасьці, уласьцівых эпілептоідам? Юлі Цэзар, Аляксандр Македонскі, Іван Жахлівы, Напалеон Банапарт, Папа Пій IX, па некаторых зьвестках – Ленін і Гітлер, дый наогул розныя дробныя і вялікія дыктатары. Улучна з дынамітным каралём Нобэлем, які ўрэшце раскаяўся і заснаваў прэмію па літаратуры. Што да літаратараў, то чорт іх разьбярэ: магчыма, і можна знайсьці нешта злавеснае ў сьпісе з Дантэ, Флябэра, Стэндаля, Дастаеўскага, Філіпа Дыка, але нічога не прыходзіць у галаву, апрача таго, што прозьвішчы траіх пачынаюцца на «д». Кожны зь іх выклікаў асеньнімі начамі сваіх духаў, бо што ёсьць літаратура, калі не памылкі ў звыклых заклёнах. Эпілепсія не азначае геніяльнасьці, але геніяльнасьць часта суправаджаецца эпілепсіяй. А тая – бязьмернай адзінотай, якая накочвае на чалавека, нібы доўгая хваля, якая змывае нашыя хісткія пляжныя канструкцыі і сыходзіць, даючы нам магчымасьць забыць пра яе – да наступнага прыступу.

Асабіста мне, пра якога дактары ў дзевяностыя казалі як да схільнага да эпілепсіі, прыпадак гэтай хваробы заўжды нагадваў момант першатварэньня, калі гліна раптам ажывае, і яшчэ бязмоўнае цела б’ецца на зямлі, яшчэ няздольнае ўмясьціць у сябе той дух, які ў ім пасялілі. Нехта добра напісаў пра гэтую раптоўную, амаль эпілептычную абрынутасьць чалавека ў сьвет: «Укінутыя сюды, мы апынаемся ў абставінах, якія не выбіралі, са зьнешнасьцю, ад якой хацелі б адмовіцца, са здольнасьцямі і прыхільнасьцямі, якія ня можам патлумачыць». Такі вось скарочаны маніфэст: экзыстэнцыялізму або эпілепсіі.





# Эўтаназія

Калісьці – гэта было яшчэ ў Менску – мяне вельмі ўзрушыла адна тэлеперадача, у якой вялося пра адмысловую швайцарскую клініку пад рамантычнай назвай «Дыгнітас», то бок «Годнасьць». Клініка спэцыялізуецца на эўтаназіі, яе пацыентамі становяцца тыя, хто, пакутуючы ад той або іншай невылечнай хваробы, вырашыў зьвесьці рахункі з жыцьцём.

Гэта як першаклясны гатэль, у якім селяцца навечна, з зайздрасьцю казаў журналіст, апісваючы клініку і называючы прыкладны кошт, у які абыходзіцца пацыентам кароткі побыт у «Дыгнітас»: такія рэчы цікавяць тэлегледачоў больш за ўсё. Кажуць, перад сьмерцю ўсе роўныя – перад такой сьмерцю, запатэнтаванай клінікай «Дыгнітас», відаць, роўныя ўсё ж ня ўсе, бо ня кожны пацыент здольны заплаціць за нумар зь відам на той сьвет... Цікава, ці ўваходзіць гэта ў іхную страхоўку: аплата эўтаназіі? Клініка сапраўды дапамагае

людзям памерці з годнасьцю, безь мітусьні, без прыніжальнага страху і роспачы – тут паміраюць падрыхтавана, спакойна, з адчуваньнем таго, што выбар сапраўды належыць ім, а сьмерць зьяўляецца як абслуга, па выкліку.

Думаю, не адзін я мучыўся тады пытаньнем: як жа яны там жывуць, якім можа быць грамадзтва, у якім запавет «не забі» ператварыўся ў пачварнае «не забі – але калі мучыцца, то можаш, і табе нічога за гэта ня будзе»? Высьветлілася, што няблага. Прынамсі, на вуліцах заходнеэўрапейскіх гарадоў мной не было заўважана ні геены вогненнай, якая ў сваіх геена-гігіенічных мэтах мусіла спапяліць забойцаў-адступнікаў у белых халатах разам зь іхнымі прыхільнікамі, ні разьверзлай зямлі пад нагамі галяндцаў, якія першымі легалізавалі эўтаназію, не было чуваць і змрочных фанфараў Страшнага суду. І нават Папа Ян Павел II , кажуць, заявіў у свой час, што «выкарыстаньне мэдыцынскіх сродкаў у некаторых выпадках можа азначаць хіба непавагу да пацыента і не прыносіць яму карысьці». Людзі гуляюць у футбол, пампуюць у сеціве парнуху, ахвяруюць на дэмакратыю, пішуць кнігі, глядзяць Эўрабачаньне, п’юць каву, ваююць за нафту, нараджаюць дзяцей, вучацца есьці сушы, працуюць, сутыкаюцца з хамствам і гвалтам, ядуць біг-макі ў мэтро, мокнуць пад дажджом, плачуць, сьмяюцца, пакрысе тупеюць. Жыцьцё працягваецца.

Але сапраўды, мала хто зь іх заўважае, як моцна зьмяніўся сьвет, калі нават клятва Гіпакрата, якая праіснавала ў амаль нязьменным выглядзе некалькі тысячагодзьдзяў, вымагае цяпер карэкцыі. Дактары, якія ўдзельнічаюць у эўтаназіі, парушаюць як мінімум некалькі яе высакародных пунктаў. Ці ўсё ж не парушаюць? Вось, напрыклад, «не нашкодзь». Але што ёсьць большай шкодай: працягваць чалавечыя пакуты ці спыніць іх? Ці ня ёсьць эўтаназія менавіта клопатам пра невылечна хворага і нічым іншым, як актам міласэрнасьці і дзейнасьцю ў інтарэсах пацыента – а ніякім не забойствам? Застаецца адзін пункт, які сапраўды парушаны: сьвятая павага да жыцьця; гэты пункт катэгарычна адмаўляе эўтаназію як несумяшчальную з працай лекара, а разам зь ёй і аборты. Але яго, здаецца, ужо адмянілі празь ягоную відавочную неактуальнасьць… Атрымліваецца, часам найвышэйшая павага да жыцьця ў тым, каб яго зьнішчыць.



Што да вышэйзгаданай сьвятой і ў той самы час абстрактнай павагі, то пра гэты аспэкт эўтаназіі цікава напісаў калісьці пісьменьнік-фантаст Тэры Пратчэт (дарэчы, хворы на Альцгаймэра і прыхільнік легалізацыі эўтаназіі).

«Уявіце сабе, што на заведама значна слабейшага чалавека напаў жахлівы монстар і шанцаў на паратунак у чалавека ад пачатку няма. Вы будзеце глядзець, як монстар з асалодай разрывае яго на кавалкі? Ці, маючы такую магчымасьць, адным уколам заб’еце няшчасную ахвяру, пазбавіўшы яе невыносных пакутаў? Ва ўсялякім выпадку, піша Пратчэт, нельга назваць асабліва гуманным рашэньне пакласьці таго чалавека і монстра ра-

зам пад цёплую коўдрачку ў белым пакойчыку і называць гэта павагай да жыцьця.»

Той самы Тэры Пратчэт піша пра свае размовы са старымі мэдсёстрамі: ён з жахам даведаўся ад гэтых жанчын, якія ўжо не баяліся пакараньня, пра тое, што эўтаназія ў шпіталях з дапамогай звычайнай падушкі – не такая ўжо рэдкая зьява. Тыя мэдсёстры не задумваліся пра законы, легалізацыю, этыку і кошт за свае паслугі, імі рухала чыстая жаночая міласэрнасьць.

Кажуць, у Бэльгіі, якая таксама легалізавала эўтаназію, у аптэках (але выключна на рэцэпт доктара) можна атрымаць за 60 эўра пакет з наборам для самагубства.

Такім чынам, павага да жыцьця можа каштаваць і значна менш, чым дзень пражываньня (ці дажываньня?) у клініцы-гатэлі «Дыгнітас». Такая сабе «дыгнітас» для бедных. Сьмерць і грошы – цікавая тэма: старажытнагрэцкі бог мэдыцыны Асклепій, нашчадкам якога ў 18-м калене лічыцца Гіпакрат – той, напрыклад, уваскрашаў мёртвых і аднаго нябожчыка ажывіў за грошы, што, пагадзіцеся, даволі дзіўна для бога.

Колькі год таму я быў у Брусэлі і, на жаль, не здагадаўся запытацца, як той набор для самагубства правільна называецца і як выглядае. Затое машына для небалючай эўтаназіі, якую змайстраваў і выкарыстоўваў у канцы мінулага стагодзьдзя амэрыканскі доктар Кеваркян, называлася прыгожа: мэрсітрон, ад слова «mercy», вядома ж.

Машына дасылала ў арганізм хворага сьмяротную дозу зьмяшаных з анальгетыкамі прэпаратаў, якія выклікалі лёгкую і доўгачаканую сьмерць. Дыгнітас, Мэрсітрон – прыемна, калі сьмерцю займаюцца людзі з густам; на абшарах былога Савецкага Саюзу такія прыстасаваньні назвалі б як-небудзь кшталту УПЖрКС-55Ч, што, зрэшты, таксама няблага, бо абезаблічвае сьмерць. Доктар Кеваркян, доктар Сьмерць, як яго называлі, адправіў на той сьвет больш за сотню сваіх сьмяротна хворых пацыентаў, па іхнай волі, не па сваёй. Яго некалькі разоў апраўдваў суд штату, але пратэсты не спыняліся, і Кеваркян ўсё адно сеў нарэшце ў турму – здаецца, больш за ўсё абурыла прысяжных тое, што доктар Кеваркян не параіўся зь іншымі мэдыкамі перад тым, як выконваць волю сваіх пацыентаў.

Іншы доктар, Філіп Ніч, вырашыў ня зьвязвацца з законам, набыць карабель і рабіць паслугі па эўтаназіі ў міжнародных, нічыйных водах. Спадзяюся, калі ён ажыцьцявіў сваю задуму, то карабель назваў адпаведна: стрымана і годна.

Да стрыманасьці і годнасьці, як і да легалізацыі «забойстваў у імя міласэрнасьці», дарасло ня кожнае грамадзтва. Па шчырасьці, я не магу назваць сябе ні прыхільнікам, ні праціўнікам эўтаназіі. І гэты артыкульчык маленькай псэўдамэдычненькай энцыкляпэдыі занадта цесны для мноства тоўстых і важных (і кожны пры гальштуку) аспэктаў такой праблемы. Ці ня стане легалізаваная эўтаназія выдатным сродкам пазбаўляцца ад сваякоў, прыладаю ў барацьбе з іншадумцамі? Дзе межы псыхічнае адэкватнасьці




чалавека, які пакутуе ад болю? Нават мэрсітрон доктара Кеваркяна быў змайстраваны так, каб пацыент меў магчымасьць перадумаць – але перадумвалі нямногія.

У Беларусі эўтаназія, наколькі я ведаю, пакуль што забароненая. Напэўна, калі б камусьці прыйшло да галавы легалізаваць яе, зрабіць гэта можна было б хіба праз рэфэрэндум – гэткі спосаб народнага волевыяўленьня тут проста абагаўляюць. Аднак наўрад ці народ падтрымаў бы такую ініцыятыву – беларусы, якія са спакойным сэрцам выступаюць супраць адмены сьмяротнага пакараньня, з такім жа унутраным душэўным спакоем не дадуць сьмяротна хвораму пазбавіцца



невыносных пакутаў. Нарадзіўся – жыві, як пісаў адзін забыты паэт, і гэта насамрэч – загад. Але ў чым я ні на каліва не сумняваюся: калі раптам такая прапанова будзе ўхваленая – ахвотных да эўтаназіі набярэцца багата, значна больш, чым здаецца прыхільнікам непарушнай айчыннай маралі.

# Паказьнік людзей, рэч(ыв)аў, істотаў і месцаў

**Людзі**

**Рэчы(вы)**

Зуброўка – «Апноэ»
Іржавая піла – «Хірургія»
Кава – «Курэньне», «Эўтаназія»
Какаін – «Ірыдадыягностыка»
Каляндар «Канец словаў» – «Скура»
Каньяк – «Сьмерць», «Цяжарнасьць»
Касьцяная нага – «Хірургія»
Каўбаса – «Батулізм»
Кацялок – «Апноэ»
Кій – «Сьмерць»
Клей «Мамент» – «Кантрацэпцыя»
Конскі волас – «Кантрацэпцыя»
Кракадзілава лайно – «Катрацэпцыя»
Кукурузныя палачкі – «Гармоны»
Лапатка – «Сьмерць»
Ліфт – «О.Р.В.І»
Люлькі – «Сьмерць», «Курэньне», «Сэрца»
Лямпачка – «Атручэньне»
Мінэральная вада – «Сьмерць»
Морфій – «Ірыдадыягностыка»
Мыш'як – «Атручэньне», «Зубы»
Мэрсітрон – «Эўтаназія»
«Нінья» – «Пранцы»
Пашпарт – «Алькагалізм», «Залежнасьць», «Зубы», «Старасьць», «Комплекс непаўнавартасьці»
Піва – «Сьмерць», «Зубы», «Алькагалізм»
«Пінта» – «Пранцы»
Пірожныя з гарбатай – «Памяць»
Працоўная кніжка – «Гармоны», «Прафэсійныя хваробы»
Пясок – «Сьмерць»
«Санта-Марыя» – «Пранцы»
Сардэлькі – «Батулізм»
Сіні стрыжань – «Жоўць»
Смаркатка – «Насмарк»
Сома – «Батулізм»
Соплі – «Насмарк»
Сэкс-лялькі – «Інтым-шоп»
Сярэбраныя кулі – «Шаленства»



Тамограф – «Ірыдадыягностыка»
Трактар – «Апноэ»
Тытунь – «Сьмерць», «Курэньне», «Памяць», «Старасьць», «Сухоты»
Тэлевізар – «Комплекс непаўнавартасьці», «Мэтэазалежнасьць»
Тэлефон – «Сьмерць»
Хлеб і відовішчы – «Страўнік»
Чарка і шкварка – «Страўнік»
Часопіс «Дзеяслоў» – «Пранцы»
Чырвоная кніга вэнэрычных хваробаў – «Пранцы»
Шляфвагэн – «Алькагалізм»
Штучная вагіна – «Сьмерць»
Японская стужка – «Рэнтген»

**Істоты**

Аднаклясьнікі – «Мэтэазалежнасьць»
Адысэй – «Памяць»
Арапофф – «Алькагалізм»
Артур Пепа – «Сэрца»
Аўтобус – «Атручэньне»
Баба Яга – «Хірургія»
Бабай – «Насмарк»
Бармалей – «Насмарк»
БелАЗ – «Дысьлексія»
Бівіс і Батхед – «Пранцы»
Бык Маліган – «Насмарк»
Бюргеры – «Алькагалізм»
Ваенрукі і трудавікі – «Рэнтген»
Вампіры, вэрвольфы, вахторы – «Шаленства»
Вера Паўлаўна – «Апноэ»
Вова і Коля – «Скура»
Воднік – «Пранцы»
Вэнэра Менская – «Пранцы»
Вэртэр – «Мігрэнь»
Галадар – «Страўнік»
Галяндзец Міхель – «Сэрца»

**Месцы**

# Гісторыя хваробы



**Альгерд Бахарэвіч** нарадзіўся ў 1975 годзе. У дзяцінстве быў надзейна прышчэплены супраць пошласьці, нацызму, камунізму, халуйства і прыстасаванства. Марыў стаць кіроўцам сьмецьцеўборачнай машыны, футбалістам, музыкам, пісьменьнікам. Напрыканцы 80-х захварэў на хранічную беларускасьць. Лежачы ў сярэдзіне дзевяностых у адным зь менскіх шпіталёў з падазрэньнем на язву страўніка, прачытаў усяго Набокава, якога дагэтуль лічыць адным з трох сваіх галоўных настаўнікаў (двое другіх Кафка і Джойс). Аўтар некалькіх зборнікаў прозы і двух раманаў: «Праклятыя госьці сталіцы», дзе з хірургічным майстэрствам распавёў гісторыю аднаго кінатэатра, і «Сарока на шыбеніцы», у якім зьдзяйсьняе падарожжа па целе і арганізьме «беднай Веранікі» (у 2010 годзе кніга выйшла ў перакладзе на нямецкую мову). У 2008 годзе ў Польшчы быў выдадзены зборнік апавяданьняў «Талент заіканьня». Перакладае фізіялягічную нямецкую



прозу (братоў Грым, Вільгельма Гаўфа, Г. Г. Эвэрса, Катрын Шміт) і паэзію. З 2001 года – муж, з 2004 – бацька, з 2007 – жыхар Вольнага ганзейскага гораду Гамбургу. Курыць. Да свайго саракагодзьдзя набліжаецца, маючы некалькі зубных пратэзаў, праблемы зь ціскам і хрыбтом, хворы страўнік, тузін прыгожых фобіяў, манаманію, сацыяпатыю і лёганэўроз, што, тым ня менш, не замінае яму кожны месяц выступаць з чытаньнямі, вандраваць, пісаць далей і заставацца адным з самых дзіўных, спрэчных і чытаных беларускіх аўтараў.

# Summary

"A Concise Medical Encyclopedia by Bacharevič" (ACMEB) is an anti-scientific work penned by non-doctor Alhierd Bacharevič and intended as a useless last resource for self-tutored practitioners of medicine.

The author describes and offers treatments for a raft of major medical, biological, clinical, and social maladies from the vantage point of a man who urgently needs medical assistance but categorically refuses to accept it.

ACMEB was being written and published on the web site of RFE/RL's Belarus Service throughout the year 2010.

The author's other works include novels "No Mercy for Valancina H." (2006), "Damned Visitors in the Capital" (2008), "The Magpie on the Gallows" (2009), and "The Cold Heart" (2009), a manual for cardiologists co-authored with W. Hauff, books of short stories, published in Belarus and abroad.

Alhierd Bacharevič currently lives in Hamburg, Germany.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —**
кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода.
Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.



*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.



**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.



**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.



*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.*
**Птушкі пералётныя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.



**Галасы Салідарнасьці.**
Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Сто адрасоў свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.**
Калекцыя 50 песьняў – падзеі года ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода.
Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2011.